ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# САВЕЦКАЯ КРАІНА



ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА ПРЫ БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК

ЖНІВЕНЬ

№ 8 (10)

193

*Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!*

# САВЕЦКАЯ КРАІНА

ШТОМЕСЯЧНЫ ОРГАН

ЦЭНТРАЛЬНАГА БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА

ПРЫ

БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК

ГОД ВЫДАНЬНЯ ДРУГІ

Жнівень

№ 8 (10)

МЕНСК — 1931

В. Серафімаў.

# Неадкладна ўключыцца ў падрыхтоўку складаньня генпляну і другой пяцігодкі.

Выходзячы з дырэктыў партыі і СНК Дзяржплян праводзіць падрыхтоўчую работу па складаньні генэральнага пляну электрыфікацыі і другой пяцігодкі. Генплян павінен даць ня толькі агульны малюнак разьвіцьця народнай гаспадаркі БССР, але паказаць разьмеры і кірунак кожнага раёну і асобных галін гаспадаркі. Бясспрэчна што гэта вялізьнейшая работа можа быць выканана пры мобілізацыі пролетарскай грамадзкасьці на гэту справу. Відавочна, што на даным адрэзку часу вырашэньне гэтай задачы павінна стаць галоўнейшым зьвяном ў працы ўсіх навукова-дасьледчых устаноў БССР. Апошні Акадэмічны Савет БАН асабліва падкрэсьліў гэту адказьнейшую задачу ў чарговай рабоце інстытутаў БАН. Геолёгічны інстытут—адказьнейшы пункт у гэтай галіне ўдарнымі тэмпамі разгортвае работу па дасьледваньню прыродных багацьцяў раёнаў БССР. Слаба разгорнута работа інстытуту экономікі і раду другіх інстытутаў, яшчэ не перабудаваўшых сваю работу, выходзячы з ударных тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва. Бясспрэчна, што гэта адставаньне трэба ліквідаваць у бліжэйшы час. Аднака-ж, было-б памылкова пакладацца выключна на дзяржаўныя навукова-дасьледчыя ўстановы без організаванага ўдзелу ў падрыхтоўцы да складаньня генпляну найшырэйшых рабочых мас, колгасьнікаў, савецкай інтэлігенцыі. Краязнаўчыя організацыі на мясцох, як масавыя навукова-дасьледчыя ячэйкі, павінны зьвязацца з райплянам РВК і, організуючы сваю работу на конкрэтныя заданьні райпляну камісіі садзейнічаньня, мобілізаваць масы на выяўленьне ўсіх рэсурсаў раёну для больш пасьпяховага разьвіцьця народнай гаспадаркі.

Вакол якіх галоўных пытаньняў павінна разгортвацца работа? На гэта пытаньне дае адказ дырэктыўны ліст Дзяржпляну БССР. 1) Якія сыравінныя энэргетычныя рэсурсы ёсьць у раёне, якія іх запасы і магчымасьці прамысловага скарыстаньня. 2) Якія прадпрыемствы ёсьць у раёне, іх становішча. Сілавы апарат. Якія магчымасьці разьвіцьця існуючых прадпрыемстваў. Якія магчымасьці пабудовы новых (Запасы мясцовай сыравіны і інш.). Колькасьць рабочых цяпер і ў аспэкце генпляну. Прапрацоўваць гэта пытаньне трэба з пункту погляду забесьпячэньня прамысловасьці вядучага пачатку ў экономічным разьвіцьці ўсяго раёну і яго спэцыялізацыі. 3) Які кірунак разьвіцьця сельскай гаспадаркі вызначаецца ў раёне. Якая ў аспэкце пяцігодкі, генпляну мяркуецца продукцыя сельскай гаспадаркі. Колькасьць саўгасаў і колгасаў. 4) Сілавыя ўстаноўкі раёну (Патрэбы прамысловасьці, сельскія гаспадаркі, бытавыя і інш.). Якое электрабудаўніцтва

патрэбна ў раёне ў пэрспэктыве десяцігодзьдзя для задаваленьня патрэб усіх галін народнае гаспадаркі (магчымасьці і патрэбы ў ім). 5) Шляхі зносін у раёне (водныя, чыгуначныя, гужавыя) і як павінна пайсьці іх разьвіцьцё для забесьпячэньня разьвіцьця ўсяго раёну. 6) Якое жыльлёва-бытавое і культурнае становішча раёну. Патрэбныя мерапрыемствы па разьвіцьці новых паселішч, паляпшэньне існуючых. Патрэбнае будаўніцтва (школы, больніцы, комунальнае будаўніцтва і г. д.).

Каротка пералічаныя пытаньні яшчэ раз падкрэсьліваюць тое, што да ўдзелу ў гэтай найдказьнейшай рабоце павінны быць прыцягнуты самі непасрэдныя будаўнікі ў тэй ці іншай галіне, якія з практыкі сваёй работы, свайго жыцьця дадуць найбагацейшы матар'ял. Краязнаўчыя організацыі на мясцох на конкрэтных пытаньнях павінны шырока разгарнуць работу, дамагаючыся росту сваіх радоў за кошт рабочых і колгасьнікаў. Раённыя кіруючыя організацыі павінны ўсімі мерамі дапамагчы краяведчым організацыям, якія сталі на рэйкі савецкага краязнаўства, адкінуўшы нацдэмаўскія ўстаноўкі ў краязнаўчай рабоце, рашуча прызнаўшы і выправіўшы свае памылкі, і шчыра працуюць на карысьць пролетарскай навукі. *Трэба гэтай работай кіраваць, дамагаючыся конкрэтных вынікаў.*

На днях мы атрымалі матар'ял з Асіпавіч. Як відаць з матар'ялаў краязнаўчай ячэйкі пры ФЗС, пад кіраўніцтвам т. Немцава праведзена вялікая работа па вывучэньню экономікі раёну. Т. Немцаў з краязнаўчай ячэйкай вельмі блізка падышоў і да падрыхтоўчай работы ў складаньні другой пяцігодкі. Праведзена значная работа па дасьледваньні прыродных багацьцяў раёну для разгортваньня прамысловасьці раёну. Закранаючы торфараспрацоўкі, т. Немцаў зазначае: „Да распрацоўкі тарфянога масыву, які зьмяшчаецца ў трыкутніку Татарка—Карыпіна—Ясень, ужо прыступлена. Запасу сыравіны на гэтым заводзе хопіць, пры ўмове здабычы 200.000 кубамэтраў у год, на 6 год. Лічба здабычы торфу можа быць выканана пры ўмове мэханізацыі заводу. Мэханізацыя завода—першачарговая задача: адсюль паўстае пытаньне аб пабудове электрастанцыі на заводзе". У пытаньні лесараспрацовак зазначаецца, што дасьледваньне гэтай справы дае пэрспэктывы на адчыненьне шпігінарнага заводу. Таксама праведзены досьледы па выяўленьню вапняку і гліны, што дае магчымасьць адчыніць адпаведныя заводы, аб чым ужо пастаўлена пытаньне перад кустпрамсаюзам. Бязумоўна, гэта далёка ня поўны матар'ял, каб мець магчымасьць складаць пяцігадовы плян; краяведам Асіпавіцкага раёну ў гэтым кірунку прыдзецца яшчэ многа папрацаваць, але гэтыя даныя сьведчаць аб тым, што краязнаўчая ячэйка ўключылася ў барацьбу за разгортваньне соцыялістычнага будаўніцтва, вывучае патрэбную справу ў гэтым кірунку і дае конкрэтныя матар'ялы. Краязнаўчая ячэйка ФЗС на правільнай дарозе і трэба другім пайсьці па яе прыкладу. Таму-ж ячэйка сама павінна ўзяць на грамадзкі буксір сваіх суседзяў і другія раёны, якія яшчэ дагэтуль не раскачаліся.

Мэтод соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва—неадлучная частка ўсёй работы паходу краязнаўчых організацый за генплян і другую пяцігодку. *Ударныя тэмпы будаўніцтва патрабуюць ударных тэмпаў і ў навуковай рабоце.* Калі асобныя галіны прамысловасьці, заводы, фабрыкі маюць свае пляны, то *краязнаўчыя організацыі павінны змагацца за сустрэчны комплексны плян.*

Профорганізацыі, выходзячы з правільнай дырэктывы Прэзыдыуму ЦСПСБ, павінны на конкрэтнай рабоце па складаньню генпляну шы-

рока разгарнуць масавую навукова-дасьледчую работу на прадпрыемствах, увязваючы гэта пытаньне з паходам за аўладаньне тэхнікай. Навучальныя ўстановы, школы конкрэтную работу па падрыхтоўцы да генпляну павінны цесна ўвязаць з барацьбой за політэхнічную школу.

Трэба організаваць прэм'яваньне лепшых ударнікаў у гэтай адказьнейшай справе, лепшых энтузыястаў-організатараў найшырэйшых мас за барацьбу за генэральны плян народнай гаспадаркі. У нас усе даныя на тое, каб дырэктывы партыі і ўраду выканаць з посьпехам.

П. Горын.

# Работа Беларускай Акадэміі Навук у першым паўгодзьдзі 1931 году.

Першае паўгодзьдзе зьявілася *сур'ёзным выпрабаваньнем* для Беларускай Акадэміі Навук.

Карыстаючыся давер'ем, якое комуністычная партыя і рабочая кляса аказвае навуковым кадрам, былое нацыянал-дэмократычнае кіраўніцтва БАН пад маскай навукі прабавала выкарыстаць Акадэмію, каб праводзіць свае рэакцыйныя погляды. Нацыянал-дэмократычныя ўстаноўкі правалакаліся амаль ва ўсіх галінах навукі, нават, здавалася-б, у такіх „нэўтральных" навуковых дысцыплінах, як мовазнаўства ці ботаніка. Наша пролетарская грамадзкасьць не магла, вядома, мірыцца з такой работай Акадэміі. Яна не магла дапусьціць, каб нацыянал-дэмократы, ахінаючыся ў забясьпечны нацыянальны колер, сапраўды тармазілі разьвіцьцё Беларускай Акадэміі Навук, як сапраўднага цэнтру беларускай соцыялістычнай культуры. Партыя і рабочая кляса не маглі дапусьціць, каб Акадэмія, якая павінна быць у авангардзе соцыялістычнай будоўлі сапраўды ня толькі ня выканала гэтых задач, але перашкаджала ім. Наколькі Акадэмія дорага працоўным масам, лепш за ўсё выявіла чыстка Акадэміі, праведзеная НК РСІ і ЦК КП(б)Б. Яна выявіла вялізарную зацікаўленасьць лёсам Акадэміі з боку многіх тысяч рабочых, вылучыўшых свае брыгады для азнаямленьня з работай Акадэміі. Справаздачныя сходы розных катэдраў Акадэміі часта праходзілі пры ўдзеле многіх соцень прадстаўнікоў ад фабрык, інстытутаў, унівэрсытэту і профэсіянальных організацый.

Чыстка Акадэміі з усёй відавочнасьцю выявіла, што нацыянал-дэмократычнае кіраўніцтва зьвіло сабе моцнае гняздо ў сьценах Акадэміі і сур'ёзна пашкодзіла разьвіцьцю навуковай мысьлі Беларусі. Сёй-той з ворагаў прабаваў паспэкуляваць, што Акадэмія перажывае ўжо апошнія дні захаду. Аб гэтым асабліва трубіў замежны буржуазны беларускі друк, які цалкам узяў пад абарону былое нацыянал-дэмократычнае кіраўніцтва Акадэміі. Але разьлікі нашых ворагаў на ліквідацыю Акадэміі *ня спраўдзіліся*. Навуковая работа ў Акадэміі не замерла. Аб гэтым могуць сьведчыць друкаваныя работы, выданыя Акадэміяй у першым паўгодзьдзі. З *300* з лішкам друкаваных аркушаў, падрыхтаваных да друку ў першым паўгодзьдзі, *вышла з друку 185 друкаваных аркушаў*. Нашы ворагі, як і заўсёды, аказаліся недабачлівымі і ня былі здольнымі зразумець, што актыўны ўдзел пролетарскай грамадзкасьці ў чыстцы Акадэміі зьявіўся *зарукай*

*далейшага росту* Акадэміі як сапраўднага, цэнтру беларускай соцыялістычнай культуры, як вышэйшага навуковага цэнтру БССР.

Гэта патрабаваньне савецкай грамадзкасьці знайшло свой адбітак і ў пастанове ўраду БССР ад 3 чэрвеня, які сваім дэкрэтам палажыў канец шкодным настроям, не разумеючым значэньня і ролі Акадэміі і, наадварот, прызнаў, што „Беларуская Акадэмія Навук павінна зьявіцца адзіным навуковым рэспубліканскім цэнтрам, у якім концэнтруецца агульнае кіраўніцтва ўсёй навукова-дасьледчай работай Беларусі“. З гэтай мэтай на Акадэмію былі ўскладзены задачы штодзеннага контролю ўсіх навукова-дасьледчых установ БССР і ўстанаўленьне іх тэматыкі.

Дэкрэт СНК, бязумоўна, *гістарычная дата* ня толькі ў жыцьці Акадэміі. Ім адкрываецца *новая старонка* і для ўсёй навукова-дасьледчай мысьлі БССР. Пастанова ўраду кладзе канец саматужніцтву і недапушчальнаму паралелізму, якое раней наглядалася ў галіне навукова-дасьледчай справы БССР. Дэкрэт ставіць сваёй задачай правядзеньне плянавага кіраўніцтва навукі, што зьяўляецца аднэй з умоў *органічнай* увязкі навукі з нашым соцыялістычным будаўніцтвам.

Пад кутом погляду актыўнага ўдзелу Акадэміі ў нашым соцыялістычным будаўніцтве была праведзена і рэорганізацыя Акадэміі. Акадэміі прышлося пераглядзець тэматыку сваіх работ і правесьці ўнутраную структуру Акадэміі, якая дазваляе цясьней увязацца з нашымі савецкімі і гаспадарчымі ўстановамі.

Замест раней існуючых у Акадэміі шматлікіх камісій, катэдраў, сэкцый і г. д. у Акадэміі цяпер створаны навукова-дасьледчыя інстытуты. Цяпер у Акадэміі існуюць інстытуты: філёзофіі, экономікі, гісторыі, савецкага будаўніцтва і права, мовазнаўства, літаратуры і мастацтва, геолёгічны, біолёгічных навук, фізыка-тэхнолёгічны, хэміка-тэхнічны, агра-глебавы і інстытут вышэйшай нэрвовай дзейнасьці. Апрача інстытутаў, у Акадэміі існуюць сэктары: яўрэйскі, польскі, літоўскі і латыскі і камісія па вывучэньні Заходняй Беларусі. Пры Акадэміі таксама знаходзіцца Цэнтральнае бюро краязнаўства.

*Рашучы паварот* Акадэміі да сучасных задач, галоўным чынам, сконцэнтраваны на барацьбе *за марксыцкую мэтодолёгію* і перагляд тэматыкі нашай навукова-дасьледчай работы. Увага Акадэміі перш за ўсё была прыкута *да выкрыцьця анты-марксыцкай мэтодолёгіі* работ, што вышлі з-пад пяра прадстаўнікоў вялікадзяржаўнага і нацыянал-дэмократычнага шовінізму. Гэта работа мае вялізарнае значэньне, бо навуковая мысьль Беларусі ня зможа з посьпехам разьвівацца бяз крытычнага перамаганьня клясава-чужых нам вялікадзяржаўных і нацыянал-дэмократычных установак. У Акадэміі і па-за ёю былі праведзены шматлікія даклады, часткова апублікаваныя ў друку, прысьвечаныя выкрыцьцю вялікадзяржаўных і нацыянал-дэмократычных установак у розных галінах навукі. Былі прачытаны даклады т. Вольфсонам „Ідэолёгія і мэтодолёгія нацыянал-дэмократызму“; т. Выдрай „Мэтодолёгія і нацыянал-дэмократызм у галіне краязнаўства“; т. Скардзіс і Бобрыкам „Любаўскі, як вялікадзяржаўны гісторык“; т. Данільчыкам „Гістарычная концэпцыя Доўнар-Запольскага“; т. Канаплінам „Нацыянал-дэмократычная концэпцыя дзяржавы“; т. Гальперынай „Сучасны пэрыод марксыцкага літаратуразнаўства“; т. Бэндэ „Аб програмах і дапамогах па беларускай літаратуры“ і г. д. Выкрыцьцю вялікадзяржаўных і нацыянал-дэмократычных установак былі прысьвечаны таксама шматлікія артыкулы, апублікаваныя ў ча-

сопісе „Савецкая краіна“, які выдаецца ў Акадэміі, у газэтах „Зьвязда“, „Савецкая Беларусь“, „Рабочий“ і іншых выданьнях.

Трэба адзначыць, што Акадэмія зусім не абмяжоўваецца праведзенай ужо барацьбой з ухіламі ад правільнай пролетарскай нацыянальнай політыкі. У цяперашні час друкуюцца і падрыхтоўваюцца да друку рад работ, што выкрываюць клясавую сутнасьць вялікадзяржаўніцтва і нацыянал-дэмократызму, які, скарыстоўваючы навуку, прасякаў амаль ва ўсе галіны ведаў. Гэтай барацьбе з клясава-чужымі нам установкамі ў галіне нацыянальнай політыкі Акадэміяй і надалей будзе аддавацца асаблівая ўвага, бо *толькі ў бязьлітаснай барацьбе з вялікадзяржаўніцтвам і нацыянал-дэмократызмам Беларуская Акадэмія Навук стане сапраўдным цэнтрам беларускай соцыялістычнай культуры* і забясьпечыць разьвіцьцё соцыялістычнай культуры іншых нацыянальнасьцяй БССР.

Пераглядаючы тэматыку сваёй навукова-дасьледчай работы, Акадэмія ўвесь час выходзіла з асноўнай задачы найцясьнейшай увязкі навукі з сучасным соцыялістычным будаўніцтвам. Гэта, вядома, ні ў якой меры не абазначае, што Акадэмія не павінна займацца агульна-тэорэтычнымі пытаньнямі, якія на першы погляд як-быццам ня маюць непасрэдных адносін да сёнешняга дня. Пераглядаючы свае вытворчыя пляны, Акадэмія іменна зыходзіць з таго, што толькі на пільным вывучэньні конкрэтнасьці магчыма пасьпяховая работа ў галіне агульна-тэорэтычных пытаньняў. Так, толькі на базе дакладнага аналізу нашага конкрэтнага экономічнага і політычнага разьвіцьця можна вывучаць і мы абавязаны вывучаць пытаньні тэорыі савецкай гаспадаркі, на базе конкрэтнага вывучэньня разьвіцьця сучаснай тэхнікі можна вывучаць проблемы электрона і г. д.

Вытворчыя пляны Акадэміі ў цяперашні час у асноўным пабудаваны пад кутом погляду вывучэньня энэргетычных сіл БССР. Рэконструкцыйны пэрыод, які павінен ператварыць Беларусь з раней адсталай аграрнай краіны ў адну з передавых часьцей СССР, патрабуе ад нас пільнага вывучэньня нашых земных багацьцяў. Нават першыя папярэднія работы геолёгічнага інстытуту даюць падставу меркаваць, што мы яшчэ самі не ўяўляем, наколькі мы багаты.

Папярэднія геолёгічныя работы Акадэміі выявілі, што ў БССР ёсьць паклады бурых жалезьнякоў цалкам выстарчальных, каб ужо практычна паставіць пытаньне аб пабудове заводу па здабычы жалеза. Геолёгічны інстытут цяпер праводзіць свае работы па далейшых досьледах бурых жалезьнякоў. Апрача таго, вядуцца работы па вывучэньні будаўнічых матар‘ялаў і саляных крыніц БССР. Цяпер вышлі з друку работы акадэміка М. Т. Бліодухо „Рэгістрацыйны сьпіс карысных выкапняў БССР“; падрыхтавана да друку праца т. Маеўскага „Бурыя жалезьнякі ў Жыткавіцкім раёне“ і інш. Агроглебавы інстытут ставіць сваёй задачай у бягучым годзе скончыць трохвёрсную глебазнаўчую карту БССР. Але навошта даводзіць, што гэта работа мае выключнае значэньне, бо стаўшая перад намі ў сувязі з рэконструкцыяй сельскай гаспадаркі проблема с.-г. раёнаваньня БССР ня можа быць праведзена бяз гэтай работы агроглебавага інстытуту. Апрача таго, агроглебавым інстытутам падрыхтавана да друку работа акадэміка Афанасьева „Глебавыя раёны БССР“.

Цікавую работу праводзіць і Інстытут біолёгічных навук, які друкуе зараз гідра-ботанічную карту БССР. Вывучэньне с.-г. культур БССР да гэтага часу вялося выпадкова. Ужо папярэднія досьледы Біолёгічнага інстытуту сьведчаць, што ў Беларусі могуць вырастаць

культуры, разьвіцьцё якіх у нас раней лічылася немагчымым. Напрыклад, станоўчыя вынікі даюць досьледы над культываваньнем соі. Адсутнасьць вялікага дасьледчага вучастку дагэтуль вельмі тармазіла работу Біолёгічнага інстытуту. Толькі цяпер з атрыманьнем у ваколіцах Менску зямельнага вучастку, інстытут прыступіў да абсталяваньня ботанічнага саду, які павінен зьявіцца шырокім дасьледчым полем Інстытуту. У бліжэйшы-ж час Геолёгічны інстытут мае намер прыступіць і да арганізацыі заолёгічнага саду, стварэньне якога будзе мець вялізарнае грамадзка-культурнае і навуковае значэньне для БССР.

У гэтым артыкуле мы не прэтэндуем хоця крыху падрабязна асьвятліць работу кожнага інстытуту. У бліжэйшы час Акадэмія мяркуе сыстэматычна асьвятляць у друку работу сваіх інстытутаў. У гэтым артыкуле мы адзначылі толькі некалькі проблем навукова-дасьледчай работы Акадэміі, якая паказвае, што Акадэмія зараз занята распрацоўкай вельмі актуальных пытаньняў, што маюць вялізарнае значэньне для нашага соцыялістычнага будаўніцтва. Пад кутом гледжаньня цясьнейшай увязкі навукі і практыкі вядзецца таксама работа ў інстытуце вышэйшай нэрвовай дзейнасьці, занятым вывучэньнем пытаньняў ударніцтва, стомленасьці і яе ліквідацыі і г. д. Інстытут філёзофіі заняты вывучэньнем клясавай барацьбы ў рэконструкцыйны пэрыод, вывучае сучасныя рэлігійныя настроі ў БССР і вядзе распрацоўку проблем нацыянальнага пытаньня ў рэконструкцыйны пэрыод.

Інстытут экономікі вывучае пытаньні аб разьмяшчэньні прамысловасьці ў БССР, прымае ўдзел у выпрацоўцы наступнай пяцігодкі, а таксама ў сувязі з новым раёнаваньнем БССР падрыхтоўвае выданьне па экономічнай географіі. Інстытут гісторыі працуе над пытаньнямі гісторыяграфіі Беларусі. Інстытут савецкага будаўніцтва вывучае работу і ролю саветаў у рэконструкцыйны пэрыод, у прыватнасьці ролю сельскіх саветаў у раёнах суцэльнай колектывізацыі. Інстытут мовазнаўства заканчвае падрыхтоўку да друку расійска-беларускага слоўніка, які ахапляе звыш 85.000 слоў.

Мы пералічылі толькі невялікае кола пытаньняў, над якімі вядзецца навукова-дасьледчая работа ў Акадэміі. Але і паданы пералік сьведчыць, што Акадэмія, як гэта прызнаў ліпеньскі пленум акадэмічнага савету, зрабіла рашучы паварот у справе ўвязкі пляну сваёй навукова-дасьледчай работы з сучаснымі задачамі соцыялістычнага будаўніцтва.

Трэба, аднак, адзначыць, што *ня ўсе* інстытуты ўжо закончылі свой рэорганізацыйны пэрыод. Трэба прызнаць яшчэ слабой работу інстытутаў літаратуры, гісторыі, хэміі і савецкага будаўніцтва. У другое паўгодзьдзе перад Акадэміяй, як асноўная задача, трэба замацаваць паварот Акадэміі да сучаснасьці.

Мы дасканала разумеем труднасьці, якія стаяць перад Акадэміяй у рэалізацыі пастаўленых задач, аднак, упэўнены, што гэтыя *труднасьці будуць пераможаны*, бо гэта труднасьці росту.

Адным з асноўных пытаньняў, што стаяць зараз перад Акадэміяй, зьяўляецца таксама павышэньне якасьці нашай навуковай продукцыі. Рэконструкцыйны пэрыод адкрывае перад савецкай навукай пэрспэктывы яшчэ нябывалыя ў гісторыі, рашуча патрабуючы ад навукі ўсё новых і новых адкрыцьцяў.

Пры рэалізацыі гаспадарчых пляраў мы ўжо часта сутыкаліся з такімі фактамі, што аб'ём ведаў спэцыялістаў капіталістычнага грамадзтва аказваецца яўна невыстарчальным, каб пабудаваць завод-

гігант або пусьціць магутную электрастанцыю. Вядомы выпадкі, калі буйныя амэрыканскія спэцыялісты аказваліся бездапаможнымі, каб даць нам патрэбную тэхнічную консультацыю. Нават такі вядомы амэрыканскі спэцыяліст па буйной сельскай гаспадарцы—Кэмпбэл—праявіў замяшанасьць, убачыўшы саўгас „Гігант".

Рэконструкцыйны пэрыод, паставіўшы перад нашай краінай задачу перагнаць капіталістычныя краіны ў тэхнічных адносінах, перш за ўсё закранае нашу навуковую мысьль, якая таксама перажывае рэконструкцыйны пэрыод. Цяпер ужо мала ведаць аб дасягненьнях навуковай мысьлі ў СССР і заграніцай. Цяпер трэба дабіцца, каб наша навука была вышэй навуковай мысьлі за граніцай. Гэтыя задачы ня могуць ня быць у цэнтры штодзеннай работы Акадэміі, якая ні на мінуту не павінна забываць аб павышэньні якасьці нашай навуковай продукцыі.

Другой асноўнай задачай зьяўляецца папаўненьне Акадэміі навуковымі кадрамі. Рэконструкцыйны пэрыод выявіў востры надахват навуковых сіл. Нам зараз, літаральна, патрэбны тысячы навуковых работнікаў. Наяўных-жа кадраў, яўна невыстарчальна. Выходзячы з гэтага, пры Акадэміі Навук быў організаваны інстытут асьпірантуры, які ставіць сваёй задачай падрыхтоўку пролетарскіх навуковых сіл. Стварэньне інстытуту асьпірантуры пры Акадэміі Навук—падзея вялікай важнасьці для ўсяго культурнага будаўніцтва БССР. Ужо ў бягучым годзе інстытут асьпірантуры падрыхтаваў некалькі навуковых работнікаў, у будучым-жа годзе мяркуе выпусьціць некалькі дзесяткаў навуковых работнікаў фізыкі, хэміі, філёзофіі, гісторыі, матэматыкі, літаратуры, геолёгіі і іншых навуковых дысцыплін. У бягучым годзе намечаны набор 180 асьпірантаў. Організавана таксама падрыхтоўчае аддзяленьне для рабочых і колгасьнікаў.

З другіх задач, што стаяць перад Акадэміяй, неабходна спыніцца на масавай рабоце Акадэміі. Да гэтага часу Беларуская Акадэмія Навук сьледавала самым горшым традыцыям рэакцыйных акадэмій, якія замыкаюцца ў свае сьцены і робяць навуку здабыткам касты вучоных. Гэты шлях ні ў якай меры, вядома, не падыходзіць для Акадэміі, якая жадае органічна зьліцца з нашым соцыялістычным будаўніцтвам. Нам трэба павесьці рашучую барацьбу, каб навуковыя дасягненьні нашых інстытутаў станавіліся *найшырэйшым здабыткам мас*.

Толькі ў *цеснай сувязі* з найшырэйшымі рабочымі масамі, толькі *пры штодзенным* падтрыманьні пролетарскай грамадзкасьці Акадэмія сапраўды ператворыцца ў магутнае вогнішча беларускай соцыялістычнай культуры і будзе сапраўдным баявым навуковым штабам. У мінулае паўгодзьдзе Акадэмія Навук зрабіла першыя крокі па сувязі з масамі. Было організавана звыш ста дакладаў на навуковыя тэмы ў клюбах і на заводах і зроблены першыя крокі па выданьні популярнай літаратуры. Аднак, гэта толькі кропля ў моры параўнальна з тым, што павінна рабіць Акадэмія. Наяўнасьць пры Акадэміі цэнтральнага бюро краязнаўства дазваляе зьвязацца Акадэміі з найшырэйшымі масамі. Умацаваньню работы краязнаўчых організацый у далейшым неабходна будзе аддаваць належную ўвагу.

Адным з мерапрыемстваў Акадэміі ў галіне масавай работы трэба адзначыць пастанову прэзыдыуму Акадэміі выдаваць масавы часопіс па пытаньнях навукі і тэхнікі, выданьне якога да гэтага часу затрымлівалася выключна з прычыны неўпарадкаванасьці работ нашых навукова-дасьледчых устаноў.

У заключэньне трэба адзначыць, што буйным тормазам у рабоце Акадэміі зьяўляецца нездавальняючасьць матар'яльнай базы. Старыя будынкі Акадэміі ўжо яўна невыстарчальны для далейшага разгортваньня навукова-дасьледчай работы. У надзвычай цяжкіх жыльлёвых умовах знаходзяцца асьпіранты. Пад пагрозай зрыву знаходзіцца пабудова новага будынку Акадэміі. Пастанова СНК аб сканчэньні ў бягучым годзе пабудовы лябораторнага корпусу дае падставу спадзявацца, што да канца году ўмовы работы Акадэміі будуць палепшаны. Акадэмія ўпэўнена, што пролетарская грамадзкасьць прыме самы актыўны ўдзел у далейшым разьвіцьці сваёй Акадэміі.

В. Самцэвіч.

# Проблема соцыялістычнай рэконструкцыі жывёлагадоўлі і задачы краязнаўчых організацый.

## 1. Разьвіцьцё жывёлагадоўлі—адна з найважнейшых задач рабочай клясы.

Вялізарны рост нашай прамысловасьці, будаўніцтва новых індустрыяльных цэнтраў і ўзбуйненьне старых, быстры рост рабочай клясы, палепшаньне дабрабыту працоўных мас, а ў сувязі з гэтым і рост соцыяльна-культурных запатрабаваньняў, выклікаюць у нашай краіне павялічэньне попыту на прадметы харчаваньня больш высокай якасьці, у першую чаргу на мяса, малако, жывёльны тлушч. З 1924 г. да 1929 г. спажываньне мяса рабочымі ў СССР павялічылася на 22 проц., а сельскім насельніцтвам на 40 проц., але гэты рост павялічэньня спажываньня мяса працоўнымі нашага Саюзу зьяўляецца далёка недастатковым, і партыя паставіла перад сабой і перад усімі працоўнымі масамі СССР задачу—да канца пяцігодкі ня менш як удвая павялічыць спажываньне мяса і малака. Адсюль і тая вялікая ўвага, якую праяўляе партыя ў адносінах да разьвіцьця жывёлагадоўлі

Проблема жывёлагадоўлі зьяўляецца цяпер самай актуальнай проблемай соцыялістычнага будаўніцтва ў галіне сельскай гаспадаркі. Значэньне і неабходнасьць хутчэйшага разьвіцьця жывёлагадоўлі выклікаецца і ўзрастаючай патрэбнасьцю нашай прамысловасьці ў сыравіне (скуры, шэрсьць і інш.), а таксама і патрэбнасьцю ў пашырэньні нашага экспорту.

Аднак, становішча жывёлагадоўлі ў нашай краіне не задавальняе гэтыя запатрабаваньні на продукты жывёлагадоўлі. Ня глядзячы на тое, што к 1929 г. мы мелі ў параўнаньні з 1916 г. пэўныя дасягненьні ў павялічэньні пагалоўя жывёлы (буйнай рагатай жывёлы—115,6 проц. сьвіней—103 проц., авечак і коз—127,8 проц.),—таварны выхад мяса і сала паменшыўся да 29,2 проц. У сувязі з злосным разбазарваньнем і зьнішчэньнем жывёлы кулакамі і некаторай несьвядомай часткай бядняцка-серадняцкага сялянства, з'агітаванага кулацтвам, 1930 год даў значнае скарачэньне жывёлаводнай гаспадаркі (буйнай рагатай жывёлы да 89,1 проц., сьвіней—да 60,1 проц. і г. д.).

Разьвіцьцё жывёлагадоўлі ў нашай краіне мае вялікае значэньне і ў сэнсе забесьпячэньня народнай гаспадаркі цягавай сілай (асабліва ў сельскай гаспадарцы). Праўда, мэханізацыя цягавай сілы ў сельскай гаспадарцы ўсяго СССР, а таксама БССР павялічваецца з кожным

месяцам, аднак, значэньне і конскай цягавай сілы на бліжэйшы пэрыод часу застаецца яшчэ ў поўнай сіле. Павялічэньне плошчы працаёмістых культур патрабуе захаваньня і нават павялічэньня конскай цягавай сілы. Разьвіцьцё жывёлагадоўлі наогул і конягадоўлі ў асаблівасьці мае вялікае значэньне і для ўзмацненьня абароназдольнасьці нашай краіны. Тым часам, на мясцох мы маем злоснае разбазарваньне коняй кулакамі і падкулачнікамі і недаацэнку конскай цягавай сілы ў раёнах суцэльнай колектывізацыі з боку некаторых паасобных мясцовых працаўнікоў і організацый, якія лічаць, што трактар ужо зараз можа замяніць каня, што грае на руку клясаваму ворагу. Колькасьць коняй па СССР за 1930 год у параўнаньні з 1929 зьменшылася на 8,3 проц. Задача ўсіх організацый заключаецца ў тым, каб рашуча змагацца з разбазарваньнем коняй пад уплывам кулацкай агітацыі.

Чым-жа тлумачыцца няўстойлівасьць нашай жывёлагадоўчай гаспадаркі? Асноўнымі прычынамі адсталасьці і экономічнай ненадзейнасьці нашай жывёлагадоўлі зьяўляюцца тыя-ж самыя недахопы, якія перашкаджалі разьвіцьцю і нашай збожжавай гаспадаркі, г. зн. дробнасьць, распыленасьць, нізкая тэхніка жывёлагадоўчых індывідуальных сялянскіх гаспадарак і іх нязначная продукцыйнасьць. Перад партыяй і савецкай уладай, такім чынам, паўстала адна з сур'ёзьнейшых задач соцыялістычнага будаўніцтва—задача вырашэньня проблемы жывёлагадоўлі, задача забесьпячэньня пролетарскіх цэнтраў і ўсяго працоўнага насельніцтва мясам, тлушчам і малочнымі продуктамі, задача задавальненьня нашай прамысловасьці сыравінай і ўзмацненьня экспорту продуктаў жывёлагадоўлі. Вось чаму XVI зьезд УсеКП(б) паставіў перад усімі партыйнымі організацыямі як адну з першачарговых задач „паскоранае правядзеньне мерапрыемстваў па аднаўленьню і разьвіцьцю *жывёлагадоўлі* і па разгортваньню прамысловасьці для вырабу продуктаў харчаваньня на базе адпаведных галін сельскай гаспадаркі". (З рэзолюцыі зьезду). Паставіць ва ўсёй шырыні задачу практычнага вырашэньня проблемы жывёлагадоўлі партыя і савецкая ўлада змаглі толькі пасьля вырашэньня ў асноўным збожжавай проблемы, бо проблема разьвіцьця жывёлагадоўлі і вырашэньня мясного пытаньня ўпіраецца ў забесьпячэньне адпаведных жывёлагадоўчых раёнаў дастатковаю колькасьцю танных зернавых продуктаў і кармоў.

„Пасьля вырашэньня ў асноўным зярнёвай проблемы зараз перад намі стала ва ўвесь свой рост задача разьвіцьця жывёлагадоўлі. Гэта вырашае і лёс палепшаньня матар'яльнага становішча рабочай клясы. У нас ёсьць некаторыя цяжкасьці з забесьпячэньнем рабочых у першую чаргу мяснымі і тлушчавымі продуктамі. Мы гэтага не хаваем. Вырашэньне гэтай задачы палепшаньня рабочага забесьпячэньня ўпіраецца ў першую чаргу ў разьвіцьцё жывёлагадоўлі (Галадзед. З дакладу на III сэсіі ЦВК БССР IX скліканьня).

## 2. Шляхі і мэтоды вырашэньня проблемы жывёлагадоўлі.

Соцыялістычная рэконструкцыя сельскай гаспадаркі ў БССР, як і ва ўсім СССР, разгортваецца па лініі рэзкай спэцыялізацыі раёнаў і паасобных саўгасаў і колгасаў у напрамку вядучых галін сельскай гаспадаркі, якая (спэцыялізацыя) забясьпечвае максымальную рацыяналізацыю і продукцыйнасьць працы. Зярнёвая проблема пасьпяхова была вырашана партыяй, дзякуючы разьвіцьцю буйных спэцыяліза-

ваных саўгасаў і колгасаў у зярнёвых раёнах. Цяпер, калі гэтая проблема ў асноўным вырашана, партыя рашуча прыступіла да вырашэньня проблемы жывёлагадоўлі і тэхнічных культур. „У вырашэньні гэтых проблем нам трэба ісьці тым-жа шляхам, якім ішлі ў галіне вырашэньня збожжавай проблемы, г. зн. праз організацыю саўгасаў і колгасаў, якія зьяўляюцца апорнымі пунктамі нашай політыкі, паступова ператвараць тэхнічную і экономічную аснову цяперашняй дробнасялянскай жывёлагадоўлі і тэхнічных культур“ (Сталін).

Такім чынам, вырашэньне проблемы жывёлагадоўлі ў БССР, як і ва ўсім Савецкім Саюзе, павінна ісьці па шляху організацыі спэцыялізаваных жывёлагадоўчых саўгасаў і колгасаў і высокатаварных фэрм. Аб гэтым-жа вельмі выразна гаворыць і пастанова ЦК УсеКП(б) і СНК СССР ад 30/VII г. г., якая зьяўляецца выходным пунктам для рашучага пералому ў справе разьвіцьця соцыялістычнай жывёлагадоўлі: „Цэнтральны камітэт УсеКП(б) і Савет народных камісараў СССР лічаць *работу па стварэньні і ўзмацненьні соцыялістычнага сэктару ў галіне жывёлагадоўлі—саўгасаў і колгасных таварных фэрм—цэнтральнай задачай бліжэйшага часу* ў галіне сельскай гаспадаркі. 1931 і 1932 гады павінны быць гадамі такога-ж рашучага пералому ў галіне разгортваньня жывёлагадоўлі, якімі былі 1929 і 1930 гады ў справе організацыі соцыялістычнай зярнёвай гаспадаркі“.

Спэцыялізацыя сельскай гаспадаркі БССР разьвіваецца ў жывёлагадоўча-ільняным напрамку з перавагай ільняна-малочнай вытворчасьці ў паўночнай часьці Рэспублікі і інтэнсыўна-прамысловай жывёлагадоўлі (сьвінагадоўля, малочная жывёла) у астатняй частцы БССР, якая становіцца адным з асноўных сьвінагадоўчых раёнаў у СССР. X зьезд саветаў БССР у сваёй пастанове з усёй выразнасьцю і катэгорычнасьцю падкрэсьліў, што ва ўмовах разьвіцьця сельскай гаспадаркі БССР жывёлагадоўля зьяўляецца аднэй з вядучых галін сельскай гаспадаркі і што на разьвіцьцё жывёлагадоўлі павінна быць зьвернута максымальная ўвага ўсіх савецкіх і гаспадарчых організацый. „Улічваючы, што аднэй з асноўных задач разьвіцьця сельскай гаспадаркі Беларускай ССР зьяўляецца проблема жывёлагадоўлі і асабліва сьвінагадоўлі, якая можа быць вырашана толькі па лініі соцыялістычнага сэктару, і што вырашэньне гэтай проблемы ў першую чаргу павінна ісьці праз стварэньне жывёлагадоўчых саўгасаў і колгасаў,— Зьезд Саветаў адзначае, што справа організацыі жывёлагадоўчых саўгасаў і колгасаў, справа організацыі жывёлагадоўчых гаспадарак павінна быць пастаўлена ў цэнтры ўвагі ўсёй работы па колгаснаму і саўгаснаму будаўніцтву“.

Гэта пастанова X Зьезду Саветаў вызначае конкрэтныя шляхі і мэтоды вырашэньня проблемы жывёлагадоўлі ў БССР, прычым гэта проблема ставіцца ў цэнтры ўвагі ўсёй работы па соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі. Савет Народных Камісараў БССР сваёй пастановай ад 3 сакавіка г. г. вызначыў конкрэтную баявую програму разьвіцьця жывёлагадоўлі на 1931 г., згодна гэтай програмы, стада буйнай рагатай жывёлы з 1.741.000 штук у 1930 г. павінна павялічыцца к канцу 1931 г. да 2.225.000 штук; з іх у саўгасах—93.250.000, у колгасах (разам з неаграмаджанай жывёлай)—1.063,500 штук, у індывідуальных бядняцка-серадняцкіх гаспадарках—1.068.250 штук. Лік спэцыялізаваных малочна-жывёлагадоўчых фэрм у саўгасах Белсельтрэсту павінен быць даведзены да 12 з 9.000 штук кароў[1]), па Белкооп-

[1]) Усяго ў саўгасах Белсельтрэсту павінна быць 38.000 голаў.

саюзу—да 22 фэрм з 12.600 штук кароў, у колгасах—да 445 фэрм з 78.000 штук кароў і ў малочных таварыствах—64 фэрмы з 3.200 штук кароў, прычым фэрмы гэтыя ўжо да 1 чэрвеня павінны быць укомплектаваны на 65 проц. Лік цялят для гадоўлі вызначаны ў 700.000 штук. Таварная продукцыя малака спэцыялізаваных малочных фэрм вызначана ў разьмеры 69.725 тон.

У галіне сьвінагадоўлі праграмай вызначаны наступныя заданьні: лік сьвінаматак у саўгасах трэсту „Сьвінавод" у 1931 г. давесьці да 75.000 штук, у прамысловых сьвінагадоўчых колгасах—да 150.000 штук абагуленых сьвінаматак у жывёлагадоўчых колгасах—да 22.500 штук. Таварная продукцыя ад сьвінагадоўлі ўстаноўлена ўсяго ў 250.000 сьвіней. Агульная-ж колькасьць сьвіней у БССР з 1.655.000 штук у 1930 г. на 1 чэрвеня 1931 г. павінна была быць даведзена да 2.925.000 штук (у саўгасах 156.000 штук, у колгасах разам з неаграмаджанымі—1.020.000 шт. і ў індывідуальных бядняцка-серадняцкіх гаспадарках—1.761.200 шт.).

Лік коняй (1.015.000 шт.) застаецца, як і ў 1930, без павялічэньня, але зьвернута вялікая ўвага на якаснае палепшаньне конскага складу.

Вызначаная ўрадам на падставе рашэньняў партыйных зьездаў баявая і грандыёзная програма разьвіцьця жывёлагадоўлі можа быць і павінна быць выканана поўнасьцю. Але для гэтага неабходна, каб усе партыйныя, савецкія, гаспадарчыя і навукова-дасьледчыя ўстановы і організацыі проблему жывёлагадоўлі паставілі ў цэнтры сваёй увагі ў практычнай працы па соцыялістычнай перабудове сельскай гаспадаркі і мобілізавалі ўсю савецкую грамадзкасьць (колгасьнікаў і бядняцка-серадняцкія масы) на выкананьне пастаўленых партыяй і ўрадам задач жывёлагадоўлі.

Неабходнымі ўмовамі для правільнага і пасьпяховага вырашэньня проблемы жывёлагадоўлі на аснове будаўніцтва жывёлагадоўчых саўгасаў і колгасаў зьяўляецца: падвядзеньне моцнай кармовай базы пад жывёлагадоўлю, палепшаньне пароды жывёлы, правільнае разьвядзеньне, догляд і ўтрыманьне жывёлы, пасьпяховае правядзеньне будаўніцтва скотных двароў, правільная організацыя працы ў жывёлагадоўчых гаспадарках і падрыхтоўка кадраў.

Кармовая база—аснова для разьвіцьця жывёлагадоўлі—да гэтага часу зьяўлялася і зьяўляецца яшчэ адным з вузкіх месц ў вырашэньні проблемы жывёлагадоўлі. Вырашэньне кармовага пытаньня ў БССР—адна з актуальнейшых задач нашага соцыялістычнага будаўніцтва ў галіне сельскай гаспадаркі. X Зьезд Саветаў БССР у сваёй пастанове вельмі выразна паставіў перад усімі савецкімі і гаспадарчымі ўстановамі і організацыямі задачу неадкладнага пашырэньня кармовай базы. „У зьвязку з тым, што маючаяся кармовая база ў Беларускай ССР далёка не забясьпечвае вырашэньня задач, пастаўленых партыяй і ўрадам у галіне разьвіцьця жывёлагадоўлі, і што недахоп кармоў ужо зьяўляецца тормазам далейшага пашырэньня стада ў саўгасах і колгасах, Зьезд Саветаў з усёй сілай падкрэсьлівае неабходнасьць пашырэньня кармовай базы і якаснага яе палепшаньня".

Будаўнічай праграмай на 1931 г. вызначана пабудаваць новых будынкаў і прыстасаваць старых на 77.300 жывёламесц для буйнай рагатай жывёлы, 195 тысяч сьвінаматачнікаў і 275 тыс. адкормачнікаў для сьвіней. Будаўніцтва ў саўгасах і колгасах мае першачарговае значэньне і павінна быць выканана поўнасьцю і сваечасова.

У справе вырашэньня проблемы жывёлагадоўлі вялізарнае значэньне мае павышэньне продукцыйнасці жывёлы праз палепшаньне

пароды жывёлы, і таму X зьезд Саветаў БССР вельмі рашуча паставіў пытаньне „павышэньня продукцыйнасьці жывёлагадоўлі праз шырокае разгортваньне мерапрыемстваў па мэтызацыі з найбольш высокапродукцыйнымі пародамі буйнай рагатай жывёлы і сьвіней". Задача павялічэньня продукцыйнасьці жывёлагадоўлі патрабуе таксама барацьбы з стратамі ў жывёлагадоўлі, карэннага палепшаньня вэтэрынарна-зоотэхнічнага пэрсоналу і поўнага выкананьня зоовэтмінімуму ва ўсіх жывёлагадоўчых гаспадарках, што патрабуе шырокай мобілізацыі і актыўнага ўдзелу ў вырашэньні гэтых задач рабочых саўгасаў і колгасьнікаў.

### 3. Задача савецкага краязнаўства ў соцыялістычнай рэконструкцыі жывёлагадоўлі.

Савецкае краязнаўства—гэта ёсьць масавая навукова-дасьледчая праца, адна з форм актыўнага ўдзелу шырокіх працоўных мас (рабочых, колгасьнікаў, бядняцка-серадняцкіх мас, савецкай-інтэлегенцыі, вучняў) у соцыялістычным будаўніцтве праз вывучэньне свайго прадпрыемства, колгасу і саўгасаў, свайго раёну ў мэтах соцыялістычнай перабудовы краіны.

Партыя перад савецкім краязнаўствам паставіла конкрэтныя задачы. У адозьве ЦК УсеКП(б) ад 30/X-1930 г. да культпропаў ЦК нацкомпартый, абкомаў і крайкомаў УсеКП(б) гэтыя задачы сформуляваны наступным чынам: „Краязнаўчы рух павінен дабіцца рашучага пералому ад кустарнага і бясплянавага, а па зьместу адарванага ад сучаснасьці, ён павінен павярнуцца да навукова-дасьледчай работы ў галіне прамысловасьці, сельскай гаспадаркі, выкарыстаньня мясцовых крыніц энэргіі, вырашэньня сыравіннай і *жывёлагадоўчай проблемы*, рацыяналізацыі пушного і рыбнага промыслаў, лесавыкарыстаньня, новабудоўлі (у тым ліку будаўніцтва гарадоў у сувязі з змаганьнем за новы быт) і г. д., да організацыі конкурсаў па монографічнаму вывучэньню фабрык і заводаў, колгасаў, саўгасаў і г. д. (курсіў мой—В. С.). Такім чынам, вырашэньне проблемы жывёлагадоўлі зьяўляецца аднэй з найгалоўнейшых задач краязнаўчых організацый.

І сапраўды: проблема жывёлагадоўлі, адна з самых жыцьцёвых проблем нашага соцыялістычнага будаўніцтва, вырашаецца ў нашай савецкай краіне зусім невядомымі капіталістычнаму сьвету соцыялістычнымі мэтодамі. У нас організуюцца буйнейшыя жывёлагадоўчыя гаспадаркі-саўгасы, колгасы, фэрмы; ня толькі по-новаму выкарыстоўваюцца дасягненьні буржуазнай навукі, але ставіцца і цэлы шэраг зусім новых задач, новых досьледаў у новых умовах соцыялістычнай організацыі працы. Разгортваецца вялізарнейшая практыка соцыялістычнага будаўніцтва буйнай жывёлагадоўчай гаспадаркі. Бязумоўна, што гэта практыка павінна быць неразрыўна зьвязана з навукова-дасьледчай працай, апірацца на навуку. Тым часам X зьезд Саветаў БССР констатаваў, што „да гэтага часу навукова-дасьледчыя ўстановы ў галіне сельскай гаспадаркі (у тым ліку і ў галіне жывёлагадоўлі—В. С.) замест таго, каб дапамагаць практыцы, значна адстаюць ад тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва". Зьезд пастанавіў „на працягу бягучага году дабіцца рашучага пералому ў справе набліжэньня навукова-дасьледчай справы да вытворчасьці (праз пастаноўку *масавых* досьледаў у саўгасах і колгасах) і абслугоўваньня ёю соцыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі (курсіў мой—В. С.). Зусім зразумела,

што навукова-дасьледчыя ўстановы толькі тады змогуць справіцца з вялізарнымі задачамі дасьледчае працы, якая павінна быць разгорнута ў галіне жывёлагадоўлі, калі ў гэту справу будуць уцягнуты масы. Соцыялістычнае будаўніцтва можа пасьпяхова разгортвацца толькі пры максымальна разгорнутай масавай дасьледчай працы. Краязнаўчая праца і зяўляецца такой масавай дасьледчай працай, якая праводзіцца ў непасрэднай сувязі з практыкай соцыялістычнага будаўніцтва, выцякае з яе, дае ёй тэорэтычнае абгрунтаваньне і ўзьнімае на вышэйшую ступень.

Цэлы шэраг нашых жывёлагадоўчых саўгасаў і колгасаў ва ўмовах шалёнай кулацкай барацьбы супроць колгасаў, шкодніцтва з боку клясава-варожых элемэнтаў і недастатковай дапамогі з боку паасобных мясцовых установ і організацый, мае ўжо значныя дасягненьні ў справе організацыі буйных аграмаджаных жывёлагадоўчых гаспадарак, (комуна „Карла Лібкнехта" Быхаўскага раёну, колгас „Чырвоны Партызан Крычаўскага раёну і інш.). Выявіць гэтыя дасягненьні, паказаць, як і ў якіх умовах рабочыя саўгасаў і колгасьнікі пад кіраўніцтвам партыі дабіліся пэўных посьпехаў—адна з задач краязнаўчых ячэек у колгасах і саўгасах.

Выяўленьне і паказ дасягненьняў нашага соцыялістычнага будаўніцтва ў пэўных конкрэтных умовах, абмен вопытам соцыялістычнага будаўніцтва зьяўляецца задачай нашага партыйна-савецкага друку і ўсіх навукова-дасьледчых установ і організацый, у тым ліку і краязнаўчых. Выяўленьне дасягненьняў і лепшага вопыту ў будаўніцтве нашых буйных соцыялістычных гаспадарак нам патрэбна для перанясеньня гэтага вопыту ў другія гаспадаркі (колгасы), яшчэ маладыя, якія такога вопыту ня маюць.

Вузкая спэцыялізацыя саўгасаў і колгасаў і паасобных раёнаў у жывёлагадоўчым напрамку зусім па-новаму ставіць самую сыстэму вядзеньня сельскай гаспадаркі, разьмеркаваньне і пропорцыю культур і г. д. Процэсы пераходу, перабудовы дробнай „унівэрсальнай" і малапродукцыйнай гаспадаркі ў буйную спэцыялізаваную і высокапродукцыйную, напр., жывёлагадоўчую гаспадарку (саўгас фэрма), зьяўляюцца вельмі складанымі і цікавымі; яны патрабуюць усебаковага і глыбокага вывучэньпя з боку шырокіх мас непасрэдных будаўнікоў новай соцыялістычнай гаспадаркі, організаваных у краязнаўчыя ячэйкі. Колгасныя і саўгасныя краязнаўчыя ячэйкі павінны дакладна вывучыць гісторыю організацыі і разьвіцьця сваіх гаспадарак, процэсы клясавай барацьбы, зьвязаныя з будаўніцтвам новага тыпу гаспадарак, барацьбу лепшых рабочых і колгасьнікаў за выкарыстаньне ўнутраных рэсурсаў саміх гаспадарак для выкананьня і перавыканьня плянавых заданьняў, за разгортваньне соцыялістычных мэтодаў працы — соцспаборніцтва і ўдарніцтва, рацыяналізацыю вытворчасьці і г. д., з тым, каб іншыя колгасы і саўгасы маглі выкарыстаць назапасены вопыт і ўнікнуць памылак. Краязнаўчыя організацыі павінны выявіць і паказаць, якія рэконструкцыйныя зрухі адбываюцца ва ўсёй гаспадарцы саўгасу і колгасу раёну ў сувязі з яе жывёлагадоўчай спэцыялізацыяй (падпарадкаваньне вядучай галіне гаспадаркі ўсіх іншых, новая расстаноўка людзей у працы і г. д.).

Усебаковае краязнаўчае вывучэньне жывёлагадоўлі ў колгасе, саўгасе, раёне павінна падвесьці навуковы грунт пад усе вытворчыя нарады, пад проекты палепшаньня жывёлагадоўлі і зьявіцца асновай для складаньня вытворчых плянаў.

## 4. Задачы краязнаўчых організацый ў вырашэньні мясной проблемы.

Вырашэньне мясной проблемы зьяўляецца аднэй з найгалоўнейшых задач партыі і ўсёй рабочай клясы. Спажываньне мяса ў нашай краіне к канцу пяцігодкі павінна павялічыцца ў два разы. У справе вырашэньня гэтай задачы галоўную ролю павінна адыграць сьвінагадоўля. Тав. Якаўлеў у сваім дакладзен а XVI зьезьдзе УсеКП(б) ролю сьвіньні ў вырашэньні мясной проблемы ахарактарызаваў такім чынам: „Усе даныя гавораць за тое, што сьвіньня нам паможа найбольш хутка вырашыць мясную проблему. Сьвіньня мае дзьве асноўных перавагі, якія павінны быць усьвядомлены як усёй партыяй, так і ўсёй краінай. Сьвіньня хутчэй, чым усе іншыя віды жывёл, стварае мяса і на адзінку спажытага корму яна дае больш мяса, чым рагатая жывёла. Гэтыя дзьве перавагі і высоўваюць сьвіньню на першае месца... Адсюль вывад: *галоўная наша машына па выпрабу мяса ў бліжэйшыя гады—сьвіньня.* Сюды павінна быць зьвернута наша ўвага, увага саўгасаў і колгасаў“.

Галоўныя перавагі сьвіньні перад іншымі відамі жывёл заключаюцца ў наступным:

а) сьвіньня найбольш скарасьпелая жывёла: пры адкорме парасё белай ангельскай пароды ў 6 месяцаў важыць 80-90 кг жывой вагі, а ў 12 месяцаў—160-180 кг;

б) свіньня пры правільным утрыманьні дае вялікі прыплод—у год 12—14 парасят;

в) сьвіньня вельмі добра аплачвае спажытыя кармы, г. зн. на павялічэньне сваёй вагі яна патрабуе значна менш кармоў, чым іншыя віды жывёлы; для вытварэньня 1 кг мяса сьвіньня затрачвае 4-5 кг кармоў (у пераводзе на зерне), а рагатая жывёла—каля 10 кг;

г) сьвіньня дае высокі процант забойнай вагі—каля 80 проц., у той час, як буйная рагатая жывёла дае толькі 50-60 проц.

Такім чынам, сьвіньня зьяўляецца вельмі высокапродукцыйнай мясасальнай жывёлай, якая ня мае роўных сабе конкурэнтаў сярод іншых відаў жывёлы.

Тэорыяй і практыкай нашага соцыялістычнага будаўніцтва даведзена, што найбольшай рэнтабельнасьці ў сьвінагаўдоўлі можна дасягнуць ў буйных спэцыялізаваных сьвінагадоўчых саўгасах і колгасах, якія ў пэўнай меры могуць выкарыстаць усе дасягненьні сучаснай навукі ў галіне сьвінагадоўлі, дзе найлепш можна організаваць працу па вырашчваньню і дагляду за сьвіньнямі. Соцыялістычнае вядзеньне гаспадаркі патрабуе разгортваньня масавай навукова-дасьледчай працы, якая павінна ахопліваць усе бакі і ўсе процэсы соцыялістычнага будаўніцтва, каб забясьпечыць выкарыстаньне ўсіх магчымасьцяй у мэтах павялічэньня максымальнай эфэктыўнасьці гаспадаркі.

Масавая навукова-дасьледчая праца краязнаўчых ячэек у сьвінагадоўчых саўгасах і колгасах павінна быць накіравана ў першую чаргу на вывучэньне шляхоў павялічэньня продукцыйнасьці сьвінагадоўлі і зьяўляецца органічнай састаўной часткай вытворчых плянаў саўгасаў і колгасаў.

Краязнаўчыя ячэйкі па вывучэньню сьвінагадоўлі павінны заняцца вывучэньнем наступных пытаньняў:

1) найбольш продукцыйныя пароды сьвіней і конкрэтныя мерапрыемствы данага саўгасу ці колгасу па палепшаньню пароды сьвіней і дасягнутыя рэзультаты;

2) мерапрыемствы і дасягнутыя посьпехі ў справе павялічэньня і захаваньня прыплоду маладняка;

3) організацыя найбольш правільнага кармленьня, догляду і ўтрыманьня парасят, дарослых і паросных сьвіней: догляд і кармленьне парасят у розныя поры году, нормы кармленьня; найлепшыя спосабы адкорму сьвіней на сала, бэкон; уплыў рознай колькасьці бульбы і нізкіх тэмпэратур на адкорм бэконных сьвіней;

4) скарыстаньне розных адкідаў для корму сьвіней і конкрэтныя вынікі;

5) вырашэньне кармовага пытаньня ў гаспадарцы: якія віды кармоў загатаўляюцца, у якой колькасьці (на адну сьвіньню) і ў якой пропорцыі (у агульным складзе кармоў), найлепшыя спосабы захаваньня; лепшы сілос для сьвіней і яго ўжываньне; найлепшае вырашэньне пытаньня адносна пашы;

6) найлепшы і найбольш танны тып сьвінарнікаў; жылая плошча, сьвет, уцяпленьне;

7) лепшы від кармушак і. г. д.;

8) найлепшыя формы організацыі працы па догляду за сьвіньнямі; мэханізацыя працы; соцспаборніцтва і ўдарніцтва (спэцыфічныя асаблівасьці);

9) найбольш пашыраныя заразьлівыя хваробы сьвіней; меры барацьбы з імі і дасягнутыя вынікі;

10) увязка іншых галін гаспадаркі з вядучай (сьвінагадоўчай) галіной [1]).

Сьвіньня ў нас цяпер зьяўляецца галоўнай мясной „фабрыкай", але мы не павінны недаацэньваць і ролі буйнай рагатай жывёлы ў атрыманьні мяса.

У мясным балянсе буйная рагатая жывёла ў нас складае каля 45 проц., прычым на ўбой ідзе вялікая колькасьць цялят у раньнім узросьце, што значна зьніжае агульную мясную продукцыйнасьць рагатай жывёлы, і таму мы павінны павесьці рашучую барацьбу супроць убою цялят ў раньнім узросьце. Галоўнейшым-жа мерапрыемствам па павялічэньню мясной продукцыі рагатай жывёлы зьяўляецца ўзбуйненьне і палепшаньне пароды мясной рагатай жывёлы. Убойная вага нашай каровы складае прыблізна 140 кг, а нямецкай 240. Зусім зразумела, што нам трэба як найхутчэй дабіцца павялічэньня таварнага выхаду мяса праз узбуйненьне буйнай рагатай жывёлы перш за ўсё. Гэта задача вырашаецца праз організацыю спэцыяльных жывёлагадоўчых саўгасаў і колгасаў, якія маюць адпаведную кармовую базу. Асноўная наша задача ў справе павялічэньня выхаду мяса—дабіцца скорасьпеласьці жывёлы праз палепшаньне кармовай базы і рацыяналізацыю кармленьня жывёлы і мэтызацыю.

Масавая дасьледчая праца ў саўгасах і колгасах і павінна мець сваёй задачай выявіць найлепшыя мясныя пароды буйнай рагатай жывёлы ў мясцовых умовах і мэтоды яе атрыманьня, найлепшыя мэтоды і ўмовы вырашчваньня мясной жывёлы, нормы кармленьня, найбольш адпаведны склад кармоў і інш.

Пэўную ролю і значэньне ў вырашэньні мяснога пытаньня павінна адыграваць трусагадоўля, гадоўля авечак і птушніцтва, прычым трусагадоўля адыгрывае значную ролю ў вырашэньні футравой проблемы, гадоўля авечак—мае значэньне для павялічэньня здабываньня шэрсь-

[1]) Пры організацыі досьледаў па сьвінагадоўлі можна выкарыстаць брошуру К. Капрыянца. „За вынаходніцтва, рацыяналізатарства і масавыя досьледы па сьвінагадоўлі".

ці для прамысловасьці; птушкі (куры, качкі) даюць вялікі прыбытак яйцамі.

Разьвіцьцё птушніцтва і трусагадоўлі ў нас таксама, як і разьвіцьцё сьвінагадоўлі і буйнай рагатай жывёлы, ідзе па лініі організацыі буйных прамысловых гаспадарак. Праца краязнаўчых ячэек па вырашэньню птушніцтва і трусагадоўлі павінна ісьці ў напрамку вывучэньня найлепшай організацыі буйных птушніцкіх і трусагадоўчых гаспадарак, найлепшых парод розных птушак і трусоў і мэтодаў іх палепшаньня, організацыі догляду, харчаваньня, умоў атрыманьня найбольшай продукцыйнасьці, організацыі кармовай базы. Неабходна вывучыць таксама найлепшы тып трусоўняў, птушарняў. Зусім зразумела, што дасьледчая праца і тут павінна быць непасрэдна зьвязана з практычнымі конкрэтнымі мерапрыемствамі па палепшаньню птушніцтва і трусагадоўлі.

### 5. Праца краязнаўчых організацый у вырашэньні малочнай проблемы.

Вырашэньне малочнай проблемы зьяўляецца другой важнейшай задачай партыі і рабочай клясы і ўсіх працоўных мас у галіне жывёлагадоўлі, якая павінна быць выкана на працягу двух год, удвая павялічыўшы забесьпячэньне рабочай клясы малаком і наогул малочнымі продуктамі. Малочная гаспадарка ў нас да гэтага часу стаяла на досыць нізкай ступені. Ня глядзячы на тое, што к 1929 году малочнае стада ў нас павялічылася ў параўнаньні з даваенным часам, малочная продукцыя зьнізілася прыблізна да 70 проц. Асноўнымі прычынамі нізкай продукцыйнасьці малочнага стада ў нас зьяўляецца распыленасьць і дробнасьць індывідуальных малочных сялянскіх гаспадарак і нізкая ўдойнасьць кароў. У той час, калі ўдойнасьць каровы у Голяндыі складае каля 3.800 кг, у Швэйцарыі 3.400 кг у год, удойнасьць нашай каровы складае толькі 1.055 кг. Адсюль і значна меншае спажываньне малочных продуктаў на чалавека: у Голяндыі—512 кг, у Германіі 300 кг, у нас ня больш 230 кг.

Павышэньне продукцыйнасьці нашай малочнай гаспадаркі павінна ісьці па шляху разьвіцьця буйных спэцыялізаваных малочных гаспадарак—саўгасаў, колгасаў і прыгарадных фэрм, палепшаньня пароды малочнай жывёлы (мэтызацыя) і падвядзеньня моцнай кармовай базы пад малочныя гаспадаркі. Практыкай нашага соцыялістычнага будаўніцтва даведзена, што задача павялічэньня продукцыйнасьці малочных кароў пасьпяхова можа быць вырашана праз палепшаньне ўмоў утрыманьня кароў у цёплых, чыстых і сьветлых хлявох, праз належны адбор жывёлы, палепшаньне і рацыяналізацыю кармленьня. Гэтага ў поўнай меры мы можам дасягнуць толькі праз організацыю саўгасаў і абагульненьня кароў у колгасах.

У сваім разьвіцьці малочная гаспадарка павінна апірацца на навуковыя даныя. Аднэй з задач дасьледчай працы ў галіне разьвіцьця буйнай рагатай жывёлы зьяўляецца вывучэньне найбольш продукцыйных парод кароў ва ўмовах БССР, і таму студзеньскі пленум ЦК КП(б)Б па дакладу т. Рачыцкага аб соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі і вясновай пасеўнай кампаніі даў заданьне Наркамзему і дасьледчым установам на працягу 1931 г. распрацаваць „пытаньне аб асноўных пародах буйнай рагатай жывёлы, якая дае ва ўмовах БССР найбольшую продукцыйнасьць“. Гэта задача, як і шэраг іншых задач дасьледчай працы ў галіне жывёлагадоўлі (у прыват-

насьці малочнай жывёлагадоўлі), можа быць пасьпяхова вырашана толькі пры ўмове арганізацыі і выкарыстаньня вынікаў масавых навукова-дасьледчых досьледаў у саўгасах і колгасах.

Краязнаўчыя ячэйкі ў саўгасах і колгасах у галіне малочнай жывёлагадоўлі павінны дасьледваць і выявіць наступныя пытаньні:

1) дасягненьні ў саўгасе ці колгасе ў справе палепшаньня мясцовай жывёлы і мэтоды гэтага палепшаньня;

2) дасягнутыя посьпехі ў павялічэньні продукцыйнасьці стада; найбольш продукцыйныя пароды жывёлы; мэтоды, якімі дасягнута найбольшая продукцыйнасьць кароў;

3) адбор і найлепшае гадаваньне маладняку (утрыманьне, догляд, выпайваньне, кармленьне);

4) найлепшае кармленьне і догляд дойных кароў да ацёлу і пасьля ацёлу; якасьць малака ў залежнасьці ад складу і якасьці кармоў; уплыў стойлавага ўтрыманьня і пашы на ўдой і якасьць малака;

5) найлепшы будынак для малочнай каровы; найлепшае абсталяваньне кароўніку, пабудова кармушак, паілак; падтрыманьне чыстаты, забесьпячэньне сьвятлом;

6) дасягненьні ў справе пераапрацоўкі і захаваньня малочных продуктаў (заводы, сыраварні, склепы); найлепшыя машыны па пераапрацоўцы малака;

7) найлепшая арганізацыя працы ў саўгасе і колгасе (разьмеркаваньне працы, абавязкі і нагрузка рабочых); унутраны распарадак на скотным двары; рацыяналізацыя працы, соцспаборніцтва і ўдарніцтва;

8) дасягнутыя посьпехі ў мэханізацыі працы, якія ўжываюцца машыны і для якой мэты;

9) найлепшае вырашэньне кармовага пытаньня: скарыстаньне грубых, сакавітых, концэнтраваных кармоў, адкідаў, сілосу; найлепшыя спосабы загатаўленьня, захаваньня і скармліваньня розных відаў кармоў; экономія кармоў;

10) рацыяналізацыя, вынаходніцтва і паступіўшыя прапановы ад рабочых саўгасу ці колгасьнікаў;

11) найбольш пашыраныя хваробы сярод жывёлы, прычыны іх і меры барацьбы;

12) дасягненьні ў выкананьні і перавыкананьні пяцігадовага пляну жывелагадоўлі[1]).

Правільна арганізаванае і шырока праведзенае ўсебаковае вывучэньне вышэйазначчных пытаньняў соцыялістычнай рэконструкцыі жывёлагадоўлі падвядзе навуковы грунт пад вытворчыя пляны і мераприемствы па дальнейшаму вырашэньню малочнай проблемы. Дасьледчая праца, праведзеная ў шырокім маштабе, выявіць багацейшы вопыт барацьбы і бальшавіцкага вырашэньня аднэй з вялізарных задач нашага соцыялістычнага будаўніцтва: на аснове вывадаў праведзеных досьледаў павінны распрацоўвацца конкрэтныя вытворчыя пляны саўгасаў і колгасаў.

## 6. Увага каню.

У сувязі з узмацненьнем мэханічнай цягавай сілы ў сельскай гаспадарцы, у паасобных колгасах і раёнах стала назірацца некаторая шкодная недаацэнка каня, як цягавай сілы, імкненьне скараціць лік

[1]) Пры складаньні тэматыкі масава-дасьледчай працы ў галіне гадоўлі буйнай рагатай жывёлы былі прыняты пад увагу тэмы Горацкай зональн. вопытнай станцыі малочнай гаспадаркі. (Мат. да 2-х месячн. соцыялістычнага абмену вопытам у с.-г.).

коняй. Разам з тым у мэтах падрыву колгасаў пашыраецца і злосная кулацкая агітацыя сярод маласьвядомай часткі беднякоў і сераднякоў (будучых колгасьнікаў) і нават колгасьнікаў за разбазарваньне і зьнішчэньне коняй. З разбазарваньнем коняй і злоснай кулацкай агітацыі трэба весьці самую рашучую барацьбу, бо і пры колектывізацыі значэньне каня ў палявых работах застаецца яшчэ на рад гадоў. Значэньне каня XVI зьезд УсеКП(б) ахарактарызаваў так: „Маючы на ўвазе, што злучэньне трактара з канём на палявых работах будзе мець месца яшчэ шэраг гадоў, неабходна дабіцца беражлівых адносін да каня і стварэньня ў адпаведных раёнах спэцыяльных саўгасаў і таварыстваў канягадоўчага напрамку“.

Заўвага краязнаўчых ячэек—вывучыць найлепшыя пароды коняй для розных патрэб колгасаў, патрэбнасьць конскай рабочай сілы для саўгасаў і колгасаў у залежнасьці ад іх спэцыялізацыі і разьмераў, норму нагрузкі каня ў розныя поры году і на розных работах, найлепшыя спосабы запражкі і г. д.

Апрача гэтых спэцыфічных пытаньняў, краязнаўчыя організацыі павінны вывучаць і агульныя пытаньні жывёлагадоўлі (умовы найлепшага ўтрыманьня, догляду, кармленьня і інш.) прыстасоўна да асаблівасьцяй пароды жывёлы.

### 7. Краязнаўчыя організацыі і задачы племяннога палепшаньня жывёлагадоўлі.

Вырашэньне задач соцыялістычнай рэконструкцыі жывёлагадоўлі ў нашай краіне павінна быць цесна зьвязана з разьвіцьцём племянной жывёлы. Асноўная работа па племяннной справе ў нас будзе праводзіцца ў спэцыяльных саўгасах, але досьледы па вывучэньню найлепшай продукцыйнасьці, найбольшай адпаведнасьці розных відаў і розных парод жывёлы, у нас павінна праводзіцца ў масавым маштабе ў колгасах і саўгасах. Вынікі гэтага вывучэньня павінны ўлічвацца адпаведнымі ўстановамі і організацыямі. У паасобных галінах жывёлагадоўлі ў нас будуць праводзіцца вопыты насаджэньня чыстакроўных парод, разьвіцьця палепшаных мясцовых парод (чырвоная беларуская парода кароў), але асноўныя мерапрыемствы будуць заключацца ў мэтызацыі жывёлы. Пры ўсіх гэтых спосабах палепшаньня пароды жывёлы патрэбна шырокая пастаноўка масавай дасьледчай працы па выяўленьню атрыманых вынікаў праведзеных мерапрыемстваў і популярызацыі іх сярод шырокіх мас колгасьнікаў і рабочых саўгасаў.

Краязнаўчыя ячэйкі ў колгасах і саўгасах асабліва вялікую ўвагу павінны зьвярнуць на вывучэньне ўмоў і спосабаў палепшаньня продукцыйнасьці мясцовых парод жывёлы і мэтысаў, якія часта па сваіх якасьцях стаяць вышэй, чым чыстакроўныя пароды. „Ад скрыжаваньня мясцовай непалепшанай маткі з ангельскім кныром атрымоўваецца прыплод, які ў многім стаіць вышэй за ангельскіх сьвіней. Ён грунтоўна замацоўвае за сабой вельмі каштоўныя якасьці бацькі і маткі. Ад ангельскіх сьвіней у яго (прыплоду) застаюцца хуткі рост і палепшаныя формы цела, ад мясцовых—прыстасаванасьць да нашага клімату і непераборлівасьць. Такія сьвіньні пры правільным кармленьні, знаходзячыся ў халодным хлеве, добра растуць і аплачваюць корм лепш, чым ангельскія“ [1]). Такія вывады атрыманы ў выніку дасьлед-

[1]) „Социалистическое земледелие“, ад 15/VIII-1930 г.

чай працы на вопытных фэрмах Маскоўскай абласьці. Цэлы шэраг каштоўных досьледаў над палепшаньнем пароды жывёлы (сьвіньні, каровы) праводзіцца ўжо і ў нашых колгасах і саўгасах, але гэтыя досьледы яшчэ недастатткова разгорнуты і не праводзяцца сыстэматычна і плянава. Краязнаўчыя організацыі (ячэйкі, гурткі) у саўгасах і колгасах павінны організаваць і праводзіць сыстэматычную і плянавую дасьледчую працу па племянному палепшаньню жывёлы. Праца гэта можа праводзіцца ў наступным напрамку:

а) умовы і спосабы палепшаньня мясцовай пароды жывёлы і павялічэньня яе продукцыйнасьці;

б) акліматызацыя завезеных чыстакроўных парод жывёлы, найлепшыя ўмовы ўтрыманьня, догляду і кармленьня (характар і склад кармоў, нормы кармленьня);

в) павялічэньне продукцыйнасьці пароды ў залежнасьці ад спосабу ўтрыманьня і догляду за жывёлай;

г) вывучэньне прыплоду ад скрыжаваньня мясцовай пароды жывёлы з чыстакроўнымі вытворцамі; продукцыйнасьць мэтысаў, умовы ўтрыманьня і г. д.;

д) вывучэньне прыплоду ад скрыжаваньня мэтысаў з чыстакроўнымі пародамі;

е) найлепшыя ўмовы ўтрыманьня, кармленьне і догляд розных парод жывёлы.

Задача племяннога палепшаньня жывёлагадоўлі зьяўляецца адной з найважнейшых задач у справе вырашэньня проблемы жывёлагадоўлі, паколькі дасягненьне якасных палепшаньняў у жывёлагадоўчай гаспадарцы зьяўляецца найбольш труднай задачай. Палепшаньне якасьці нашай жывёлы можа праводзіцца альбо шляхам адбору і размнажэньня лепшых экзэмпляраў данай пароды альбо шляхам скрыжаваньня звычайных матак з племяннымі вытворцамі. Як адзін, так і другі спосаб апраўдалі сябе на практыцы і даюць добрыя вынікі. Аднак, масавая дасьледчая праца ў гэтым напрамку можа разгарнуцца толькі ва ўмовах соцыялістычнага вядзеньня жывёлагадоўлі: у саўгасах, колгасах і жывёлагадоўчых фэрмах.

## 8. Кармовая проблема і краязнаўчая праца.

Без стварэньня належнай кармовай базы ў саўгасах і колгасах нельга канчаткова вырашыць проблему жывёлагадоўлі, бо ўжо і зараз пры павялічэньні пагалоўя жывёлы ў соцыялістычным сэктары, мы ўпіраемся ў недахоп кармоў і нізкую якасьць іх. Пытаньне аб забясьпечаньні кармамі жывёлагадоўчых саўгасаў і таварных колгасных фэрм вельмі рашуча пастаўлена ў ліпеньскай пастанове ЦК УсеКП(б) і СНК СССР: „Адзначаючы, што *стварэньне трывалай кармовай базы зьяўляецца рашаючай умовай пасьпяховага разгортваньня жывёлагадоўчых саўгасаў і таварных колгасных фэрм,* запрапанаваць зямельным органам, колгассаюзам і жывёлагадоўчым трэстам і колгасным цэнтрам поўнасьцю забясьпечыць усё пагалоўе жывёлы жывёлагадоўчых саўгасаў і колгасных фэрм уласнымі грубымі і сакавітымі кармамі“. Важнейшай задачай на бліжэйшыя гады зьяўляецца стварэньне для жывёлагадоўлі кармовай базы шляхам пашырэньня плошчы пад кармовымі культурамі і павялічэньня сенажацяй і выпасаў. Урадам БССР пастаўлена задача: на працягу 1931 году палепшыць сенажаці на плошчы 300 тыс. га, засеяць кораньплодаў 80 тыс. га і кармовых траў 470 тыс. га, загатовіць 1 млн. тон сілосу.

Вырашэньне кармовай проблемы павінна ісьці ў напрамку павялічэньня плошчы пад кармовымі культурамі, павялічэньня ўдзельнай вагі моцных і сакавітых кармоў у агульным кармовым рацыёне за кошт зьніжэньня ролі грубых кармоў. У першую чаргу нам неабходна павялічыць засеў сілосных культур, караньплодаў і кармовых траў, а побач з гэтым паляпшаць і існуючую натуральную базу жывёлагадоўлі—сенажаці і выпасы. Задача вырашэньня кармовага пытаньня востра пастаўлена перад шырокімі працоўнымі масамі, гаспадарчымі органамі і адпаведнымі навукова-дасьледчымі ўстановамі. У вырашэньні гэтай задачы павінны прыняць актыўны ўдзел і краязнаўчыя організацыі шляхам вывучэньня і адшуканьня ўсіх магчымасьцяй павялічэньня і палепшаньня нашых кармовых рэсурсаў.

Аднэй з найважнейшых задач у справе падвядзеньня моцнай кармовай базы пад жывёлагадоўлю ў нас зьяўляецца найхутчэйшае вырашэньне пытаньня аб сілосе. Сілосаваньне кармоў, у значных разьмерах пашыранае ў Паўночнай Амэрыцы, Даніі і Германіі, у нас зьяўляецца яшчэ досыць новай справай, і таму на гэтым пытаньні патрэбна сконцэнтраваць увагу ўсёй нашай савецкай грамадзкасьці, колгасьнікаў, рабочых саўгасаў і адпаведных навукова-дасьледчых устаноў і організацый. Краязнаўчыя організацыі, як масава-дасьледчыя організацыі, павінны зьявіцца першымі застрэльшчыкамі ў справе організацыі і пастаноўкі досьледаў у колгасах і саўгасах па вывучэньню: 1) найлепшых відаў сілосаваньня розных культур (халоднае і гарачае сілосаваньне); 2) найбольш адпаведных умовам кожнага колгасу і саўгасу тыпаў сілосьняў (бачарныя, ямныя і поўямныя тыпы сілосьняў); 3) найбольш прыгодных і выгадных для кожнага раёну спэцыяльных сілосных культур (сланэчнік, кукуруза, сарго, магар, пялюшка, віка, лубін і мяшанкі розных культур); 4) вывучэньне найлепшых умоў разьвядзеньне розных відаў сілосных культур у залежнасьці ад якасьці, спосабу апрацоўкі і ўгнаеньня глебы, спосабу засеву і інш.

Трэба адзначыць, што культура сланэчніку і кукурузы на сілос у БССР зусім мала вывучалася, і таму цяпер, калі пытаньне аб сілосаваньні кармоў ва ўсю шырыню пастаўлена партыяй і ўрадам перад усімі саўгасамі і колгасамі, досьледы над памянёнымі і наогул над сілоснымі культурамі павінны быць організаваны ў шырокім масавым маштабе, прычым асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на мяшанкі культур, напр., сланэчніку з вікай, пялюшкай, гарохам і інш.

Сілосаваньне кармоў мае надзвычайна вялікае экономічнае значэньне ў гаспадарцы (саўгасах, колгасах): пры сілосаваньні захоўваюцца ад страты пажыўныя матэрыі расьлін, якія ў значнай меры прападаюць пры сушцы на сена, захоўваюцца такія расьліны, якія звычайна ідуць у гной альбо зусім прападаюць (бульбоўнік, лісьце караньплодаў, сьвірэпка і наогул пустазельле), альбо якія скарыстоўваюцца неэкономна (асот, мячэўнік, бабок і інш.). Задача краязнаўчых ячэек у колгасах і саўгасах, апрача грунтоўнага і ўсебаковага вывучэньня культуры спэцыяльных сілосных расьлін, павінна заключацца таксама і ў выяўленьні ўсіх відаў дзікарастучых расьлін, якія можна выкарыстоўваць для сілосу.

Засеў кармовых траў і караньплодаў у нас хаця і павялічваецца з кожным годам (у сувязі з будаўніцтвам саўгасаў і колгасаў), аднак, у гэтай справе мы яшчэ далёка адстаем ад перадавых капіталістычных краін, напр. ад Амэрыкі, у якой кармовыя культуры займаюць звыш 61 проц. усёй пасеўнай плошчы, між тым як у СССР пад кармовымі

культурамі занята прыблізна каля 30 проц. усёй пасеўнай плошчы. Наша задача заключаецца ў тым, каб у самы кароткі час зрабіць карэнны паварот у бок пашырэньня засеву караньплодаў і кармовых траў. Сілосаваньне кармоў (галоўным чынам, спэцыяльных сілосных культур), павялічэньне засеву караньплодаў, кукурузы і кармовых траў павінны забясьпечыць нам правядзеньне рэволюцыі ў кармленьні жывёлы і ўзьняць на належную вышыню продукцыйнасьць жывёлагадоўлі ў нашай краіне.

Адначасова з вырашэньнем задачы павялічэньня засеву караньплодаў і кармовых траў і павышэньня іх ўраджайнасьці, мы павінны ўзмацніць работу па палепшаньню нашых сенажацяй і выпасаў, на якія да апошняга часу мала звярачалася ўвагі (не праводзілася асушка, ачыстка, угнаеньне сенажацяй і г. д.). Такія агротэхнічныя мерапрыемствы, як ачыстка сенажацяй і выпасаў ад кустарнікаў і купін, зьнішчэньне засьмечваючых расьлін, баранаваньне, дрэнаж забалочаных сенажацяй, угнаеньне і г. д., зьяўляюцца зусім даступнымі для кожнага колгасу і саўгасу і могуць у значнай меры павялічыць ураджайнасьць сенажацяй. Краязнаўчыя ячэйкі ў колгасах і саўгасах павінны стаяць уперадзе ў справе правядзеньня ўсіх мерапрыемстваў па вырашэньню кармовай проблемы і паставіць усю працу ў гэтым напрамку на належны навуковы грунт. Разгортваньне працы краязнаўчых ячэек у колгасах і саўгасах па вырашэньню кармовай проблемы павінна ісьці ў такім напрамку:

а) вывучэньне найбольшай ураджайнасьці розных відаў караньплодаў у залежнасьці ад глебы, апрацоўкі і ўгнаеньня глебы, часу і спосабу пасеву;

б) мэханізацыя работ па прапалцы і ўборцы караньплодаў і выяўленьне найбольш прыгодных машын;

в) найлепшыя спосабы захаваньня караньплодаў на зімовы час і спосабы скарыстаньня на корм жывёле;

г) вывучэньне найбольш ураджайных відаў кармовых траў і іх кармовай якасьці і найлепшыя спосабы сушэньня і захаваньня травяных кармоў;

д) эфэктыўнасьць розных агротэхнічных мерапрыемстваў па палепшаньню сенажацяй;

е) найлепшыя спосабы скарыстаньня розных відаў кармоў для розных відаў жывёлы і ўплыў розных кармоў на продукцыйнасьць жывёлы.

У нас яшчэ выяўлены далёка ня ўсе кармовыя рэсурсы ў колгасах і саўгасах. Слаба і недастаткова яшчэ выкарыстоўваюцца розныя адходы ў прамысловасьці па пераапрацоўцы зерня, бульбы, адкіды боень, кухань і сталовых. Наглядаюцца выпадкі недаацэнкі выкарыстаньня гэтых адкідаў і неадпаведнага іх скарыстаньня. Вопыты лепшых перадавых адкормачных пунктаў, фэрм, саўгасаў і колгасаў неабходна выявіць, паглыбіць і шырока папулярызаваць праз друк. Урэшце, вельмі важным пытаньнем у вырашэньні кармовай проблемы зьяўляецца вывучэньне і організацыя барацьбы за рацыянальнае выкарыстаньне і экономію кармоў. У гэтых адносінах у некаторых колгасах наглядаюцца выпадкі простага шкодніцтва з боку варожых элемэнтаў, якія туды прабраліся з мэтай развалу колгасаў: корм даецца бяз усякай нормы, часта неадпаведным чынам падрыхтаваны, папсаваны з прычыны недагляду і інш. Організацыя дакладнага падліку і масавых досьледаў па найлепшаму выкарыстаньню кожнага віду корму—

найлепшая гарантыя за правільнасьць выкарыстаньня кармовых рэсурсаў і адзін з сродкаў барацьбы з праявамі шкодніцтва ў жывёлагадоўлі.

## 9. Організацыя краязнаўчай масава-дасьледчай працы ў саўгасах і колгасах.

Для організацыі краязнаўчай (масава-дасьледчай) працы ў саўгасе ці колгасе перш за ўсё трэба популярызаваць сярод рабочых саўгасаў ці колгасьнікаў задачы савецкага краязнаўства і практычнае значэньне масавай-дасьледчай працы для соцыялістычнага будаўніцтва наогул і ў справе соцыялістычнай рэконструкцыі жывёлагадоўлі. У мэтах популярызацыі значэньня краязнаўчай працы трэба не абмяжоўвацца агульнымі дакладамі ці тлумачэньнямі, а паставіць рад конкрэтных задач для дасьледваньня ў самым саўгасе ці колгасе, прывесьці прыклады, калі вынікі масавых досьледаў былі выкарыстаны ў практычнай працы і далі дадатныя вынікі. Для той-жа мэты—популярызацыі краязнаўчай працы ў саўгасе ці колгасе—трэба выкарыстаць насьценныя газэты, лёзунгі, выстаўкі краязнаўчай літаратуры і інш. Гэту працу павінна правесьці раённае бюро краязнаўства сумесна з агрономам, ШКМ, комсамольскай організацыяй і рабочым (у саўгасе) ці колгасьніцкім актывам. Калі ўся падрыхтоўча-популярызацыйная праца сярод саўгасаў ці колгасаў будзе праведзена і будзе выяўлена зацікаўленасьць краязнаўчай працай, тады трэба будзе організаваць краязнаўчую ячэйку (у якую павінен увайсьці перш за ўсё актыў саўгасу ці колгасу, ударнікі, рацыяналізатары, вынаходцы, рабселькоры і інш.), абраць бюро ячэйкі і вызначыць конкрэтны плян працы, выходзячы з вытворчага пляну саўгасу ці колгасу. Тэмы для працы павінны быць актуальнымі для данай гаспадаркі, напр.: вывучэньне найлепшай організацыі працы па догляду і кармленьню сьвіней; уплыў рознага складу кармоў на ўдойнасьць кароў (у мэтах найбольш рацыянальнага кармленьня дойных кароў) і г. д. Тэмы, вызначаныя для досьледаў, павінны быць абгавораны на вытворчых нарадах і ўзгоднены з кіраўніцтвам саўгасу ці праўленьнем колгасу. Краязнаўчая ячэйка для дасьледваньня кожнай тэмы можа падзяляцца на брыгады, кожная з якіх павінна мець пэўнае заданьне і абавязкова яго выканаць. Дасьледчая праца кожнай брыгады павінна выцякаць і ўвязвацца з яе практычнай вытворчай працай (пры ўмове спэцыялізацыі працы ў саўгасе і колгасе). У дэталёвай распрацоўцы мэтодыкі і тэхнікі дасьледваньня (на першых парах асабліва) краязнаўчай ячэйцы і паасобным яе брыгадам павінны дапамагчы адпаведныя спэцыялісты: агроном, тэхнік, настаўнік і інш. Апрача таго, у паасобных саўгасах і колгасах ужо організуюцца брыгады па масавых досьледах, вынаходніцтву і рацыяналізатарству, якія працуюць пад кіраўніцтвам адпаведных навукова-дасьледчых інстытутаў. Краязняўчыя ячэйкі павінны наладзіць самую цесную сувязь з гэтымі брыгадамі ў мэтах коордынаваньня і аб'яднаньня ўсёй масавай дасьледчай працы. Уся дасьледчая праца ў галіне жывёлагадоўлі ў кожным раёне павінна правозіцца па адзінаму пляну.

Калі краязнаўчая ячэйка закончыць усебаковае (монографічнае) вывучэньне свайго саўгасу або колгасу ці вывучэньне хаця-б аднэй якой-небудзь актуальнай тэмы, яна на вытворчых нарадах ці асобных сходах павінна паставіць на шырокае абгаварэньне атрыманыя вынікі сваіх досьледаў і свае практычныя прапановы. Гэтыя вывады пасьля

дакладнага абгаварэньня, заўваг і дадаткаў могуць легчы ў аснову для правядзеньня розных рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў. Аб найбольш каштоўных выніках дасьледчай працы трэба таксама паведаміць у друку (часопісах—„Шляхі колектывізацыі", „Савецкая краіна", у газэтах—„Колгасьнік Беларусі" і інш.) у мэтах іх больш шырокай популярызацыі і абмену вопытам. Вынікі вывучэньня жывёлагадоўлі ў колгасах і праведзеных мерапрыемстваў па палепшаньню справы жывёлагадоўлі неабходна популярызаваць і сярод бядняцка-серадняцкіх мас вёскі, злучаючы гэту работу з работай па ўцягненьню гэтых мас у колгасы.

## 10. Краязнаўчая праца і проблема кадраў у колгасах.

Проблема кадраў зьяўляецца адным з самых актуальных пытаньняў нашага соцыялістычнага будаўніцтва. Асабліва адчуваецца недахоп у падрыхтаваных кадрах у галіне жывёлагадоўлі. Гэта адзначана ў пастанове ЦК УсеКП(б) ад 6/IX-1930 г., дзе гаворыцца, што „пытаньні падрыхтоўкі, перападрыхтоўкі і ўзмацненьня новымі кадрамі жывёлагадоўчых організацый набываюць рашаючае значэньне ў справе вырашэньня жывёлагадоўчай проблемы. З прычыны асаблівых цяжкасьцяй у падборы і падрыхтоўцы гэтых кадраў, зьвязаных з большай складанасьцю жывёлагадоўчай гаспадаркі ў параўнаньні з зярнёвай, у сувязі з вельмі недастатковай колькасьцю спэцыялістаў па жывёлагадоўлі наогул, амаль поўнай адсутнасьцю спэцыялістаў у зьвязаных з жывёлагадоўляй галінах гаспадаркі (кармовай і інш.), нізкай кваліфікацыяй наяўных кадраў і спэцыялістаў, не прыстасаваных да кіраўніцтва спэцыялізаванай вытворчасьцю, і ўрэшце амаль поўнай адсутнасьцю кваліфікаванай рабочай сілы (сьвінары, гуртаправы і інш.), ЦК прапануе паставіць гэта пытаньне ў цэнтры ўвагі партыйных, савецкіх і профсаюзных організацый". У мэтах вырашэньня проблемы кадраў пастановай СНК БССР ад 3/III-1931 г. Наркамзему і Белколгасцэнтру прапанавана падрыхтаваць 210 тэхнікаў па буйнай рагатай жывёле, 3800 жывёлаводаў, 220 тэхнікаў па сьвінагадоўлі, 2665 старшых сьвінароў і 130 птушкаводаў. Але, бязумоўна, справа падрыхтоўкі кадраў павінна быць значна пашырана.

У справе падрыхтоўкі кадраў па жывёлагадоўлі вялікае значэньне мае організацыя і сталае правядзеньне ў саўгасах і колгасах масавай дасьледчай працы, у процэсе якой уцягнутыя ў дасьледчую працу рабочыя саўгасаў і колгасьнікі падыходзяць да падвядзеньня навуковай падставы пад жывёлагадоўлю, выяўляюць найлепшыя мэтоды і формы вывучэньня гаспадаркі, падымаюць сваю кваліфікацыю. Стала організаваная і сыстэматычна правадзімая краязнаўчая праца ў жывёлагадоўчых саўгасах і колгасах зьявіцца пэўным сродкам падрыхтоўкі новых кадраў для жывёлагадоўлі, якія будуць весьці гаспадарку на аснове навуковых досьледаў. Разам з гэтым праз організацыю краязнаўчых ячэек у жывёлагадоўчых саўгасах і колгасах вырашаецца і задача падрыхтоўкі краязнаўчых кадраў у галіне жывёлагадоўлі.

——

Вырашэньне проблемы жывёлагадоўлі—вельмі вялікая і сур'ёзная задача, якая стаіць перад партыяй, савецкай уладай, перад усімі працоўнымі нашай краіны і навукова-дасьледчымі ўстановамі і організацыямі. Вядучы рашучую барацьбу як з правым ухілам,—галоўнай небясьпекай на даным этапе соцыялістычнага будаўніцтва, так і з ле-

вым ухілам і прымірэнцтвам да іх, мы павінны мобілізаваць усе сілы для вырашэньня задач аднэй з найгалоўнейшых проблем будаўніцтва социялістычнай сельскай гаспадаркі—проблемы жывёлагадоўлі праз організацыю буйных жывёлагадоўчых саўгасаў і колгасаў, мобілізацыю актыўнасьці рабочых саўгасаў і колгасьнікаў, організацыю соцыялістычных мэтодаў працы і выкарыстаньне масавай навукова-даследчай працы. Усе сілы і сродкі мы павінны накіраваць на тое, каб выканаць і перавыканаць тую вялізарную програму па жывёлагадоўлі, якая вызначана партыяй і ўрадам, і дапамагчы хутчэйшаму завяршэньню ў трэці рашаючы год пяцігодкі пабудовы фундаманту соцыялістычнай экономікі БССР і ўсяго Савецкага Саюзу.

**Увага.** У часе друкаваньня данага артыкулу была выдадзена пастанова ЦК КП(б)Б і СНК БССР аб разгортваньні жывёлагадоўлі ў БССР. Пастанова зьяўляецца баявой програмай разьвіцьця жывёлагадоўлі ў 1931 і 1932 гг. і вызначае конкрэтныя лічбы (якія, аднак, не маглі быць паказаны ў фактычна надрукаваным ужо артыкуле) і мерапрыемствы, забясьпечваючыя поўнае выкананьне пастановы. Дасьледчая праца краязнаўчых організацый павінна быць накіравана на хутчэйшае выкананьне пастановы ЦК і СНК.

А. Сяргееў.

# Вывучым кароў-рэкордыстак.

Узятыя тэмпы социялістычнага будаўніцтва патрабуюць ад нас найбольш хуткага і дэталёвага вывучэньня ўсіх тых багацьцяў і магчымасьцяй, якія мае наша краіна. Кожная адкрытая і вывучаная новая с/г. культура, выведзеная новая парода жывёлы альбо паляпшэньне ўжо той пароды, што ёсьць і г. д., бязумоўна, узмацняюць узятыя ўжо тэмпы нашага будаўніцтва і тым спрыяюць нашаму гаспадарчаму ўзросту. Адным з такіх пакуль што мала вывучаных і таму мала скарыстаных нашых багацьцяў трэба лічыць нашых кароў-рэкордыстак (кароў, якія даюць максымальныя для данай мясцовасьці ўдоі).

Раней лічылі, што племянная праца, а тым больш вывядзеньне новых парод і атродзьдзяў пад сілу толькі асабліва таленавітым спэцыялістам. Такая думка падмацоўвалася тым усім вядомым фактам, што амаль усе створаныя раней больш-менш вядомыя пароды атрымліваліся ў выніку працы асобных аматараў жывёлаводаў. Да гэтага трэба яшчэ дадаць, што роданачальнікам кожнай з гэтых парод зьяўляліся адзін ці некалькі ўдала скарыстаных „вялікіх“ вытворцаў.

Так, Шортгорнская парода была выведзена братамі Коленгамі, якія здолелі як належыць скарыстаць вытворніка „Фаварыт“.

Джэрзейкі ў Злучаных Штатах Паўночнай Амэрыкі атрымалі сваю популярнасьць ў Амэрыцы дзякуючы найвыдатнейшай спадчыннасьці і добрым задаткам вытворніка „Стокс, Пойс 3“.

У сучасны момант у зьвязку з новымі дасягненьнямі навукі аб спадчыннасьці і з тымі запатрабаваньнямі, якія ставіць нам соцыялістычная гаспадарка, гэта „мастацтва“ ў племяннной справе павінна быць заменена навуковым плянавым падыходам. Раней лічылі, што адбіраючы найбольш продукцыйную жывёлу і пакідаючы яе на племя, мы тым самым будзем паляпшаць і пароду. На практыцы гэта не дало відочных вынікаў, бо дзякуючы потым адкрытай тэндэнцыі звароту да сярэдняй продукцыйнасьці, характэрнай для таго статка (папуляцыі), з якога карова была ўзята, замацаваньне карысных для нас якасьцяй, па якіх ішоў адбор, зьяўляецца справай надта цяжкай.

Канечна трэба было ня толькі адбіраць такіх рэкордыстак, але-ж і падыходзіць да іх, у далейшай рабоце з імі з так званым генэтычным аналізам і ў першую чаргу з вывучэньнем іх паходжаньня. Выяўленьне рэкордыстак павінна пайсьці па ўсіх сэктарох сельскай г-кі як у соцыялістычным, гэтак і ў індывідуальным. Вызначаныя рэкордысткі ідуць потым у асобыя сэлекцыйныя гаспадаркі, дзе шляхам паглыбленай сэлекцыйнай работы з імі ў іх патомстве замацоўваюцца карысныя для г-кі якасьці (шматмалочнасьць, вялікі процант тлустасьці ў малаку, вялікая жывая вага і г. д.).

З сэлекцыйных статкаў жывёлы з замацаванымі спадчыннымі задаткамі ў выглядзе, галоўным чынам, правераных вытворнікаў, ідуць у племянныя гаспадаркі (рэпродуктары) для размнажэньня, а адтуль ужо размножаныя і ў звычайныя выкарыстоўчыя жывёлагадоўчыя гаспадаркі.

Нам здаецца, што на першым этапе гэтай справы, г. зн. у выяўленьні і вывучэньні нашых рэкордыстак, нашы краяведы павінны сказаць сваё слова. У тых гаспадарках, дзе вядуцца так званыя племянныя запісы гэта зрабіць ня цяжка. Але-ж, на жаль, такіх гаспадарак БССР мае пакуль што вельмі мала, індывідуальны сэктар цалкам і большая частка колгасаў пакуль што не ахоплены гэтымі запісамі. А яны, бязумоўна, маюць у сваіх статках каштоўных рэкордыстак. Што гэта так аб гэтым сьведчаць матар'ялы экспэдыцыі Беларускага Навукова-Дасьледчага Ін-ту Сельскай і Лясной Г-кі імя Леніна, праведзенай у 1929 г.

Гэтыя матар'ялы паказалі, што лепшыя мэтысныя жывёлы ў індывідуальным сэктары зусім не раскіданы абы-як па ўсёй БССР, а сконцэнтраваны ў асобных гнёздах.

Экспэдыцыяй пры абсьледваньні закрануты наступныя з гэтых гнёзд:

| Назва раёну, пункту і сельсавету | Абсьледвана экспэдыц. жывёл | З іх мэтысаў у %% | Кароў 2-вядзерн. (Дае пасьля ацёлу 1 вядро) | Кароў пудоўн. (Дае пасьля ацёлу 1 пуд.) | Удоі пасьля ацёлу (у літрах) | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | Сярэдні | Максымальны |
| Полацкі р-н. | | | | | | |
| 1. С-цо Белае, Кацельна, Іванова, Смалеўск. Вусьце, пас. Фрунзэ Валод. і Баярск. с/с. | 37 | 50% | 12 | 6 | 11,1 | 19 |
| Валынецкі р-н. | | | | | | |
| 1. Крыснава, Матукі, Мамонаўшчына, Міскава В.-Гуда, Галубск. с/с. | 47 | 46,6% | 18 | 9 | 11,2 | 44,0 |
| Вульскі р-н. | | | | | | |
| 1. М-ка Вула | 31 | 48,5 | 10 | 3 | 9,9 | 16 |
| Расонскі р-н. | | | | | | |
| 1. М. Клясьціцічы | 33 | 41% | 2 | — | 8,5 | 12 |
| Юравіцкі р-н. | | | | | | |
| 1. Нова-Пакроўск і Мухнаўшчына, Кажуш. с/с. | 36 | 77,5 | 6 | 5 | 7,6 | 20,0 |
| 2. Беразоўка, Бераз. с/с. | 37 | 15,4 | 4 | 3 | 6,8 | 16 |
| Нараўлянскі р-н. | | | | | | |
| 1. Беразоўка, Антонаўка, Майдан, Беразоўск. с/с. | 91 | 86,67 | 20 | 3 | 200,3 | 18 |
| Азаравіцкі р-н. | | | | | | |
| 1. Азаравічы | 28 | 48,3 | 6 | 2 | 10,2 | 20 |
| Жыткавіцкі р-н. | | | | | | |
| 1. Града, Д/Дуброва | 91 | 59,7 | 40 | 17 | 10,7 | 25,0 |

| Назва раёну, пункту і сельсавету | Абсьледвана экспэдыц. жывёл | З іх мэтысаў у %% | Кароў 2-вядзерн. (Дае пасьля ацёлу 1 вядро) | Кароў пудоўн. (Дае пасьля ацёлу 1 пуд.) | Удоі пасьля ацёлу (у літрах) | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | Сярэдні | Максымальны |
| **Быхаўскі р-н.** | | | | | | |
| 1. Слзіч, Мокр. с/с. | 43 | 18 | 8 | 3 | 6 | 20 |
| 2. Латыская колёнія | 32 | 56 | 19 | — | 11 | 16 |
| **Шклоўскі р-н.** | | | | | | |
| 1. Сьліжы, Акунёўка і Любінічы | 74 | 53,6 | 40 | 16 | 12,5 | 25 |
| 2. Чарнаručча, Чар. с/с. Таўкачы і Дуброўка Таўкач. с/с. | 89 | 24,7 | 11 | 4 | 9,2 | 16 |
| 3. Гор. Шклоў | 32 | 31,4 | 32 | 4 | 13,3 | 28 |
| **Чаўскі р-н.** | | | | | | |
| 1. Тросьлеўка, Сан. с/с. | 34 | 18,4 | 10 | 6 | 11,6 | 27 |
| 2. Далёкая Ніва | 28 | 58,4 | 16 | 6 | 14 | 25 |
| **Лупалаўскі р-н.** | | | | | | |
| 1. Мішкаўка, Мішк. с/с. | 40 | 67,6 | 10 | 2 | 9,4 | 23 |
| 2. Грабнева, Граб. с/с. | 57 | 39,0 | 17 | 1 | 9,4 | 20 |
| 3. М. Чарнеўка, х. Жданавічы, х. Амоты і пас. Вуглы, Ждан. і Чарняўск. с/с. | 66 | 26,1 | 34 | 12 | 12,2 | 36 |
| 4. Лупалава, Луп. с/с. | 28 | 41,8 | 13 | 8 | 12,5 | 22 |
| **Клімавіцкі р-н.** | | | | | | |
| 1. Галіцкая Мыза і ф. Буда | 33 | 67,1 | 12 | 7 | 10,3 | 24 |

Трэба адзначыць, што намі даны толькі гнёзды трапіўшыя ў паласу абсьледваньня (усяго было абсьледвана 18 раёнаў, у кожным раёне па некалькі сельсаветаў). Але-ж і гэтыя даныя кажуць нам аб тым, што і ў нас як і ўсюды ёсьць свае рэкордысткі. Пругледаючы гэтыя лічбы мы натыкаемся на такія сутачныя ўдоі, як 25, 27, 28 і нават 36 кілёгр. у суткі.

Скарыстоўваючы коэфіцыент Вільсона, мы маем магчымасьць казаць ужо аб такіх гадавых удоях, як 5.000, 5.400, 5.600 і нават 7.200 літраў.

Прадстаўнік Укрмалтрэста на Ўсесаюзнай Нарадзе па племяннoй справе падаў даныя аб рэкордыстках Украіны.

| Назва каровы | Колькасьць ацелаў | Максымальны сутач. ўдой | Лактац. пэрыод у днях | Дае малака За ляктацыю | За 300 д. | % тлустасьці |
|---|---|---|---|---|---|---|
| **Чырвона-нямецкая парода** | | | | | | |
| Мрыя | 5 | 51,4 | 343 | 10036 | 9629,6 | 3,47 |
| Іскра | 7 | 33,1 | 427 | 9343,6 | 7562,3 | 3,2 |
| Ліра 2 | 6 | 62,7 | 413 | 8534,5 | 7429,5 | 3,1 |
| Абраза | 5 | 39,3 | 314 | 6961,7 | 6896,4 | 3,26 |
| Лаза | 6 | 46,7 | 348 | 7190 | 6709,5 | 3,6 |
| Астра | 5 | 35,9 | 508 | 8047,4 | 6614,4 | 3,3 |
| Красуня | 7 | 32,9 | 359 | 7090,1 | 6562,2 | 3,4 |
| **Сэмэнтальская парода** | | | | | | |
| Слава | 5 | 33,5 | 300 | 6600 | 6600 | 4,42 |
| Енька | 7 | 23,9 | 353 | 4795,2 | 4792 | 4,14 |
| Кахана | 2 | 22,9 | 304 | 4649,9 | 4636,9 | 4,0 |
| **Белагаловая Каланісцкая парода** | | | | | | |
| Эстрада | 9 | 20,3 | 370 | 5072,8 | 4788,2 | 3,5 |
| Пальма | 6 | 27,1 | 342 | 4722,7 | 4581,5 | 3,7 |
| Улітка | 7 | 27,7 | 412 | 5468,7 | 4234 | 3,52 |
| **Украінская Шэрая парода** | | | | | | |
| Ялося | 8 | 26 | 336 | 5301,2 | 5122,8 | 4,07 |
| Дабрадзейка | 7 | 30,4 | 402 | 5271,6 | 4883,5 | 5,07 |
| Машоня | 9 | 24,3 | 310 | 4296,6 | 4293,6 | 3,74 |

Проф. Дзіамідаў казаў на гэтай-жа нарадзе аб рэкордыстцы Халмагорскай пароды „Малька“, якая дала за год 11.740 кг малака і рэкордыстцы Яраслаўскай пароды „Залатая“ (дала за 300 дзён 9.277 кг малака пры 4,15 проц. тлустасьці). На жаль, БССР не магла даць наконт сваіх рэкардыстак такіх выразных лічбаў.

Перад намі стаіць задача — вывучыць нашых рэкордыстак і скарыстаць іх на ўсе 100 проц. Пакідаць гэтых рэкордыстак у звычайных гаспадарках няма ніякага сэнсу. Гэтыя гаспадаркі не скарыстаюць усіх тых задаткаў, якія закладзены ў гэтых каровах. У лепшым выпадку гэтыя гаспадаркі скарыстаюць тыя вялікія ўдоі, на якія здольны рэкордысткі (пры ўмове правільнага кармленьня і ўтрыманьня). Багатыя-ж спадчынныя задаткі распыляцца ў патомстве, не пакінуўшы пасьля сябе хаця крыху прыкметнага сьледу.

Месца гэтых рэкордыстак — сэлекцыйныя гаспадаркі. Зьвернем увагу чытача і яшчэ на адну дэталь. Спадчыннасьць шматмалочнасьці і вялікага процанту тлустасьці ў малаку ідзе незалежна адно ад аднаго. Як вывад адсюль — мы павінны вызначаць ня толькі кароў шматмалочных, але-ж і кароў з вялікім процантам тлустасьці нават і ў тым выпадку, калі такія каровы ня будуць выдзяляцца па колькасьці таго малака, якое яны даюць.

На той-жа племянной нарадзе некаторыя з зоотэхнікаў спыняліся на тым, што ўсё роўна трымаць кароў шматмалочных з невялікім процантам тлустасьці, ці трымаць не такіх ужо шматмалочных, але-ж з большым процантам тлустасьці. Важна, казалі яны, атрымаць адну і тую-ж колькасьць малочнай тлустасьці. Проф. Ліскун адказаў на гэта таблічкай.

| Удой | % тлустас. | Колькас. тлуст. ва ўдоі | На 1 кг малака ідзе | | На ўсё малако ідзе | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Бялку | Карм. адз. | Бялку | Карм. адз. |
| 4000 | 3% | 120 | 42 г | 0,375 кг | 168 кг | 1380 кг |
| 3488 | 3,5% | 120 | 46 „ | 0,370 „ | 168 „ | 1268 „ |
| 3000 | 4% | 120 | 50 „ | 0,400 „ | 150 „ | 1200 „ |
| 2666 | 4,5% | 120 | 54 „ | 0,435 „ | 144 „ | 1166 „ |
| 2400 | 5% | 120 | 57 „ | 0,455 „ | 137 „ | 1092 „ |

Табліца кажа, што хоць продукцыя малака пры вялікім процанце тлустасьці абходзіцца на адзінку малака і даражэй, але продукцыя адзінкі тлустасьці, г. зн. каштоўнай часткі будзе больш таннай.

Падкрэсьліваючы ўсё сказанае, мы павінны адзначыць:

Нашым краяведам і краяведчым установам пара ўжо ўзяцца за вывучэньне і пытаньняў нашай жывёлагадоўлі, падыходзячы, такім чынам, больш шчыльна ў сваёй рабоце да с/г. вытворчасьці.

Вывучэньне гэта павінна пайсьці шляхам:

1) Выяўленьня гнёзд з найбольш каштоўнай жывёлай.

2) Вывучэньня гісторыі гэтых гнёзд, бо гэта вельмі патрэбная рэч для племработы.

3) Выяўленьня і вывучэньня ўсіх рэкордыстак, якія ёсьць у гэтых гнёздах.

Высьветліўшы і вывучыўшы нашых рэкордыстак, паставім даныя аб іх побач з данымі па РСФСР і УССР.

Самых-жа рэкордыстак нашы навукова-дасьледчыя ўстановы і земорганы павінны як-мага хутчэй скарыстаць у плянава разгорнутай племрабоце з мэтай разьвядзеньня ў нас найбольш продукцыйнай малочнай жывёлы.

І. Гершэнбаум.

# Саматужніцкае мястэчка.

*(Падабранка, Церахаўскага раёну).*

Мястэчка налічае 251 сямейства—915 душ. Па нацыянальнаму складу насельніцтва мястэчка падзяляецца наступным чынам: яўрэяў—833 чал. або 90,9 проц., беларусаў—81 чал. або 8,9 проц., украінцаў—2 чал. Гэткім чынам, пераважную большасьць насельніцтва складаюць яўрэі, і дзеля гэтага там некалькі гадоў назад быў створаны яўрэйскі нацсавет.

З агульнай колькасьці насельніцтва мястэчка 336 чалавек або 36,7 проц. зьяўляюцца самадзейнымі.

57,7 проц. самадзейнай часткі насельніцтва займаецца саматужніцтвам і маюць на сваім утрыманьні 61,7 проц. усяго насельніцтва мястэчка (гл. таб. 1).

Табл. № 1. Заняткі насельніцтва.

| | | Рабочыя | Служачыя | Саматужнікі | З іх члены арц. | Колгасьнікі | Земляробы аднаасоб. | Пэнсіонэры | Бяз пэўных заняткаў | Гандляры | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Сама-дзейныя | Абсол. кольк. | 21 | 59 | 194 | 134 | 36 | 3 | 1 | 19 | 3 | 336 |
| | %% суадносіны | 6,2 | 17,6 | 57,7 | 40 | 10,7 | 0,9 | 0,3 | 5,7 | 0,9 | 100,0 |
| Усё на-сельн. | Абсол. кольк. | 64 | 132 | 565 | 336 | 74 | 5 | 1 | 71 | 3 | 915 |
| | %% суадносіны | 7,0 | 14,5 | 61,7 | 36,5 | 8,2 | 0,5 | 0,1 | 7,7 | 0,3 | 100,0 |

Мы тут, значыць, маем дачыненьне з тыповым саматужніцкім мястэчкам. У выніку работы па гаспадарчаму ўпарадкаваньню местачковага працоўнага насельніцтва і местачковай беднаты мы маем 11,6 проц. самадзейнага насельніцтва мястэчка, якія займаюцца сельскай гаспадаркай. Колгасьнікі складаюцца з 9-ці былых фурманоў і 4-х былых дробных гандляроў (у сямействах). Але не яны характарызуюць агульны экономічны выгляд мястэчка.

Другое месца пасьля саматужнікаў займаюць служачыя, якія складаюць 17,6 проц. усяго самадзейнага насельніцтва.

Зусім нязначнае месца займаюць гандляры, усяго 0,9 проц.

Саматужнікі ў большай частцы працуюць у арцелях. З 194 саматужнікаў мястэчка ў арцелях знаходзяцца 134 або 69 проц. усёй масы саматужнікаў. Асабліва моцна ахоплены арцелямі асноўныя галіны саматужніцкай прамысловасьці Падабранкі (гл. табл. 2).

**Табл. № 2. Профэсіянальны склад саматужнікаў.**

| | Чулочнікі | Пекары | Фурманы | Усяго: Агульная Колькасьць | Усяго: З іх членаў арцелі |
|---|---|---|---|---|---|
| Абсол. кольк. | 2 | 8 | 5 | 194 | 134 |
| %% суадносіны | 1 | 4,1 | 2,6 | 100 | 69 |

| | Шаўцы | | Краўцы | | Сталяры | | Кавалі | | Плотнікі | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Аг. кольк. | З іх членаў арц. | Аг. кольк. | З іх членаў арц. | Аг. кольк. | З іх членаў арц. | Аг. кольк. | З іх членаў арц. | Аг. кольк. | З іх членаў арц. |
| Абсол. кольк. | 67 | 46 | 74 | 63 | 10 | 10 | 15 | 13 | 13 | 2 |
| %% суадносін | 34,5 | 68,6 | 38,2 | 85,1 | 5,2 | 100 | 7,7 | 86,6 | 6,7 | 15,9 |

З 194-х саматужнікаў мястэчка 72,7 проц. сконцэнтраваны ў дзьвёх профэсіях—67 чал. або 34,5 проц. зьяўляюцца шаўцамі, 74 або 38,2 проц. краўцамі. Арцелямі ахоплена краўцоў 85,1 проц., шаўцоў 68,6 проц.

Такім чынам, асноўная маса саматужнікаў фактычна ўцягнута ў аграмаджаны сэктар саматужніцкай прамысловасьці. Наогул-жа ў аграмаджаны сэктар народнай гаспадаркі ўцягнута 74,5 проц. усяго самадзейнага насельніцтва мястэчка, далучаючы сюды рабочых і служачых працуючых у коопэрацыйных і дзяржаўных установах. Мы маем тут бясспрэчна вялікія дасягненьні ў галіне ўцягненьня яўрэйскіх працоўных у соцыялістычнае будаўніцтва на месцы.

Каб мець поўнае ўяўленьне аб экономічным становішчы Падабранскага насельніцтва, трэба аналізаваць становішча мястэчковых саматужніцкіх арцеляй і прымястэчковага колгасу „Чырвоная Зорка".

Шавецкая арцель існуе з 1926 г. Цяпер яна налічае 46 членаў. Сярэдні заработак члена арцелі быў роўны:

у 1928/29 бюдж. годзе . . . . 54,36 руб. у месяц
„ 1929/30 „ „ . . . . 61,59 „ „ „
„ ўдарным квартале 1930 г. . . 71,80 „ „ „
„ студзені 1931 г. . . . . . 78,40 „ „ „

Сярэдні месячны заработак члена арцелі да студзеня 1931 г. узрос на 46 проц. параўнальна з 1928/29 бюдж. годам.

У яшчэ лепшым становішчы знаходзяцца члены арцелі краўцоў, якая была організавана ў 1928 г. Цяпер яна налічае 63 члены. Сярэдні

месячны заработак члена арцелі ва ўдарным квартале дасягаў—93 рублёў.

У асабліва добрым экономічным становішчы знаходзіцца арцель кавалёў, якая была організавана ў верасьні 1930 г. і налічае 25 членаў. Мінімальны заработак членаў арцелі ва ўдарным квартале быў 90,75 рубл. у месяц, максымальны 219,70 рубл. у месяц. Адзначыць сярэдні месячны заработак членаў гэтае арцелі цяжка, бо арцель існуе толькі некалькі месяцаў. Як сьцьвярджае праўленьне арцелі, сярэдні месячны заработак тут значна вышэй, чым адзначана ў пададных вестках.

Як мы бачым, сярэдні месячны заработак члена саматужніцкай арцелі зусім ня дрэнны і значна ўзрос за апошнія гады. Але калі мы пачнем разглядаць становішча арцеляй у сувязі з магчымасьцямі пашырэньня іх і ўцягненьня рэшты краўцоў і шаўцоў адзіночак, дык мы прыдзем да вываду, што такіх пэрспэктыў арцелі ня маюць.

У лютым месяцы г.г. шавецкая арцель была нагружана толькі на 50—60 проц., кравецкая—на 80 проц.

Чым тлумачыцца тое, што, з аднаго боку, нагрузка вышэйпаказаных арцеляй за апошні час зьмяншаецца, а з другога, што заработак членаў арцеляй павялічаецца (асабліва ў шаўцоў)?

А тым, што шавецкая арцель, якая раней вырабляла толькі новы абутак, прымушана была, з прычыны дэфіцыту скурсыравіны, заняцца рамонтам абутку. Гэта патрабуе менш рабочай сілы. Пры рамонце заработак большы чым пры вырабе новага абутку. Таму ня гледзячы на тое, што нагрузка ў арцелі зьменшылася, заработная плата ўзрасла. Пэрспэктыў да таго, каб зноў перайсьці да вырабу новага абутку гэта арцель, як і рад іншых шавецкіх арцеляй у БССР, ня мае. Ня трэба забывацца, што за апошні час узьніклі буйныя абутковыя фабрыкі, якія масамі выпускаюць абутак для спажыўца і дзеля таго няма патрэбы зьвяртацца да дапамогі саматужніцкай прамысловасьці. Таму ўсе гэтыя арцелі шаўцоў прымушаны будуць зрабіцца арцелямі па рамонту абутку.

Кравецкая арцель выкарыстоўвае, галоўным чынам, адкіды гомельских кравецкіх фабрык. Яна часткова атрымлівае апад з Кліноўскіх тэкстыльных заводаў. За апошнія месяцы арцель атрымала вельмі мала матар'ялу, нават адкіды атрымліваліся з перабоямі і не маглі задаволіць усе рабочыя рукі арцелі. Кравецкім арцелям таксама як і шавецкім застаецца толькі адно—перайсьці да рамонту вопраткі, ці да вырабу новай вопраткі па заказам спажыўцоў.

Ці маюць такія арцелі пэрспэктыву ў мястэчку?

На гэта дае адказ пастанова ЦК УсеКП(б) аб рабочым забесьпячэньні, у якой падкрэсьліваецца неабходнасьць організацыі рамонтных кравецкіх, шавецкіх і іншых арцеляй. Але для Падабранкі колькасьць організаваных у арцелях шаўцоў і краўцоў занадта вялікая, параўнаючы з пэрыфэрыяй, якую яны маюць абслугоўваць. Зусім зразумела, што аб пашырэньні арцеляй і ўцягненьні ў іх неорганізаваных саматужнікаў і гутаркі быць ня можа.

Іншае становішча мы маем у арцелі кавалёў. Яна вырабляе прасы для заводу, які знаходзіцца бліз Падабранкі, а таксама абслугоўвае вакольныя колгасы, рамантуючы іх сельска-гаспадарчыя машыны. Гэтая арцель нагружана на ўсе 100 проц. У ёй яшчэ адчуваецца недахват рабочай сілы. Магчыма, што ў бліжэйшы час наша мэталюргічная прамысловасьць зможа цалкам задаволіць цагельні прасамі і дапамога арцелі кавалёў у гэтай галіне будзе непатрэбна, але і тады

арцель будзе мець досыць работы, бо колектызаваная сельская гаспадарка, якая з кожным годам усё больш машынізуецца, патрабуе рамонтнай майстэрні і такой майстэрняй зробіцца арцель кавалёў.

Падабранскі прыместачковы колгас „Чырвоная Зорка" налічае 16 сямействаў, або 36 чалавек працаздольных. Ён мае 84 га ворыва. Становішча колгасу бясспрэчна ўзмоцніцца. Ужо ў сучасны момант наглядаецца палепшаньне яго становішча. Да сакавіка месяца ў яго ўліліся 4 новыя серадняцкія гаспадаркі, дзякуючы чаму колькасьць зямлі пад ворыва ў колгасе павялічылася на 34 га. Апрача таго, яны маюць 34 га сенажаці. Вось што піша нам брыгада газ. „Акцябар" у газэце ад 30 чэрвеня г. г. „Ня гледзячы на агітацыю кулакоў, колгас „Чырвоная Зорка" пры мястэчку Падабранка ўзрос і мае вялікія дасягненьні. Летась засеялі 8 га бульбы, сёлета—16. жыта была засеяна летась 12 гектараў, а сёлета—42; лубіну—летась 2 га, сёлета—11; аўсу—летась—12, сёлета—22 і г. д. Колгас першым скончыў у раёне веснавую сяўбу і гатоў да ўборкі".

Як бачым, колгас расьце і ўзмацняецца дзякуючы таму, што ў яго ўліваюцца вакольныя беларускія бядняцка-серадняцкія гаспадаркі. З часам ён зробіцца буйным колгасам.

## II.

Каб становішча такіх мястэчак, як Падабранка, стала для нас больш ясным, мы павінны зьвярнуць увагу на соцыяльна-экономічныя процэсы, якія адбыліся ў іх да гэтага часу і якія адбываюцца цяпер у рэконструкцыйны пэрыод. Калі мы прыгледзімся да даных народнага перапісу 1897 г., 1926 г. і перапісу 1931 г., дык пабачым, што лік насельніцтва зьменшыўся на 40,4 проц. у параўнаньні з 1897 г. (Гл. табл. 3).

**Табл. № 3. Лік насельніцтва паводле перапісу.**

| Г А Д Ы | Мужчын | Жанчын | Усяго | % зьмяншэньня |
|---|---|---|---|---|
| 1897 г. | 753 | 782 | 1535 | — |
| 1926 г. | 579 | 639 | 1218 | 20,8 |
| 1931 г. | 433 | 482 | 915 | 40,4 |

Каб высьветліць прычыны зьмяншэньня насельніцтва, мы падамо заняткі насельніцтва ў 1925 г.[1]). На жаль, мы ня маем даных, якія маглі-б адлюстраваць соцыяльны і профэсіянальны склад насельніцтва да Кастрычнікавай рэволюцыі.

Мы лічым, што даныя 1925 г. дадуць уяўленьне аб экономічным становішчы падабранскага працоўнага насельніцтва да Кастрычнікавай рэволюцыі, калі мы будзем мець на ўвазе тыя зьмены, якія адбыліся

[1]) На аснове матар'ялаў нашага абсьледваньня мястэчак, мы сабралі весткі аб соцыяльным і профэсіянальным становішчы падабранскага насельніцтва да 1925 г.

ў социяльным і профэсіянальным складзе Падабранскага насельніцтва за час ад Кастрычнікавай рэволюцыі да 1925 г.

**Табл. № 4. Заняткі насельніцтва ў 1925 і 1931 г. г.**

| | | Рабочыя | Служачыя | Саматужнікі | Земляробы | Пэнсіонэры | Бяз пэўн. занят. | Непрацоўны элем. | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1925 | Абсолют. кольк. | 21 | 46 | 284 | 4 | 2 | 55 | 32 | 444 |
| | % % суаднос. | 4,7 | 10,4 | 64 | 0,9 | 0,4 | 12,4 | 7,2 | 100 |
| 1931 | Абсолют. кольк. | 21 | 59 | 194 | 39 | 1 | 19 | 3 | 336 |
| | % % суадн. | 6,2 | 17,6 | 57,7 | 11,6 | 0,3 | 5,7 | 10,9 | 100 |

Як мы бачым з гэтай табліцы, саматужнікі ў 1925 г. складалі 64 проц. усяго самадзейнага насельніцтва. За час 1925—1931 гг. колькасьць саматужнікаў зьменшылася на 31,7 проц., што зьменшыла спэцыфічную вагу гэтай групы на 6,3 проц.

Вельмі значна зьменшылася спэцыфічная вага непрацоўнага насельніцтва: з 7,4 проц. у 1925 г. яна зьнізілася да 0,9 проц. у 1931 г. Абсолютна гэта група зьменшылася на 90,6 проц. Група асоб бяз пэўных заняткаў зьменшылася на 65,4 проц. і спэцыфічная вага яе зьнізілася з 12,4 проц. у 1925 да 5,7 проц. у 1931 г. За кошт гэтых груп павялічылася група служачых і асабліва група земляробаў.

Зьмяншэньне групы саматужнікаў ішло па дзьвёх асноўных галінах саматужніцкай прамысловасьці Падабранкі. (Гл. таб. № 5).

**Табл. 5. Зьмены ў профэсіянальным складзе саматужнікаў.**

| | | Краўцы | Шаўцы | Кавалі | Сталяры | Плотнікі | Пекары | Фурманы | Чулочнікі | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1925 | 98 | 109 | 15 | 13 | 18 | 14 | 13 | 4 | 284 |
| | 1931 | 74 | 64 | 15 | 10 | 13 | 8 | 5 | 2 | 194 |
| Зьмяншэньне | Абсолют. кольк. | —24 | —42 | — | —3 | —5 | —6 | —8 | —2 | —90 |
| | % % суаднос. | —24,5 | —38,5 | — | —23 | —27,7 | —43 | —16,5 | —50 | —31,7 |

Як відаць з табліцы колькасьць краўцоў зьмяншылася з 98 у 1925 г. да 74 у 1931 г., г. зн. на 24,5 проц. Яшчэ значней зьменшылася колькасьць шаўцоў—з 109 у 1925 г. да 67 у 1931 г.—памяншэньне на 38,5 проц.

Для нас робіцца ясным, што Падабранка належала да тыпу мястэчак з вялікай колькасьцю саматужнікаў, пераважна шаўцоў і краўцоў. Значная большасьць іх ня мела дзе прыстасаваць сваю рабочую сілу і ў гэтых профэсіях атрымаўся лішак рабочай сілы.

Палітыка, якую вёў царскі ўрад у адносінах да яўрэйскага насельніцтва ў мястэчках, прымушала іх або эміграваць у Амэрыку, або заставацца на месцы, дзе абядненьне з кожным днём усё павялічалася. Эміграваць у індустрыяльныя цэнтры былой царскай Расіі яны ня мелі магчымасьці з прычыны закону аб „чарце аселасьці“.

Іншае становішча мы маем у сучасны момант, ва ўмовах савецкай улады. З аднаго боку, мы бачым як з аб'яднаньнем саматужнікаў у шавецкія і кравецкія арцелі паляпшаецца іх матар'яльнае становішча на месцы, з другога-ж, вырашаецца проблема ўцягненьня масы гарапашнікаў у прамысловасьць і ў сельскую гаспадарку шляхам пераводу лішку рабочай сілы ў іншыя рэспублікі Саюзу. Асабліва гэты процэс узмацняецца ў рэконструкцыйным пэрыодзе.

Мы маем весткі аб 251 асобе перасяленцаў з Падабранкі за пэрыод 1925—1931 гг. У тым ліку 94 чалавека несямейных і 41 сямейства з 157 асобамі. З гэтых 251 асоб 135 зьяўляюцца самадзейнымі.

Куды ішло перасяленьне?

У БССР—64 чал. або 47,4 проц. ліку самадз. перасяленцаў.

„ РСФСР—35 чал. або 25,9 проц. ліку самадз. перасяленцаў, з іх 21 асоба альбо 15,5 проц. пераехала ў Маскву і Ленінград.

У УССР—13 чал. або 9,6 проц. ліку самадз. перасяленцаў.

„ Крым—11 „ „ 8,2 проц. „ „ „

„ іншыя месцы СССР 12 чал. або 8,9 проц.

Як бачым, большасьць перасялілася ў межы БССР і РСФСР.

**Табл. 6. Зьмены ў социяльным становішчы перасяленцаў.**

| | Рабочыя | Саматужнікі | Служачыя | Земляробы | Непрацоўны элем. | Вучн. моладзь | Бяз пэўн. заніт. | Невядома |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| У Падабранцы | — | 60 | 8 | 1 | 22 | — | 36 | — |
| На месцы перасяленьня | 44 | 6 | 15 | 13 | — | 14 | — | 30 |

Табліца № 6 паказвае, што з 127 самадзейных перасяленцаў, адносна якіх мы маем весткі, 60 было саматужнікаў. З іх толькі 6 чалавек засталіся саматужнікамі на новым месцы. Затое дабавілася 44 чалавекі рабочых і 13 землябаў, група служачых павялічылася ўдвая.

Яшчэ больш яснымі зробяцца для нас зьмены сярод групы саматужнікаў, калі мы параўнаем профэсіянальны склад перасяленцаў. З 31 краўца, што перасяліліся, толькі 5 чалавек засталіся пры сваім рамястве, з іх 4 чалавекі асталяваліся ў якасьці рабочых на фабрыцы. З агульнага ліку тых краўцоў, што перасяліліся, толькі 4 засталіся краўцамі, пры гэтым 3 з іх працуюць на фабрыцы ў якасьці рабочых.

Асталяваліся галоўным чынам на Гомельскім „Сельмаш“, на Рэчыцкіх і Новабеліцкіх сярніковых фабрыках, накіраваліся таксама ў Маскву, Ленінград, Луганск і інш. прамысловыя цэнтры. Значная колькасьць перасялілася таксама і ў Крым.

Ва ўмовах савецкай улады, асабліва ў рэконструкцыйны пэрыод, пры аграмаджаньні саматужніцкай прамысловасьці, пры форсаваньні індустрыялізацыі і колектывізацыі сельскай гаспадаркі паляпшаецца

экономічнае становішча працоўнага насельніцтва Падабранкі і зьмяняецца яе социяльны твар. Лішкі рабочай сілы мястэчку масамі перакідваюцца ў прамысловасьць і сельскую гаспадарку, уцягваючыся, такім чынам, у социялістычнае будаўніцтва Савецкага Саюзу.

Пастанова Савету Народных Камісараў СССР ад 28 чэрвеня 1931 г. аб саматужніцкай прамысловасьці і прамкоопэрацыі констатуе:

„Індустрыялізацыя краіны і социялістычная перабудова сельскай гаспадаркі выклікалі рост новых галін саматужнай прамысловасьці, зьмянілі характар існуючых промыслаў і павялічылі значэньне прамкоопэрацыі ў агульнай сыстэмы народнай гаспадаркі Саюзу".

Саматужніцкія арцелі Падабранкі зьяўляюцца галоўным вытворцам саматужніцкай прамысловасьці мястэчка. Але Падабранка прайшла міма росту новых галін саматужніцкай прамысловасьці. Гэта тлумачыцца тым, што асноўнымі галінамі з саматужніцкай прамысловасьці мястэчка зьяўляюцца шавецтва і кравецтва, якія працуюць на дэфіцытнай сыравіне. Адносна гэтых галін саматужніцкай прамысловасьці трэба ўзяць курс на выкананьне дырэктыў вышэйпаданай пастановы аб пашырэньні практыкі работы на сыравіне заказьнікаў.

Іншае становішча мы маем у тых мястэчках, дзе саматужная прамысловасьць працуе на мясцовай недэфіцытнай сыравіне. Яны маюць вялікія пэрспэктывы ў галіне свайго далейшага пашырэньня ў бліжэйшы час [1]).

У сучасны момант паўстае пытаньне аб тым, як больш рацыянальна і поўна выкарыстоўваць рабочую сілу Падабранскага працоўнага насельніцтва. Гэта можна вырашыць шляхам перакіданьня кваліфікаванай рабочай сілы ў тыя мясцовасьці СССР, дзе ў яе адчуваецца патрэба, шляхам уцягненьня іх у прамысловасьць, шляхам перасяленьня ў Крым і Біра-Біджан.

Да гэтага часу пераход на работу ў прамысловасьць ішоў стыхійна. Пераважная большасьць тых, што перасяліліся, парывала са сваімі старымі профэсіямі. Перасяленьне-ж у Крым на селскую гаспадарку ішло організавана праз Комзэт і Азэт.

Важна яшчэ адзначыць, што вярбоўнікі рабочых для Донбасу, Архангельску і інш. індустрыяльных цэнтраў Саюзу абыходзяць мястэчкі. Такія факты мелі месца ў Падабранцы. Тут вербавалі рабочых для Донбасу, Архангельску ў вакольных вёсках, а ў мястэчка не зьвярталіся, тым часам як там можна было знайсьці рабочую сілу.

Пытаньне аб рацыянальным і поўным скарыстаньні рабочай сілы ў мястэчках патрабуе пэўнай плянавасьці і організаванасьці. Гэтым павінны заняцца дзяржаўныя і грамадзкія ўстановы, працуючыя ў гэтай галіне, выходзячы з дырэктывы партыі аб ліквідацыі самацёку ў забесьпячэньні рабочай сілай нашага будаўніцтва.

[1]) У бліжэйшы час мы дамо падрабязную працу аб саматужніцкай прамысловасьці БССР на аснове матар'ялаў дасьледваньня мястэчак, якое мы праводзілі.

А. Немцаў.

# Пытаньні прамысловасьці

## ў 2-ой пяцігодцы па Асіпавіцкаму раёну.

Задача ператварэньня Беларусі аграрнай у Беларусь прамысловую, пастаўленая партыяй і ўрадам, патрабуе максымальнага напружаньня сіл, патрабуе пільнай увагі працоўных і вялікіх тэмпаў у рабоце. Здавалася-б, што гэта рэч зразумелая і вядомая ўсім, але сапраўды гэта ня так.

Хутка будзе месяц, як у Асіпавіцкім раёне створана камісія па складаньню генпляну разьвіцьця народнае гаспадаркі, але гэта камісія яшчэ ніводнага разу ня зьбіралася; не змагла сабрацца нават ніводная падкамісія, ня гледзячы на ўсе спробы і захады Асіпавіцкага райпляну.

Гэта мае дачыненьне і да аддзелу прамысловасьці. Праўда, гэты аддзел аднаго разу сабраўся ў паўскладзе, але старшыні ня было, астатнія члены прышлі непадрыхтаванымі такім чынам, нічога сталага на паседжаньні вынесена ня было. Вось і тэмпы: тэрмін складаньня пляну канчаецца 1 жніўня, а ёсьць падкамісіі, якія наогул да гэтага часу ня зьбіраліся і ня ведаюць аб тэй вялікай рабоце, якую трэба прарабіць. Мэтоды спаборніцтва і ўдарніцтва тут зусім не знайшлі сабе месца.

Работа аддзелу прамысловасьці павінна, на наш погляд, прайсьці наступным парадкам.

Чатыры галоўных сыравінных базы ёсьць ў Асіпавіцкім раёне— 1) торф, 2) лес, 3) вапняк і 4) гліна.

Да распрацоўкі тарфянога масыву, які зьмяшчаецца ў трыкутніку Татарка—Карытна—Ясень, ужо прыступлена: 2 заводы працуюць на тэрыторыі Асіпавіцкага раёну.

Запасу сыравіны на гэтым заводзе хопіць пры ўмове здабычы 200 тысяч кубамэтраў у год на 40 год. Лічба здабычы торфу можа быць выканана пры ўмове мэханізацыі заводу. Мэханізацыя заводу— першачарговая задача; адсюль паўстае пытаньне аб пабудове электрастанцыі на заводзе.

Галоўныя лясныя масывы, прыдатныя для распрацоўкі, знаходзяцца ў Асіпавіцкім раёне ў паўночнай яго частцы. Лесараспрацоўкі ідуць шпаркімі тэмпамі, але ўпушчана адна галіна—лясная хэмія. Лес зьяўляецца ня толькі пастаўшчыком дрэва, як сыравіны; ужо досьледы 1924-25 гг. (вур. Карчаваткa паказалі, што з гэтай сыравіны можна здабываць вельмі добрай якасьці шпігінар. Над справай лясной хэміі аддзелу прамысловасьці трэба добра падумаць.

Досьледы папярэдніх гадоў паказалі досыць значную наяўнасьць у Асіпавіцкім раёне долёмітызаванага вапняку. Выхады яго ёсьць

у 3-х мясцох: в. Сташча, ур. Мачынскі і в. Міхалеўшчына Дзераўц. с/с. Калі паглядзець на гэтыя мясцовасьці па карце, дык можна ўбачыць, што вызначаныя вёскі зьяўляюцца вяршынямі трыкутніка, адным бокам якога зьяўляецца палатно чыгункі на Слуцак. Зусім зразумела, што магчыма дапусьціць наяўнасьць вапняку на плошчы ўсяго гэтага трыкутніку, толькі ў адных мясцох ён выходзіць на паверхню, у другіх ляжыць прыкрытым зьверху іншымі пародамі, можа, і на значнай глыбіні. Праверка гэтага палажэньня ёсьць задача бліжэйшага часу і, у выпадку станоўчага вырашэньня, высоўвае пытаньне аб концэнтрацыі здабываньня і размолу вапняку ў адным месцы. Гэткім месцам зьяўляецца завод в. Сташчы, бо толькі ён адзін у сучасны момант можа даць павялічэньне рабочых рук, дзякуючы свайму знахаджэньню ля вялікай вёскі (іншыя пункты мала заселены)—зразумела, выходзячы з патрэб колгаснага сэктару раёну, куды размолаты вапняк павінен ісьці ў якасьці об'екту, паляпшаючага глебу. Як будаўнічы матар'ял, гэты вапняк, разьбіты на дробныя кавалачкі, скарыстаны быць ня можа.

Да апошняга часу ў Асіпавіцкім раёне зусім не зьвярталася ўвагі на гліну, а ў гэтым пытаньні Асіпав. кустпрамсаюзу ёсьць над чым падумаць. У 5-6 клм ад м. Лапічы на абодвух берагох р. Сьвіслачы, пачынаючы ад вур. Карчаватка, цягнецца спачатку ніжняя морэнавая гліна (да Жужлянкі), далей сярэдняя морэнавая гліна (да Верайцоў) і, урэшце, верхні морэнавы суглінак. Гліны, як відаць, багата. У адных мясцох яна залягае блізка ад паверхні (0,5 м), у другіх значна глыбей (на левым беразе р. Сьвіслачы на 8 мэтраў ніжэй роўню вады ў рацэ) пластом у 8—10 м грубінёю. У тым-жа вур. Карчаватка ляжыць пласт шэрай плястычнай гліны, вельмі добрай якасьці, маючай у сваім складзе да 90 проц. фізычнай гліны. Чырвоная гліна сустракаецца па раёну і ў іншых мясцох—паўстанак Дзераўцы, в. Замоша, ля Асіпавіч і інш. Ёсьць дзе-ні-дзе і малыя цагельні з колькасьцю рабочых ад 3 да 10, але яны ні ў якім разе ня могуць задаволіць патрэбы раёну. Зусім слушна, што адчыненьне ў Асіпавіцкім раёне цагельні ўжо насьпела канчаткова—слова за райкустпрамсаюзам. Канечна трэба прыняць пад увагу і тое, што мы ні ў якай меры ня можам лічыць наш раён дасканала вывучаным—трэба яго ўвесь час дасьледваць і вывучаць. Ёсьць мясьціны яшчэ нявывучаныя—ва ўр. Усьцянка ёсьць шэрая гліна, яна-ж сустракаецца і ў пас. Карытна.

Аб іншых карысных выкапнях нашага раёну вядома мала.

Кварцавы пясок („гутавы“) сустракаецца ў малой колькасьці, напр., ва ўр. Пераслава (3 клм на захад ад паўст. Дзераўцы) гэты пясок залягае на глыбіні 10—15 см грубінёй да 40 см навакол балоцістых мясьцін.

У нязначных накапленьнях сустракаецца балотная жалезная руда. У даўнейшыя часы гэта руда распрацоўвалася—цяпер можна бачыць сьляды заводу за в. Рудня. Дый у сучасны момант у сувязі з далучэньнем да Асіпавіцкага раёну некаторых сельсаветаў Сьвіслацкага раёну трэба—накіраваць туды дасьледчую работу—там сустракаецца гематыт (проф. Бліодухо).

Апошняе пытаньне, над якім прыдзецца папрацаваць аддзелу прамысловасьці—гэта электрыфікацыя.

Пабудова на торфазаводзе № 2 электрастанцыі з мэтаю скарыстаньня яе энэргіі патрабуе ўважлівага вывучэньня, з аднаго боку, сыравіны для яе, з другога—заявак спажыўцоў. Энэргіяй з гэтай электрастанцыі павінны быць забясьпечаны ў першую чаргу заводы, а потым і колгасы з буйнымі населенымі пунктамі (Асіпавічы, Лапічы,

Карытна, Ясень). Калі ў 1926 г. усе заводы нашага раёну мелі рухавікі ў 250 кон. сіл (агульная сума), дык гэтая лічба ўжо засталася далёка ззаду. Для работы па гэтым пытаньні трэба кооптаваць у падкамісію прамысловасьці спэцыялістаў па часьці электрычнасьці, бо пытаньні праводкі магістраляй, устаноўкі трансформатараў патрабуюць кваліфікаванай сілы.

Вось асноўныя задачы, якія стаяць перад падкамісіяй прамысловасьці па нашаму раёну. Зразумела, што гэтая работа ня ёсьць адасобненая, замкнутая—яна цесна зьвязана з работай іншых падкамісій; напрыклад—размол вапняку цесна ўвязаны з ростам пас. плошчы і інш. Таму толькі ў цеснай сувязі ўсіх аддзелаў раённай плянавай камісіі можна чакаць, што задача, ускладзеная на гэту камісію, будзе выканана.

---

**М. Войтка.**

# Ральля.

*Колгас „Орка" Смалявіцкага раёну*

(Нарыс).

## 1. Хутары—хутарочкі.

Лясы—-пералескі.

Шызыя туманы над балотам у сырыя ночы; здаровы пах бярозавай кары, аднастайны скрыпучы крык драч-птушкі ў высокай траве паплавоў, жудасныя сьпевы ваўкоў у зімовую сьцюжу за Верхажай—гэта наша мясцовасьць.

Зямля ў нашай мясцовасьці—суглінак—для жыта і бульбы плодная. Зрэдзь каля балот трапляецца — падзол. Усюды растуць магутныя дубы. Таму і гавораць людзі: „зямля калюская—зямля дубовая".

Завуць нашу мясцовасьць Калюгай.

Людзі сяліцца пачалі тут зусім нядаўна—з 1910 году. Быў лес, высокі гонкі лес — і вадзіліся ў ім ласі, паважна хадзіў мядзьведзь і шукаў ягады. Чаго толькі не расказваюць про гэту мясьціну людзі, што першымі тут пасяліліся жыць! Яшчэ жыве цётка Ганна Ждановічыха... Мужчыны церабілі лес—рабілі пасеку, яна прынесла есьці. Падышоў мядзьведзь надаваў-надаваў ёй у плечы „кулачча", апляваў ды і зьнік у ельніку, а яна потым колькі хварэла!.. А колькі было лісіх нор! Дзе цяпер жыве колгасьнік Юстын Пяцько—там правальвалася зямля ад нораў.

Дзе цяпер Чорны Лес ды Сяродбор'е — нядаўно яшчэ вадзіліся барлыкі. Лёталі цяцеры, ды па начах крычаў стары філін, кігікала сава недзе за Шуркамі ля Плігічына і палохала старых баб і малых дзяцей.

Людзі прагналі ляся—зьбег ён аж на Дальнія Лугі, што ля Гайны-ракі. Зьвяліся барсукі, даўно няма мядзьведзяў, перайшлі і яны ў Барысаўскія лясы...

Наехалі сюды людзі з-пад Менску. Купілі зямлю ў генэрала Бэкмана, уласьніка маёнтку ў Смалявічах (цяпер саўгас Леніна). Было гэта ў часы праклятай памяці Сталыпіна.

Наехалі і аселі ў лесе. Дзе рос рабіньнік — там стаў хутар Рабіньнікі; у Амяльлянаўскай Калюзе, дзе рос густы ельнік — там вёска Чорны Лес, ля яе—Сяродбор'е, недалёка Верхажа. Пазьней сталі хутары Навасёлкі—Першыя і Другія і Праходы.

Хутка пачалі выдзяляцца кулакі. К 1930 году іх ужо было 24 гаспадаркі, з агульнага ліку 93 гаспадарак Калюгі.

У Верхажы жыў Лапцёнак, які меў 12 валок зямлі (120 дзесяцін). Спэкуляваў хлебам, увесну вывозіў пудоў 200 збожжа на рынак і браў сотні рублёў з беднякоў. Апрача гэтага меў майстэрню саней: рабіў сані і прадаваў, што таксама прыносіла вялікія прыбыткі.

У Навасёлках Барткевіч пазычаў хлеб бедняком на кабальных умовах: пазычыць некалькі пудоў—назад верне—удвая; наймаў жней, касцоў і эксплёатаваў чужую працу.

Недалёка ад яго жыў Рыгор Пазьняк, меўшы толькі $2^1/_2$ дзесяціны зямлі, 1 каравяку, каня і 7 чалавек едакоў. Жыў бедна. Усяляк стараўся наладзіць гаспадарку, але ня было на чым. Пазьняк у хаўрусе з другімі беднякамі (Казлоўскімі, Ждановічамі) і батракамі (Бесфамільным, Гейгіч, Лянчэўскімі) пры дапамозе Жажэлкаўскай партыйнай ячэйкі організавалі ў жніўні 1929 году колгас. Да іх далучыліся яшчэ некалькі батракоў, беднякоў і разам супольнымі сіламі пачалі будаваць лепшае колектыўнае жыцьцё.

## 2. „Орка“

Колгас наш—Орка, або Ральля.

Пры заснаваньні колгасу было толькі 4 бядняцкія гаспадаркі і два батракі-адзіночкі.

Цяпер у колгасе 23 гаспадаркі і 12 чалавек—адзіночак; соцыяльны склад колгасьнікаў наступны:

беднякоў—10 гаспадарак, серадняков—13 гаспадарак; з ліку колгасьнікаў-адзіночак 3 чал.—серадні, а 8 чал.—батракоў і 1 чал.—служачы.

Усіх людзей колгас мае 106 чалавек, з якіх 63 чалавекі працаздольных (34 чал. мужчын і 29 чал.—жанчын), рэшта—38 дзяцей, трое старых і 1 інвалід.

Колгас карыстаецца зямельнай плошчай у 300 га ворнай зямлі, 5 га гароду, 3 га сенажаці, 0,5 га саду і 4 га хмызьнякоў.

Колгас мае 29 рабочых коняй і 12 штук маладняка.

З 1931 году ў колгасе заведзены 8-польны севазварот.

Тыповым угнаеньнем у колгасе зьяўляецца гной.

Колгас „Орка“—гаспадарка збожжавага характару. Асаблівая ўвага зьвернута на падняцьце ўраджайнасьці асноўных збожжавых культур—жыта, пшаніцы, ячменю аўсу. За адзін год свайго жыцьця колгас „Орка“ яшчэ ня змог падняць на належную вышыню ўраджайнасьць.

15 га пшаніцы, засеянай у 1930 годзе, далі 80,72 цэнтнэраў зерня, або 485 пудоў; 11 га ячменю далі 54 цэнтнэры зерня, або 330 п. 66 га аўсу далі 207 цэнт., або 1263 пуды.

У сярэднім ураджайнасьць асноўных культур за 1930 год вызначылася наступнымі лічбамі:

пшаніцы 1 га—даў 5,4 цэнт., ячменю—5,0 цэнт. аўсу—3,3 цэнт., бульбы—10 тон.

Малая ўраджайнасьць тлумачыцца тым, што глеба некаторых участкаў колгаснай зямлі кепска была ўгноена. Выраб (яе ворыва; скароджаньне) быў летась таксама дрэнна пастаўлены; ня быў яшчэ заведзены севазварот, а сеялі „дзе папала і як папала“.

Вясной 1931 году колгас засеяў:

пшаніцы—5 га, аўсу—30 га, бульбы—32 га, ячменю—18 га, лёну—10 га, вікі на насеньне—13 га, на сена—10 га, гароху—6 га, караньплодаў—5 га, кукурузы на сілос—4 га, лубіну на насеньне 10 га, па-

лявіцы—8 га, канюшыны—22 га, цімафееўкі—15 га, сэрадэлі—20 га. канапель—2 га, гародніна—5 га, жыта—засеву восені 1930 году—70 га.

У колгасе разьвіваецца і жывёлагадоўля. Цяпер у ім ёсьць 34 дойных каровы, 23 штукі цялят, 30 штук авечак, 29 штук сьвіней. Малако здаецца ў коопэрацыю м-ка Смалявіч, якое знаходзіцца за 5 клм ад колгасу, так, за люты 1931 г. здадзена 684 літры малака, за сакавік—1081,5 літраў.

### 3. Машыны.

У студзені 1930 году ў Калюзе было раскулачана і выслана 13 кулакоў-экспләататараў. Уся маемасьць была передана колгасу „Орка". Колгас атрымаў маемасьці на суму 21.759 р. 60 кап.

Машыны, што ўжываюцца для вырабу глебы, у колгасе наступныя: плугоў—27 шт., сеялак—3, барон „Зіг-заг"—18, драпакоў—7, акучнікаў—3, палольнікаў—1, малатарня, арфы, сячкарні і інш.

Машын колгас мае досыць. Пры колгасе ёсьць кузьня—а таму ўсе машыны акуратна адрамантаваны. Апрача рамонту колгасных машын, кузьня бярэ ў рамонт машыны аднаасобнікаў. У засеўную кампанію 1931 году было адрамантавана ў колгаснай кузьні шмат плугоў, барон аднаасобнікаў.

Будынкаў колгас мае даволі. Жылых хат 22. Бяда толькі ў тым, што будынкі раскіданы адзін ад аднаго далёка кілёмэтра на 2—2½. Гэта перашкаджае ў рабоце колгасу (далёка хадзіць колгасьнікам на работу). Аднэй з галоўных работ на бліжэйшая гады ў колгасе „Орка" будзе перавозка ўсіх жылых і няжылых будынкаў у адно цэнтральнае месца, Гэта работа ўжо распачата з восені 1930 году, і ёсьць пэўныя вынікі, перавезена тры жылыя хаты, якія раней належалі кулаком. Будуюцца і новыя будынкі. Хутка—к восені 1931 году будзе скончана вялікая стайня. Будзе будавацца гумно.

### 4. Вынікі першага году.

Агуловая прыбытковасьць колгасу „Орка" за 1930 год вызначылася лічбай у 35.000 р. 98 кап. Праўленьне колгасу адлічыла сродкі згодна з уставам у наступныя фонды:

у культфонд—251 р. 24 к., на непрацаздольных 628 р. 10 к. у непадзельны капітал 1256 р. 20 к., на аграмаджаную маемасьць (для выплаты проц. колгасьнікам за іх аграмаджаную маемасьць) 1867 р. 93 кап.

Непадзельны капітал колгасу „Орка" на 1/I-1931 году вызначыўся лічбай у 23.015 р. 80 к.

Паявы капітал роўны 2686 руб. 21 к.

Ад агуловага прыбытку адлічана грошай на суму 1247 р. 40 кап. для расплаты з работнікамі з аднаасобнікаў, якія дапамагалі колгасу выбраць увосень 1930 году бульбу.

Умоўна чысты прыбытак вызначыўся лічбай у 12561 р. 96 к. Гэтыя грошы (продукты на гэту суму грошай) былі падзелены сярод колгасьнікаў работнікаў, з колькасьці выпрацаваных дзён.

За цэлы гаспадарчы 1930 год колгасьнікі „Оркі" прапрацавалі 10.364,5 праца-дзён. У пераводзе на I разряд заработак (1930 году) на 1 працоўны дзень I разраду быў роўным 1 рублю, заработак працадня II разраду 1 р. 30 к., III разраду—1 р. 60 к., IV разраду — 1р. 80 к. і V раз.—2 рублі. Некаторыя актыўныя колгасьнікі за 1930 год вы-

працавалі шмат дзён, а значыць, і зарабілі шмат грошай (або прадуктаў на вызначаную суму), што можна бачыць з наступнай табліцы:

| Прозьвішча і імя колгасьніка | Усіх праца-дзён | Едакоў у сям'і | З іх працаздольных | Ад аграмадж. маемасьці атрымана | | За работу | | На дзяцей | | Узята авансам | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Р. | К. | Р. | К. | Р. | К. | Р. | К. |
| Казлоўскі Андрэй і жонка | 395 | 6 | 2 | 324 | 24 | 629 | 80 | 86 | 64 | 731 | 9 |
| Кашкан Ганна | 166 | 1 | 1 | 47 | 60 | 194 | 80 | — | — | 110 | 38 |
| Варонька Іван | 279 | 4 | 2 | 224 | — | 403 | 6 | 44 | — | 267 | 15 |
| Скорабагаты Платон | 60 | 4 | 2 | — | — | — | — | 75 | 60 | 65 | 67 |

З продуктаў колгасьнікі атрымалі—муку жытню, пшанічную, бульбу, ячмень, капусту, буракі. Атрымліваюць малако, час-часом забіваюцца кабаны, і колгасьнікі атрымліваюць сала і мяса. Амаль ва ўсіх колгасьнікаў ёсьць эканомічныя ўмовы, каб трымаць сябе і карміць кабана.

Невыстарчальная колькасьць рабочай сілы ў колгасе зрабіла вялікі прарыў ва ўборцы ўраджаю і ў тэрміне сканчэньня малацьбы:—малацьба аўсу, ячменю скончылася толькі ў красавіку 1931 году, а жыта яшчэ ў маі—чэрвені 1931 году ўсё не змалочана. Гэта трэба вытлумачыць невыстарчальнай мобілізацыяй энтузыязму колгасьнікаў на ліквідацыю прарываў.

## 5. Організацыя працы.

З 1-га мая 1931 году ў колгасе заведзена зьдзельшчына. Колгасьнікі са здавальненьнем прынялі новую форму організацыі працы. Выпрацаваны нормы выпрацоўкі:

Ворыва пад засеў 1-лямешным плугам 2 кані 1 чал.

за 1 працадзень—0,6 га.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Мешыва 1-лямешным плугам | 2 кані 1 ч. | за 1 працадзень | | 0,7 га |
| Баранаваньне | 3 „ 1 „ | „ „ | „ | 5 га |
| Разьбіўка гною | 3 чалавекі | „ „ | „ | 1 га |
| Сяўба сеялкай | 1 ч. 2 кані | „ „ | „ | 6 га |
| Сяўба лёну рукой | 1 чалавек | „ „ | „ | 2,5 га |
| Саджаньне бульбы | 5 ч. 2 кані | „ „ | „ | 0,5 га |
| Коўка коняй | 1 ч. каваль | „ „ | „ | 10шт. |
| Налажэньне нарогу ў плуг | 1 „ | за 4 гадзіны | 1 шт. | |
| Падварка нарогу | 1 „ | за 1/2 гадз. | 1 шт. | |
| Накіданьне гною | 1 „ | за 1 працадз. | 12 вазоў. | |

Увядзеньне зьдзельшчыны спрыяла хуткаму выкананьню плянаў засеўнай кампаніі 1931 году, сканчэньню засеву ў вызначаны тэрмін (да 3-га чэрвеня).

Колгасьнікі „Оркі“ добраахвотна організаваліся ў брыгады і працуюць мэтодам соцспаборніцтва.

Як найлепшую брыгаду колгасу, трэба адзначыць брыгаду Бароўскіх (Лявон, Якуб) і Пяцько (Міхал і Уладзімер). Ударна працуюць і тт. Гейгіч Уладзімер, былы батрак, Пазьняк Алена—б. бяднячка, Кашкан Ганна, Паўла Ворса і др.

Выкананьню ў тэрмін засеўнага пляну спрыяла дапамога трактараў Смалявіцкай МТС. На працягу паўтара тydняў працавалі дзень і ноч два трактары і трактарысты — ударнікі Іван Зязюля, Мікола Піліповіч, Коля Кміт, Палягошка. Трактарамі ўзарана плошча ў 90 га. Яны вельмі дапамаглі колгасу, разьбілі кулацкую хлусьню аб тым, што нібыта ноччу неспрактыкаваныя трактарысты паломяць трактары і зямля поўнасьцю засеяна ня будзе.

### 6. Колгас—дзяржаве.

Колгас усе лішкі сваіх продуктаў здаў коопэрацыі. Так, здано бульбы 364 цэнтнэры 95 кг, жыта 13 тон, пшаніцы—6 цэнтнэраў. Здаецца значная колькасьць малака.

За мінулы год колгас заплаціў падатку 136 рублёў.

### 7. Культработа.

Сярод колгасьнікаў шмат няпісьменных (20 чал.) Зімой пры Калюскай школе працаваў лікпункт, дзе некаторыя колгасьнікі ліквідавалі сваю няпісьменнасьць. Было організавана групавое навучаньне (было 3 групы), дзе навучалася 15 чал., але яно дало нязначныя вынікі. Сіламі колгасьнікаў за зіму 30—31 году пастаўлена 3 спэктаклі. Час-часом (праўда, рэдка) выдаецца насьценная газэта „Ударная брыгада“.

Колгасьнікі выпісваюць газэты і часопісы: „Колгасьнік Беларусі“, „Паляўнічы Беларусі“, „На страже“, „Зьвязда“, „Савецкая Беларусь“. У канцылярыю колгасу ідуць: „Правда“, „Известия“ і інш. Ёсьць бібліотэка-перасоўка ў 50 кніг.

Колгасьнікі актыўна выступаюць на агульных сходах за колгасы, за мерапрыемствы савецкай улады. Адно тое, што колгасьнікі падпісаліся на пазыку „пяцігодка ў чатыры гады“ на 870 руб., гаворыць аб сьвядомасьці колгасьнікаў.

Сярод колгасьнікаў 3 члены КП(б)Б, 5 комсамольцаў; з ліку колгасьнікаў два члены Жажэлкаўскага сельсавету.

Некаторых актыўных колгасьнікаў партыйная ячэйка вылучыла на адказную работу.

Андрэй Казлоўскі—колгаснік „Оркі“—вылучыны на пасаду загадчыка цагельні ў Чорным Лесе; і ён добрасумленна выконвае абавязкі і спраўляецца з імі. Уладзімер Казлоўскі—ініцыятар організацыі колгасу „Орка“ цяпер старшыня Жажэлкаўскага сельсавету, ударна выконвае загатоўкі і выкрывае кулакоў. Давід Перальман, які працаваў у аборы ў колгасе „Орка“,—цяпер старшыня Жажэлкаўскага Спажывецкага Т-ва.

Валодзю Мышко (добры ратай з „Оркі“), цяпер колгаснік з колгасу „Сталінскі прыліў“ (в. Лютка), запрасілі быць у іх за старшыню колгасу. Мышко там выконвае засеўную кампанію. А Рыгор Пазьняк, цяпер лясьнік, і вольны час скарыстоўвае на работу ў колгасе. Пайшлі ўгору нашы колгасьнікі.

Недахопамі колгасу трэба лічыць тое, што шырока яшчэ разьвіта ў колгасе сварка, зводы за розную дробязь. Гэта гаворыць аб тым, што яшчэ шырэй трэба разгарнуць культурную работу сярод колгасьнікаў наогул, сярод жанчын-колгасьніц асабліва.

У працэсе гаспадарчага і культурнага росту колгасу зьнікнуць розныя балячкі быту колгасьнікаў.

---

П. Рагавы.

# Кароткая інструкцыя для вывучэньня глеб БССР краяведчымі організацыямі.

Ад дарэволюцыйных часоў да нас дайшлі самыя кароткія і самыя агульныя весткі аб глебах Беларусі. Так, у выданьні „Россия" т. IX „Верхнее Поднепровье і Белоруссия" за 1905 г. апісаньне глебаў займае прыблізна палову друкаванай старонкі; там-жа прыложана карта глебаў гэтай тэрыторыі, узятая з агульнай для „Европейской России" таго часу карты глеб, складзенай пад рэдакцыяй Сібірцава, Танфілава і Ферхміна.

Для б. Менскай губэрні такое-ж кароткае апісаньне глебаў зьмешчана ў кнізе Ястрэмбскага: „Краткий очерк Минской губ. в физико-географ. и стат.-эк. отношении, 1897 г., Минск".

Крыху падрабязьней закрануты глебы ў кнізе Дэмбавецкага. „Опыт описания Могилевской губ., 1882 год".

Ёсьць падобныя-ж апісаньні глебаў у выданьнях Далгарукава В. М. па б. Віцебскай губэрні. Апрача гэтай літаратуры, можна адзначыць яшчэ дзьве-тры спэцыяльныя працы, у якіх апісваюцца глебы паасобных раёнаў. Вось і ўсё, што было напісана аб глебах Беларусі ў дарэволюцыйны час.

Толькі пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі, калі ў Савецкай Беларусі зьявіліся свае вышэйшыя школы, пачынаецца сур'ёзнае вывучэньне і апісаньне глебаў Беларусі. Так, у 1921 годзе вышла ў літографскім выданьні кніжка вуч. агрон. Н. К. Ярашэвіча „Основные типы почвообразования и почвы Белоруссии", якая прадстаўляе сабой лекцыі, чытаныя ў Белар. Дзяржаўным Політэхнічным Інстытуце. У гэтай кніжцы Ярашэвічам скарыстаны ўсе статыстычныя даныя аб глебах Беларусі, паводле якіх укладзена і глебавая карта ўсяе этнографічнае Беларусі ў маштабе 1:1.680.000. Кніжка гэтая зьяўляецца першаю спробаю даць сыстэматычны, навукова абгрунтаваны нарыс аб глебах Беларусі.

З 1923 году ў Савецкай Беларусі распачаліся сталыя экспэдыцыйныя і лябораторныя дасьледваньні глебаў пад кіраўніцтвам проф. В. Г. Касаткіна. У 1925 годзе ў сувязі з далучэньнем да Савецкай Беларусі Горак і організацыяй там С.-Г. Акадэміі работы па дасьледваньні глеб БССР яшчэ больш узмацніліся.

З гэтага-ж году ўсе дасьледчыкі глеб БССР былі аб'яднаны сьпярша ў Інбелкульце, а потым у Бел. Акад. Нав., з гэтага-ж году распачаліся работы па дасьледваньню глеб БССР у 3-вёрсным маштабе экспэдыцыямі пад агульным кіраўніцтвам проф. Афанасьева.

Цяпер ужо ўся Беларусь дасьледвана ў 3-вёрсным маштабе. Складзены 3-вёрсныя глебавыя карты па б. акругах, складзена і зводная карта па ўсёй БССР у маштабе 1:500.000. Цяпер напісана ўжо шмат навуковых прац па розных пытаньнях аб глебах БССР, у тым ліку і зводны нарыс на фоне агульнага глебазнаўства. (Кароткі курс глебазнаўства. П. Рагавы, 1929 г.).

Але ці значыць гэта, што для краяведчых організацый у вывучэньні глеб БССР няма чаго ўжо рабіць? Бязумоўна, не. Кожнаму вядома, што глебавае акрыцьцё вельмі стракатае. Работамі глебаведаў, ня гледзячы на іх параўнаўча высокую дакладнасьць, усё-ж глебы дасьледуюцца досыць груба. Часта на некалькі кілёмэтраў у часе досьледваньняў выкапвалася толькі адна глебавая яма, па якой і характарызуецца ўся навакольная плошча глеб.

У практычнай-жа с.-г. дзейнасьці, каб з найбольшаю эфэктыўнасьцю весьці гаспадарку, канечна патрэбна ўласьцівасьці сваіх глеб ведаць дабра. Вядома, што ад якасьці глебы залежаць і выбар засеўных культур і способы апрацаўкі, ураеньня глеб, мэліорацыі і г. д. У кожным колгасе і саўгасе таму рацыянальная пастаноўка сельскай справы патрабуе дакладнага азнаямленьня са сваімі глебамі, каб усе глебы к часу засеву найлепш падрыхтаваць і каб ня траціць пры гэтым лішніх сродкаў. Пры цяперашнім і далейшым узмацненьні хэмізацыі сельск. гаспад. праца ўцёмную без дакладнага знаёмства са сваімі глебамі немагчыма.

Экспэдыцыйнымі дасьледваньнямі глеб БССР, організаванымі Бел. Акад. Навук, маецца на мэце навуковае дасьледваньне глеб у сэнсе ўстанаўленьня тыпаў глеб, якія ёсьць на Беларусі, устанаўленьня законамернасьцяй разьмяшчэньня розных тыпаў глеб на тэрыторыі БССР, вывучэньня асноўных законамернасьцяй процэсаў глебаўтварэньня і г. д.

Гэта работа вельмі вялікая для таго невялікага штату глебазнаўцаў, якія працуюць у БССР, і таму работа вядзецца ў агульных рысах. Для вывучэньня глеб данага раёну так, каб гэтымі данымі карыстацца непасрэдна для вытворчасьці, трэба больш дэталізаваць работу, бяручы нашы даныя за кіруючую аснову глебавага вывучэньня

Так многія гаспадарчыя ўстановы і робяць. Напрыклад, органы Мэліотрэсту для сваіх вузкіх мэт праводзяць больш дэталёвае дасьледваньне глеб на ўзятай імі тэрыторыі. Паасобныя дасьледчыя гаспадаркі, некаторыя саўгасы таксама праводзяць сваімі сродкамі больш дэталёвыя глебавыя дасьледваньні.

Усёй масе саўгасаў і колгасаў таксама прыдзецца самім сваімі сродкамі праводзіць дакладнае вывучэньне сваіх глеб. Вялікая задача ў гэтай справе прыпадае на мясцовыя краяведчыя організацыі, якія могуць і павінны заняцца гэтай справай.

Спрыяючай акалічнасьцю ў гэтай справе зьяўляецца тое, што вывучэньне глеб сваімі сродкамі — справа зусім даступная і лёгкая. Справа навуковага дасьледваньня глеб патрабуе даволі складанага лябораторнага абсталяваньня і адпаведных мэтодаў работы. Вывучэньне-ж глеб для практычных мэт можна праводзіць зусім лёгкім способам праз вывучэньне мэханічнага складу і морфолёгічнага выгляду глеб.

У гэтай інструкцыі мы і спынімся, галоўным чынам, на способах палявога вывучэньня глеб усюды даступнымі сродкамі.

## 1. Выбар месца для глебавых ям.

Каб вывучыць глебы таго ці іншага зямельнага вучастку, трэба капаць глебавыя ямкі. Лік і разьмяшчэньне глебавых ямак залежыць ад таго, з якой дэталёвасьцю маюць на мэце вывучыць глебы данага вучастку. У кожным выпадку звычайна стараюцца захапіць усе адмены глеб на данай тэрыторыі і зрабіць пры гэтым найменшую колькасьць глебавых ямак.

Апошняе магчыма толькі пры правільным разьмяшчэньні глебавых ямак на тэрыторыі. Для правільнага-ж разьмяшчэньня глебавых ям трэба мець на ўвазе асноўныя законамернасьці разьмяшчэньня грунтаў і глеб па тэрыторыі.

Законамернасьці гэтыя вельмі простыя. Вядома, што глебы на паверхні зямлі ствараюцца ў выніку двух асноўных працэсаў: 1) прамываньня грунта атмосфэрнымі водамі, прычым зьверху ўніз пераносяцца часткова раствораныя продукты і ў грунце ствараецца горызонт вымыву А і горызонт умыву В і 2) дзейнасьці расьліннасьці, прычым частка продуктаў падымаецца праз расьліну зьнізу ўверх і адкладаецца ў верхняй частцы глебы, ствараючы перагнойны горызонт глебы.

Прамываньне глебы залежыць ад мэханічнага складу глебатворчага грунту і ад няроўнасьцяй рэльефу. У адносінах да мэханічнага складу грунту вядома, што найбольш шчытна складзеныя сугліністыя і глінiстыя грунты прапускаюць праз сябе ваду цяжка, вада ў іх застойваецца надоўга і працэсы зьмены ў глебе ад вады выяўляюцца значныя. Наадварот, пяшчаныя і супяшчаныя няшчыльна складзеныя глебатворчыя грунты прапускаюць ваду лёгка, у пустоты глебы хутка праходзіць паветра, глебы хутка прасыхаюць і працэсы глебаўтварэньня пад уплывам вод праходзяць слаба.

У залежнасьці ад рэльефу прамываньне глебаў на павышэньнях заўсёды выяўляецца слабей, чым на паніжэньнях, дзе прамываюць глебу і тыя воды, што сьцякаюць з узгоркаў.

У залежнасьці ад вільготнасьці глебы знаходзіцца і разьвіцьцё расьліннасьці. Такім парадкам, галоўнымі фактарамі, ад якіх залежыць формаваньне глеб на данай невялікай тэрыторыі, зьяўляюцца склад глебатворчага грунту і рэльеф. Імі і кіруюцца пры разьмеркаваньні глебавых ям на данай тэрыторыі і ўстанаўленьні розных адмен глеб.

Склад глебатворчага грунту таксама звычайна знаходзіцца ў залежнасьці ад рэльефу. У тых выпадках, калі рэльеф няроўны, а парода лёгка размываецца вадой, заўважаецца перанос вадой па паверхні з павышэньняў у паніжэньні дробназему глебы і формаваньне на паніжэньнях дробназемістых сартаваных наносаў, а на павышэньнях наглядаецца формаваньне буйназемных грубых адкладаў. У сувязі з гэтым на паніжэньнях чырвоныя камяністыя гліны часта засыпаюцца вельмі глыбока, а на павышэньнях яны залягаюць бліжэй да паверхні.

У сувязі з рэльефам знаходзіцца таксама большая ці меншая глыбіня заляганьня грунтовых вод, якія ў працэсах глебаўтварэньня адыгрываюць вялізную ролю.

Рэльеф, такім чынам, зьяўляецца асноўным элемэнтам прыроды, ад якога залежыць разьвіцьцё глеб на даным вучастку. Таму разьмяшчэньне глебавых ям на тэрыторыі ў першую чаргу прыстасоўваецца да рэльефу.

Так, асноўныя ямкі капаюцца на павышаным месцы, на схіле і на нізіне. Профіль (рад) такіх ямак праз адно з павышэньняў дасьць нам характарыстыку глеб зьверху да нізу. Пры частым паўтарэньні няроўнасьцяй мьсцовасьці разрэзы яшчэ раз ці два паўтараюцца на другіх падобных элемэнтах рэльефу.

Звычайна на падобных элемэнтах рэльефу разьвіваюцца і аналёгічныя глебы. Таму ўсе падобныя элемэнты рэльефу мы сьмела можам характарызаваць тымі ямкамі, якія будуць зроблены на першых двух-трох падобных элемэнтах рэльефу.

Трэба толькі, каб разрэзы глеб былі зроблены па тыповых для данай мясцовасьці элемэнтах рэльефу, якія часта паўтараюцца. Канечна трэба таксама выбіраць такія элемэнты рэльефу, якія займаюць найбольшую плошчу на данай тэрыторыі.

Пасьля таго як будуць вывучаны большыя элемэнты рэльефу данага вучастку, разрэзы глеб прыстасоўваюцца да меншых элементаў: ручайкоў, вузкіх далінак, невялічкіх паніжэньняў, балацянак і г. д.

Калі зьмяняецца ня толькі рэльеф, але і мэханічны склад грунту зьверху, дык паасобныя профілі трэба залажыць у раёнах розных па мэханічнаму складу грунтоў. Калі рэзка зьмяняецца расьліннасьць, блізка падступаюць да паверхні воды, то ўсё гэта прымушае павялічаць колькасьць разрэзаў на даным вучастку.

Асноўнымі глебавымі ямкамі ўстанаўляюцца асноўныя глебавыя варыянты на даным участку. Каб устанавіць межы пашырэньня розных глеб на тэрыторыі, трэба капаць яшчэ невялічкія ямачкі (прыкопкі) на пераходах паміж асноўнымі ямкамі.

Колькасьць глебавых ямак на данай тэрыторыі залежыць ад дакладнасьці вывучэньня і ад характару рэльефу мясцовасьці. Вось прыблізныя разьлікі колькасьці глебавых разрэзаў на тэрыторыі пры розных маштабах дасьледваньня глеб [1]).

| Маштаб работ | 1 глебавая яма на плошчу |
|---|---|
| $\frac{1}{42.000}$ (1 вярста ў цалі) | 50 га |
| $\frac{1}{21.000}$ (250 с. у цалі) | 20 „ |
| $\frac{1}{8.400}$ (100 с. „ „) | 4 „ |
| $\frac{1}{4.200}$ (50 с. „ „) | 2 „ |
| $\frac{1}{2.100}$ (25 с. „ „) | 1 „ |

[1]) Проф. А. А. Красюк. „Почвы и их иследование в природе". Ленінград, 1929 г.

### 2. Закладка і апісаньне глебавых ям.

На абраным месцы глебавая яма закладаецца з такім разьлікам, каб к часу апісаньня патрэбная старана ямкі была асьветлена сонцам. Калі разрэз робіцца на схіле, дык ямка закладаецца так, каб тая старана, што павінна апісвацца, была вышэй схілу. Асноўныя глебавыя ямкі выкопваюцца звычайна на глыбіню да 2 м. Даўжыня ямкі зьверху таксама каля 2 мэтраў, шырыня 70—80 см. Сьценкі ямкі простападныя. Асабліва добра абчышчаецца адзін з вузкіх канцоў ямкі, які ў далейшым і апісваецца. У другім вузкім канцы, у меру паглыбленьня ямкі, робяцца прыступкі глыбінёй кожная каля ½ мэтра.

Апісаньне ямкі пачынаецца з апісаньня мясцовасьці, для характарыстыкі якой зроблена глебавая ямка. Пры гэтым адзначаецца — палажэньне ямкі адносна пунктаў, нанесеных на карце (колгас, саўгас чыгуначная станцыя, вёска, мястэчка, горад), палажэньне па рэльефу (узгорак, схіл, нізінка, даліна); апісваецца расьліннасьць або засеў і якасьць іх.

У ямцы на добра ачышчанай сьценцы спачатку ўважліва выдзяляюцца ўсе глебы, горызонты і вымяраюцца см ад паверхні, вызначаецца мэханічны склад усіх горызонтаў глебы, робяцца спробы на ўскіпаньне з кіслатой ад вуглякіслай вапны і г. д. Потым па форме, якая дакладаецца, апісваюцца горызонты глебы з адзначэньнем колеру, мэханічнага складу, структуры і інш., што добра выяўляецца ў глебе; адзначаецца см ад паверхні, глыбіня ўскіпаньня, або глыбіня сталых глебавых вод.

Напасьледак звычайна апісаная старана ямкі замалёўваецца ў прынятым маштабе каляровымі алоўкамі па магчымасьці бліжэй да натуры. Гэта патрэбна таму, што самым падрабязным апісаньнем нельга перадаць тых складаных фігур, якія часта выяўляюцца ў глебах. Пры замалёўках апісаньне горызонтаў скарачаецца да мінімуму.

Апісаньне і замалёўкі разрэзу робяцца звычайна на дзьвёх старонках разгорнутага сшытку [1]). Усё пералічанае зьмяшчаецца на правай палове сшытку, а на левай старонцы выпісваюцца даныя аб усіх назіраньнях над глебамі, рэльефам, расьліннасьцю, ураджайнасьцю і г. д. на пераходах паміж апісанымі глебавымі ямкамі. Тут-жа апісваюцца ўсе зробленыя прыкопкі. Часта паміж дзьвёх адна за аднэй апісаных ямак вырысоўваецца профіль мясцовасьці з усімі зьменамі рэльефу, грунтоў, глеб і расьліннасьці. Тут-жа запісваюцца ўзятыя пробы глеб.

Для гэтых работ лепш карыстацца сшыткам з клетчатай паперай; на такой паперы лепей вытрымаць зарысоўкі і апісаньне глебы ў маштабе.

### 3. Мэханічны склад і будова глебатворчага грунту.

Тая паверхневая частка зямлі, дзе адбываюцца глебавыя процэсы і ствараецца глеба, называецца глебатворчым грунтам. Глебатворчы грунт можа складацца або з аднастайнай адной пароды, або з дзьвюх парод, або з трох парод, што больш часта сустракаецца на Беларусі.

Як вядома, паверхневыя грунты на Беларусі нанесены сюды ледавіком, Асноўнай пародай, адкладзенай ледавіком, зьяўляецца морэна, якая становіць сабой нязьмененыя да гэтага часу несартаваныя чырвона-бурыя звычайна з каменьнем суглінкі і гліны, якія ў народзе завуцца проста „глінай“.

[1]) Гл. Прыклад апісаньня, стар. 59.

Зьверху морэн звычайна адкладзены пазьней больш-менш адсартаваныя вадой і ветрам другія пароды. У розных мясцох на Беларусі адкладаюцца самыя рознастайныя па мэханічнаму іх складу і па таўшчыні пласта пароды. Так, на высокіх хвалістых плято Меншчыны, Аршаншчыны і часткова Магілеўшыны і Віцебшчыны залягаюць з паверхні глыбокія вельмі добра адсартаваныя пылаватыя (лёэсы і лёэсаватыя) суглінікі. Там-жа, асабліва на захадзе, у Случчыне, з паверхні залягаюць такія-ж сартаваныя суглінікі, падасланыя на глыбіні аднаго мэтра ці паўтара пяском, або сьпярша пяском, а ніжэй морэнай.

Наадварот, у нізінных раўнінах Палесься з паверхні зямлі адкладзены адсартаваныя пяскі, часта вельмі глыбокія. Часьцей за ўсё глебатворчы грунт складаецца з трох парод: унізе — морэна, над морэнай грубыя пяскі, а паверх пяскоў больш дробназемістыя супескі або суглінкі.

Ужо з толькі што сказанага пра пароды глебатворчага грунту відаць, што галоўным элемэнтам характарыстыкі парод зьяўляецца іх мэханічны склад. Розныя ўласьцівасьці парод — праніканьне вады і паветра, цьвёрдасьць у сухім стане і вязкасьць у вільготным, розныя іншыя агрономічныя ўласьцівасьці — добра характарызуюцца мэханічным складам парод.

Вось чаму пры вывучэньні глеб мэханічны склад трэба ўстанаўляць досыць падрабязна і дакладна.

Назвы мэханічнага складу грунтоў і глеб усім вядомы, гэта — гліны, суглінікі, супескі і пяскі. Пад гэтымі назвамі часта, праўда, разумеюць рознае.

Для дакладнага ўстанаўленьня, што трэба разумець пад гэтым назвамі, звычайна праводзіцца мэханічны аналіз грунтоў і глеб, у выніку чаго спроба глебы ці грунту раскладаецца на т. зв. фракцыі, якія характарызуюцца той ці іншай буйнасьцю цэльных мінэральных частачак.

Цяпер на Беларусі прыняты наступныя фракцыі:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Частачкі | > 10 | m/m у дыямэтры | — камені |
| „ | 10—5 | „ „ | — жарства буйная |
| „ | 5—3 | „ „ | — „ дробная |
| „ | 3—1 | „ „ | — пясок буйны (жвір) |
| „ | 1—0,25 | „ „ | — „ сярэдні |
| „ | 0,25—0,1 | „ „ | — „ дробны |
| „ | 0,1 —0,05 | „ „ | — пыл буйны |
| „ | 0,05—0,01 | „ „ | — „ дробны |
| „ | < 0,01 | „ „ | — глiністыя частачкі. |

Важнейшай з гэтых фракцый зьяўляецца фракцыя глiністых частак. Гэта ад іх, галоўным чынам, залежыць зьвязнасьць, шчыльнасьць і г. д. грунтоў. Больш буйныя частачкі маюць у глебе меншае значэньне.

Дзеля таго і клясыфікацыя глеб (тыпы мэханічнага іх складу) робіцца ў першую чаргу па проценту ў глебе глiністых частак. І толькі ступень адсартаванасьці іх (віды мэханічнага складу) устанаўляецца паводле другіх, буйнейшых фракцый.

У асноўным цяпер на Беларусі прынята наступная клясыфікацыя грунтоў і глеб па мэханічнаму іх складу[1]):

| Асноўныя тыпы вылучэньняў паводле процанту глiністых частачак | %% глініст. частачак (< 0.01 m/m) | Віды—вылуч. паводле проц. пылу, пяску, храшча і каменьня | пылу (0.01—0.1) | пяску (0.1—3.0) | храшча (3.0—10.0) | каменьня (> 10) |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Гліна цяжкая. | > 55 | 1. Іlаватыя . . . | < 40 | < 5 | | |
| 2. „ лёгкая . | 55—35 | 2. Пылаватыя { лэсавыя . | > 40 | < 5 | | |
| 3. Суглінак цяжкі | 35—30 | { лёэсавідныя | > 40 | < 25 | | |
| 4. „ сярэдні | 30—25 | 3. Пылавата-пескаватыя | > 40 | > 25 | | |
| 5. „ лёгкі . | 25—20 | 4. Пескаватыя (дробна, | | | | |
| 6. Супесак цяжкі | 20—15 | сярэдне і буйна пе- | | | | |
| 7. „ лёгкі. | 15—10 | скават.). . . . | < 40 | > 25 | | |
| 8. Пясок зьвязны | 10—5 | 5. Храшчаватыя . . | | | > 25 | |
| 9. „ сыпкі . | < 5 | 6. Камяністыя. . . | | | | > 25 |

| | глініст. част. вельмі мала | Дамінуюць |
|---|---|---|
| 10. Жвіравік . . | | 1—3 m/m |
| 11. Жарсьцьвянік. | | 3—10 |
| 12. Камяньнік . . | | > 10 |

Увагі: 1) Калі ў пародзе < 5% храшча з каменьнем, дык % іх улічваецца разам з пяском.
2) Калі храшча і каменьня > 5%—парода завецца „з храшчом".
3) Калі каменьня > 5%—пар. завецца „з каменьнем" і г. д.

Такім чынам, напрыклад, суглінкам сярэднім мы будзем лічыць такую пароду, у складзе якой ёсьць ад 30 да 25 працантаў глiністых частак (< 0,01 m/m у дыям.). Пры гэтым амаль кожны асноўны тып мэханічнага складу па ступені адсартаванасьці можа быць або ілаватым, або пылаватым (лёэсавым, або лёэсаватым), або пяшчаністым толькі з пяском, ці адначасна з жарствою і каменьнем, калі яны ў пародзе сустракаюцца адзіночна і г. д. Могуць сустракацца (праўда, рэдка) і такія пароды, што пераважна складаюцца з каменьня, жарствы ці з жвіру — каменьнікі, жарствавікі, жвіравікі.

Маючы даныя мэханічнага аналізу, лёгка ўстанавіць тып і від мэханічнага складу. Значна цяжэй устанавіць мэханічны склад без аналізу ў полі ці ў лесе, асабліва-ж на сырых спробах глебы, але і гэта пры пэўных навыках можна зрабіць.

Віды па ступені адсартаванасьці вызначаюцца яшчэ параўнаўча лёгка, гэта робіцца наступным спосабам: бярэцца невялічкая (з гарошынку) спроба глебы і расьціраецца на далоні — калі пылу ў гэтай спробе многа, а пяску зусім няма, то гэта парода лёэсавая, калі-ж акажацца шмат пылу і некалькі пяшчынак (каля 5), то парода лёэсаватая; калі-ж у спробе шмат пяску, дык парода пяшчаністая. Жарствовыя і камяністыя пароды ўстанаўляюцца па значнай прымесі да глебы жарствы і каменьня.

Тыпы мэханічнага складу наогул выяўляюцца цяжка. У сырым стане гліны выяўляюцца пародамі вельмі вязкімі, плястычнымі; з пераходам да пяскоў гэтая вязкасьць і плястычнасьць значна зьмяншаюцца. У сухім стане, наадварот, гліны выяўляюцца пародамі вельмі сцэмантаванымі і цьвёрдымі, а з пераходам да пяскоў цьвёрдасьць зьнікае, парода пачынае сама рассыпацца.

[1]) Клясыфікацыя складзена проф. Афанасьевым, некаторыя зьмены зроблены мной.

У сухім стане параўнаўча лёгка вызначаць тыпы па люстэрку, якое застаецца на далоні пры расьціраньні там спробы глебы. Люстэрка гэта ствараецца з глiністых частачак, якія ўціраюцца ў скуру, таму вось па выразнасьці гэтага люстэрка можна меркаваць аб багацьці глебы на гліністыя частачкі.

Устаноўкі тут прыняты такія: калі пасьля мернага расьціраньня і абарочваньня далоні (прычым з далоні скідаюцца буйнейшыя частачкі) на далоні сьляда ніякага не застаецца—гэта пясок сыпкі; калі застаецца слабы—пясок зьвязны; люстэрка значнае—супесак; люстэрка добрае—суглінак і т. д. Суглінкі цяжкія і гліны зноў пачынаюць даваць люстэрка горшае, бо яны складаюцца з вельмі цьвёрдых камякоў, якія цяжка расьціраюцца.

Пры пэўным навыку і такімі палявымі спосабамі можна са значнай дакладнасьцю ўстанаўляць мэханічны склад грунтоў і глебаў.

### 4. Устанаўленьне тыпу глебы і глебавых горызонтаў.

Кожная глеба характарызуецца тым ці іншым выяўленьнем глебавых горызонтаў, якія ўтвараюцца ў глебатворчым грунце ў выніку процэсаў глебаўтварэньня.

На Беларусі разьвіты амаль выключна два асноўных тыпы глебаўтварэньня: падзолісты і балоцісты з самымі рознастайнымі ступенямі іх выяўленьня як паасобку, так і разам.

Глебы падзолістага тыпу глебаўтварэньня характарызуюцца тым, што з іх глыбока вымыта вапна (на $1^1/_2$—2 мэтры), што глеба стала „кіслай“, дзякуючы чаму пачалі растварацца такія злучэньні глебы, як жалеза і алюмінь, якія атмосфэрнай вадой і пераносяцца зьверху глебы ўніз. Перанос з верхняга горызонту ў ніжні чырвоных продуктаў жалеза і зьяўляецца найбольш характэрнай прыметай падзолістых глеб, якую вельмі лёгка ў глебе наглядаць. Той асьветлены верхні слой глебы, з якога жалезістыя продукты выносяцца, называецца горызонтам вынасу і абазначаецца літарай А.

Чырвоны ніжэйшы слой, дзе зноў адкладаюцца вынесеныя з горызонту А жалезістыя продукты, называецца горызонтам уносу і обозначаецца літарай В.

Вось гэтыя два асноўныя горызонты і складаюць тое, што цяпер называецца глебай. Ніжэй гор. В, дзе ўжо ня відаць процэсу адкладаньня жалезістых продуктаў, залягае мала зьменены процэсамі глебаўтварэньня грунт, або падглеб'е.

У гор. А, звычайна ў самай верхняй яго частцы, адкладаецца перагной. Таму гор. А выразна падзяляецца на цёмны верхні слой, які называецца гор. перагнойным і абазначаецца літарай $A_1$, і на ніжні сьветлы ці белесаваты слой, які называецца падзолістым гор. і абазначаецца літарой $A_2$.

Гор. В таксама звычайна падзяляецца на некалькі частак: пераходная частка ад А да В так і завецца пераходным горызонтам і абазначаецца літарамі $A_3B_1$; найбольш выразная частка гор. В, які наогул называецца паўтараокісным[1]) абазначаецца літарай $B_2$; ніжняя

---

[1]) Паўтараокісямі называюцца окісі жалеза і алюмінія, бо яны маюць формулу $Fe_2O_3$, $Al_2O_3$, дзе на адну частку мэталю прыпадае $1^1/_2$ часткі кісларод.

частка гор. B, дзе памяншаецца колькасьць адкладзеных паўтараокісяй, абазначаецца літарай $B_3$ і г. д.

Галоўнымі адзнакамі балоцістага процэсу ў розных ступенях яго разьвіцьця зьяўляюцца: 1) аглееньне, якое разьвіваецца пры залішнім увільгатненьні і выяўляецца ў выглядзе сініх і шызых плям ад новастворaных закісяй жалеза; 2) іржавыя плямы, жалезістыя зацьвярдзеньні (гарошыны, бабовіны), жалезістыя пражылкі, ортштэйны (каменна-цьвёрдыя праслойкі), балоцістая руда і іншыя, якія ствараюцца пры пазьнейшым падсыханьні мокрых глеб і асяданьні таго растворнага жалеза, што дагэтуль было ў стане закісі, усе гэтыя ўтварэньні з жалеза называюцца прыметамі часовага забалочваньня, 3) торф, які ствараецца з мёртвых астач расьлін у залішне вільготных умовах, куды паветра ня можа праходзіць у належнай колькасьці.

У балотных глебах формуецца пераважна тарфяністы горызонт, які абазначаецца літарай $A_0$, і мінэральны грунт C, больш-менш аглееный.

У залежнасьці ад выяўленьня процэсаў падзолістага і балоцістага тыпу глебаўтварэньня, усе глебы Беларусі даюць прыкладам наступны рад розных варыянтаў:

1. Слаба-падзолістыя, звычайна на глыбокіх пяскох, — у іх горызонты падзолісты і паўтараокісны, выяўлены вельмі слаба, часьцей у гор. B жылкамі.

2. Сярэдня-падзолістыя, звычайна на супесках, падасланых пяском; горызонты падзолістыя і паўтараокісныя ў іх выяўляюцца па сярэдняму.

3. Моцна-падзолістыя, звычайна на суглінках; у іх гор. $A_2$ і B параўнаўча з першымі глебамі, няглыбокія, але інтэнсыўна вызначаныя, межы падзелу выразныя.

4. Падзолістыя з часовымі прыметамі забалочваньня (падзолы) звычайна на глінах і на паніжэньнях; у іх падзолістыя прыметы выяўлены добра, але ёсьць таксама іржавыя плямы, ортштэйнавыя конкрэцыі і г. д. як прыметы часовага забалочваньня.

5. Падзоліста-балотныя, звычайна на паніжэньнях; у іх выяўляюцца яшчэ прыметы падзолістай глебы, але да іх шмат прымешваецца розных прымет балоцістага процэсу.

6. Балотныя глебы, на паніжэньнях; яны характарызуюцца тарфяністым горызонтам зьверху і аглееным мінэральным грунтам зьнізу.

Балотныя глебы па характару торфу падзяляюцца на травяныя, мохавыя і ілаватыя.

Глебы з вапнай на Беларусі носяць назвы перагнойна-карбонатных або рэндзін.

Пад густой травяной расьліннасьцю разьвіваюцца т. зв. лугавыя глебы з глыбокім перагнойным горызонтам.

Апрача нормальных глеб, ёсьць яшчэ рад глеб, зьмененых змывамі і намывамі атмосфэрнай вады па паверхні: тут выяўляюцца глебы са змытым верхам і глебы з наносным верхам.

У выніку ўсіх вызначэньняў у глебе запіс у сшытку мае наступны выгляд (прыкладам):

| Кусты бярэзьніку і альхі ямка № 3 | |
|---|---|

## П О Л Е

а — № 4

Пасьля невялікага паніжэньня з кустамі бярозы і вольхі, дзе зроблена ямка № 3 і дзе знаходзіцца глеба падзолістая з прыметамі забалочваньня, хутка пайшло роўнае шырокае з засевамі жыта сярэдняй якасьці. Ямка № 4 выкапана прыблізна на сярэдзіне гэтага поля.

(Узьятыя паслойныя глебавыя спробы).

3 — 12 см.
20 — 30 „
37 — 40 „
75 — 85 „
150—160 „

## Я М К А № 4

(Рельеф) — Роўнае, шырокае плято. Засевы жыта. Ураджай сярэдні.

Сярэдне - падзолістая глеба на супяску падасланая пяском.



A. Перагнойны горызонт, шэры супесак, лёгкі пяшчаніста-пылаваты.

A₁ Падзолісты гор., уверсе буравата-жоўты пясок, зьвязны, пяшчаністы, ніжэй пераходзіць у сьвет.-жоўты пясок, сыпкі.

A,B, Пераходны гор. сьветла-жоўты пясок, сыпкі, уперамежку, з чырв. бурымі плямямі сцэмантаванага пяску.

B, Гор. паўтараокісны: чырвона-буры сцэмантаваны пясок, зьвязны сярэднепяшчаністы.

B, Гор. паўтараокісны; сьветла-жоўты-сыпкі пясок з праслойкамі чырвона-бурага сцэмантаванага паўтараокісямі пяску (ортзанды).

## 5. Зьбіраньне глебавых спроб.

Звычайна глебавыя спробы бяруцца двух відаў—1) паслойныя спробы і 2) маноліты (цэльныя брусы глебы).

Паслойныя спробы бяруцца звычайна з усіх вызначаных горызонтаў глебы. Спроба бярэцца у выглядзе кубіка вагой каля 300 гр, які выразаецца нажом па магчымасьці з сярэдзіны вызначаных горызонтаў. Кожная такая спроба акуратна завінаецца ў паперу. Туды-ж разам з глебай завінаецца паперка з адзначэньнем месца глебавай ямкі, яе № па сьпісу ў сшытку, глыбіні ад паверхні ў см, з якой узята спроба.

У далейшым усе паасобныя спробы з аднае ямкі завінаюцца ў адзін для данай ямкі пакунак, на якім і надпісваецца № ямкі. Каб спыніць процэсы перагніваньня, спробе даецца магчымасьць хутчэй прасохнуць.

У мясцовым музэі спробы гэтыя раскрываюцца. На высушаных спробах яшчэ раз правяраюцца вызначэньні мэханічнага складу і апісаньне. Разьмясьціўшы спробы ў каробкі, лепей з зашкленымі крышкамі, можна мець вельмі зручны і паказальны матар'ял аб мясцовых глебах. Частку-ж гэтых спроб можна скарыстаць на ўсялякія аналізы.

Каб узяць маноліт, трэба мець спэцыяльную манолітную скрынку. Робяцца манолітныя скрынкі звычайна з дошак прыблізна ў цалю таўшчыні, разьмерамі ў сярэдзіне скрынак: даўжыня 1 мэтар, шырыня 20 см і глыбіня—6 см.

На вуглах скрынка сашчапляецца моцна ў замок, дно і верхняя крышка робяцца ад'емныя на шурупах.

Для выемкі манолітнага ўзору глебы акуратна выкапваецца адпаведных разьмераў глебавая ямка. Сьценка, з якой будзе ўзяты маноліт, робіцца роўнай і адвеснай. Далей да сьценкі лёгка прыкладаецца бочная рамка манолітнай скрынкі, ад якой к гэтаму часу адымаюцца дно і крышка і па зьнешняй старане вырысоўваецца фігура скрынкі. Па гэтай лініі зямля абразаецца навокал нажом, пакідаецца толькі вычарчаны брусок.

Калі брусок выразаны акуратна на належную глыбіню, дык да яго зноў прымяраецца рамка, брусок зноў абрысоўваецца па ўнутранай старане і канчаткова абразаецца па гэтай лініі. У выпадку лёгкага папсаваньня бруска больш абразаецца папсаваная старана. Канчатковая абрэзка робіцца вельмі акуратна.

На выразаны брусок асьцярожна надзяецца рамка манолітнай скрынкі, відная старана бруска абрэзваецца роўна з краямі рамкі і нашрубоўваецца аднятая крышка. Цяпер трэба глядзець, каб выразаны брус з скрынкай не адваліўся сам. Для гэтага маноліт прытрымліваецца рукамі, а яшчэ лепш зьнізу туга падбіць яго зямлёй.

Адразаецца маноліт таксама нажом з бакоў, але не да канца. Калі ўжо адразаць засталося мала, маноліт лёгкімі паваротамі ў бакі надламліваецца і хутка адкідаецца на сьпіну, прычым ніжні канец з месца ня здымаецца. Такім парадкам звычайна лёгка ўдаецца браць добрыя маноліты.

З адрэзанага маноліту абразаецца лішняя зямля роўна з краямі бочнай ямкі і нашрубоўваецца другая крышка. На крышках і на бочнай раме надпісваецца месца выемкі і нумар узятага маноліту.

У вільготным стане маноліт не баіцца ніякіх перавозак. Так маноліты перасылаліся нават з СССР у Амэрыку.

У музэі адымаецца абы-якая з крышак; моноліт ачышчаецца нажом, абдуваецца ад пылу і пасьля гэтага ён ужо гатоў для дэмонстрацыі. Пры прасыханьні моноліты глінастыя крыху трэскаюцца, а пяшчаныя рассыпаюцца, таму іх трэба ставіць ў спакойнае месца. Асабліва трэба берагчы моноліты ад псаваньня іх пальцамі пры абмацваньні. Лепей хаваць моноліты пад шклянымі рамамі.

Кожны папсаваны зьверху моноліт трэба толькі ачысьціць ад разрытай зямлі да цэлай незакранутай часткі, адзьдзмухаць пыл, папырскаць вадой, і ён зноў будзе выглядаць, як сьвежая глеба. У гэтым вялікая каштоўнасьць монолітаў для музэйных і навучальных мэтаў, бо на працягу ўсяго часу моноліт дае поўнае ўяўленьне аб жывой глебе з усімі яе дробязямі.

### 6. Скарыстаньне матар'ялаў вывучэньня глеб.

У выніку дасьледваньня глеб данага раёну зьбярэцца наступны матар'ял: 1) глебавыя спробы, якія пойдуць на далейшую апрацоўку і ў музэй; 2) сшытак палявых запісаў і замалёвак.

Паводле гэтых даных, а таксама і даных лябораторных аналізаў, дзе гэта магчыма зрабіць, звычайна складаецца карта глеб дасьледванага раёну. Палявыя запісы аб паасобных ямках даюць уяўленьне аб тыпах глеб, якія сустракаюцца на данай тэрыторыі. Карта-ж глеб дае ўказаньне на пашырэньне розных тыпаў глеб.

Каб скласьці карту глеб данага раёну, трэба наогул мець картку ці плян данага зямельнага вучастку. Пажадана, каб на гэтым пляне была нанесена дакладна ўнутраная сытуацыя, яшчэ лепей, калі на карце ці пляне нанесены і рэльеф, напрыклад, горызанталяй.

Складаньне карткі пачынаецца з палявой работы. Яшчэ лепш месца кожнай глебавай ямкі канечна трэба орыентаваць на пляне ці карце, адзначыўшы яго там кружочкам ці крыжыкам, і памеціць нумарам па палявому сшытку. Разам з гэтым зьвяраецца адпаведнасьць пляну і мясцовасьці.

У далейшым, пасьля канчатковага ўстанаўленьня мэханічнага складу і тыпаў глеб, каля кожнай ямкі на карце адзначаюцца каротка мэханічны склад і тып глебы. Пасьля гэтага глебавыя раёнчыкі на карце груба вырысоўваецца самі. Застаецца толькі ўважліва разьмежаваць раёнчыкі з аднымі глебамі ад раёнчыкаў з другімі глебамі.

Для выразнасьці глебавай карткі паасобныя глебавыя раёнчыкі запаўняюцца рознымі ўмоўнымі знакамі, лепей каляровымі. Часьцей за ўсё ўжываюцца такія ўмоўныя колеры: пяскі—жоўты колер, супяскі—аранжавы, суглінкі пяшчаністыя—чырвоны, суглінкі лёэсаватыя—буры ці цёмна-шэры, гліны—малінавы, балоты травяныя—сіні, балоты мохавыя—фіялетавы, лугавыя глебы—зялёны і г. д.

Здавальняюча складзеная глебавая картка мусіць зрабіцца тым асноўным выходным документам, паводле якога павінны пляновацца ўсе гаспадарчыя разрахункі і мерапрыемствы.

Але для гэтага трэба ўмець карыстацца такой карткай. Трэба добра ўяўляць сабе кожную намечаную па карце глебу, трэба ведаць адмоўныя і станоўчыя бакі, трэба ведаць продукцыйныя магчымасьці і шляхі іх палепшаньня.

Гэтыя пытаньні аб глебах вырашаюцца ня лёгка. Для гэтага патрэбна доўгае і ўсебаковае вывучэньне глеб, што цяпер і робіцца. Але паколькі падобныя выдзеленыя тыпы глеб усюды больш-менш аднолькавыя, пастолькі гэтыя глебы можна характарызаваць тымі

аналізамі, якія зроблены глебаведчымі організацыямі для такіх-жа глеб у другім месцы.

Можна скласьці ўяўленьне аб с.-г. прыдатнасьці глеб і другім парадкам—з агляду самых глеб. Трэба толькі разумець свае глебы.

Так, напрыклад, выгляд слаба-падзолістай глебы на пяскох, праз якую воды прабягаюць як праз рэшата, выразна паказвае, што ў данай глебе продукты глебы і ўгнаеньняў растваряюцца слаба, а тое, што раствараецца, хутка пранікае ў глыб глебы; адсюль зразумела, што ў гэтай глебе расьліна слаба забясьпечана вадой і растворнымі продуктамі харчаваньня. Гэта глеба ў сельскай гаспадарцы нявыгодная, і шляхі палепшаньня яе нялёгкія.

Наадварот, глiністая глеба, якая не асабліва моцна ападзольваецца, затрымлівае ў сабе амаль усю атмосфэрную ваду; апошняя-ж выціскае з глебы паветра, што выклікае балоцістыя процэсы і зьяўляецца шкодным для расьліннасьці. І гэта глеба няўдобная для сельскай гаспадаркі, але шляхам асушкі і вапнаваньня з яе лягчэй зрабіць добрую глебу.

Лепшымі глебамі для забесьпячэньня расьлін патрэбнымі продуктамі росту (вадой, паветрам, растворнымі пажыўнымі матэрыямі) зьяўляюцца сугліністыя і супяшчаныя глебы, што адбіваецца і на выглядзе гэтых глеб (выяўленьне гор. A і B; у B пераносяцца толькі тыя продукты, якія не скарыстоўваюцца расьлінамі, харчовыя-ж продукты расьліна з раствору глебы пасьпявае выбраць амаль поўнасьцю).

Балотныя і луга-балотныя глебы, ня гледзячы на вялізныя адклады ў іх перагнойных астач расьлін,—глебы вельмі нявыгодныя, дзякуючы іх заўсёды мокраму стану і балоцістаму процэсу. Але пасьля асушкі і часта вапнаваньня якасьць такіх глеб хутка паляпшаецца.

Такім і падобным спосабам без аналізаў, а простымі наглядань нямі над глебамі і іх ўраджайнасьцю, пранікаючы ў сэнс глебавых процэсаў, можна дакладна ўстанаўляць с.-г. якасьць сваіх глеб і разумна плянаваць мерапрыемствы социялістычнай рэконструкцыі нашай сельскай гаспадаркі.

## 7. Сьпіс найноўшай літаратуры аб глебах БССР.

Для тых асоб, якія хацелі-б азнаёміцца з глебамі Беларусі больш падрабязна, можна параіць наступную найноўшую літаратуру.

1. Проф. В. Г. Касаткін: „О почвах Белоруссии“. Запіскі Белар. с.-г. інст., выпуск 2, Менск. 1929 год.

2. Ён-жа: „Почвы Жорновского участка лесной опытной станции. Запіскі Белар. с.-г. Інстытуту, вып. 6, Менск, 1925 г.

3. Ён-жа: „Почвенная характеристика заболоченных пространств Белорусского Полесья“. Упрамеліозем Беларусі, Менск, 1926 г.

4. Проф. Я. М. Афанасьеў: „Этюды о покровных породах Белоруссии“. Запіскі Горацкага с.-г. інстыт., т. II, 1924 г., Горкі.

5. Ён-жа: „О почвах Витебской с.-х. опытной станции в совхозе Подберезье“. Кароткая справаздача аб дзейнасьці Віцебск. с.-г. дасьледч. станц. за 1923-24 г., 1925 г. Віцебск.

6. Ён-жа: „Очерк почв по Белоруссии“. Запіскі Белар. Дзярж. с.-г. Акад. т. I, 1926 г. Горкі.

7. П. П. Рагавы: „Аб глебах Беларускай Агрономічнай станцыі (у Банцароўшчыне)“. Інбелкульт, 1926 г., Менск.

8. Ён-жа: „Глебы Марусіна (палявога ўчастку Менскай балотнай станцыі) у сувязі з організацыяй плошчы пад дасьледчае поле“. Запіскі Белар. Дз. с.-г. Акадэміі, т. I, 1926 г. Горкі.

9. Ён-жа: „Глебы Асіпавіцкага раёну“. Выд. Ц. Б. К., 1927 г., Менск.

10. Ён-жа: „С.-г. вартасьць падзолістых глеб Беларусі“. Часопісь Сельская і Лясная Гаспадарка; Белар. Нав.-Д. Інст. № 1, 1927 г. Менск.

11. Ён-жа: „Кароткі курс глебазнаўства“. Белар. Дзярж. Выдав., Менск 1929 г.

12. Ён-жа: „Глебы Мазырскай акругі (папярэдні нарыс)“. Запіскі аддз. Прыр. і Гасп. Белар. Акад. Навук, т. III, 1929 г.

13. Ён-жа: „Глебы б. Слуцкае акругі (папярэдні нарыс)“. Там-жа.

14. Ён-жа: „Глебы тэрыторыі I Усебеларускай Выстаўкі с.-гасп. і прамыслов.“. Беларуск. Дзярж. Выдав. 1930 г.

15. П. А. Кучынскі: „Глебава-географічны нарыс Паўночнай Аршаншчыны“. Працы Навук. Т-ва па вывуч. Беларусі, т. I, 1926 г.

16. Ён-жа: „Глебы Горацкага раёну“. Працы Навук. Т-ва па вывуч. Белар. Т. III. 1927 г. Горкі.

17. Мядзьведзеў П. Р.: „Мікрорэльеф лёэсавых плято і ўплыў яго на глыбіню пакладу карбонавага пазему“. Запіскі Белар. с.-г. Акад., т. II, 1926 г., Горкі.

18. Ён-жа: „Глебавыя тыпы, мэханічны склад і фізычныя ўласьцівасьці глеб па мікрорэльефу і сувязі з водным рэжымам мікрозападзін“. Працы Горацкага Нав. т-ва, т. VI, 1929 г. Горкі і інш.

17/VI—1931 г.
Гомель.

# Аб вывучэньні быту і культуры лесарубаў і плытагонаў.

*(Кароткая інструкцыя).*

У сучасны момант у краіне Саветаў бурнымі тэмпамі праводзіцца соцыялістычнае будаўніцтва, пад магутнымі ўдарамі якога ўсё ўстарэлае і няпрыгоднае для жыцьця хутка рушыцца і ўступае сваё месца новаму і найбольш прыгоднаму для соцыялістычнага грамадзтва. Ствараюцца новыя і найбольш рацыянальныя формы арганізацыі працы і адпачынку па кожнаму прадпрыемству, пабудаванаму на колектыўных асновах. Такім чынам, устарэлыя і прымітыўныя формы ў процэсах неарганізаванае працы паступова адміраюць і замяняюцца новымі, а разам з тым уводзяцца новыя і найбольш мэханізаваныя інструманты і прылады, спэцыяльная вопратка і г. д. Само сабою зразумела, што пад уплывам соцыялістычнай рэконструкцыі ў корані зьмяняюцца бытавыя ўмовы працоўных мас; яны набываюць зусім іншыя формы і зьмест, будучы цесна ўвязанымі з соцыялістычнай перабудовай усёй Савецкай краіны. Працоўныя масы гораду і вёскі пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі вядуць бязьлітасную барацьбу па ліквідаваньні той брыдоты, якую пакінулі нам часы царызму. Ударнымі тэмпамі праводзіцца індустрыялізацыя краіны і рэконструкцыя сельскай гаспадаркі. Гэта барацьба за соцыялізм, за лепшую будучыню краіны зьяўляецца для этнографіі вельмі каштоўным матар'ялам па вывучэньню матар'яльнай культуры ў сувязі з соцыяльна-бытавымі зьменамі сярод працоўных мас.

## Об'екты этнографіі.

Тыповыя сялібы: адзіночныя двары і хутары, вёскі, засьценкі, выселкі, аколіцы і мястэчкі. Сыстэма разьмяшчэньня сялібы ў сувязі з прыроднымі ўмовамі мясцовасьці. Галоўныя фактары сялібнай сыстэмы: лес і вада, горы і даліны, дарогі, выганы, выпускі і розныя гаспадарчыя выгоды. Вуліца, яе выгляд і забудова. Канцы вуліцы, іх назва і службовае прызначэньне. Плошчы для гандлю, сходаў і гульняў. Тыповыя сялібы па розных раёнах Беларусі. Забудова сялібы — 4-кутнікам, вянком, пагонам і ўроскід. Пляны гэтых сяліб. Разьмяшчэньне па розных сялібах будынкаў — жылых, надворных і службовых. Агароджа сялібы, уваходы і выхады, вароты, і вешніцы, і з іх заваламі. Чысты і чорны двор, іх выгляд і прызначэньне. Разьмяшчэньне гародаў, пладовых садоў і пчольнікаў, гумнішчаў, сушняў, лазьняў і калодзежаў. Сялібы новага тыпу па прадпрыемствах для рабочых, колгасьнікаў і служачых.

*Тыповае памяшканьне беларуса—хата.* Падрабязнае апісаньне старажытнай курнай хаты: будаўнічыя матар'ялы, пастаноўка зрубу, падмурак і верх, падлога, бэлькі, сталь, дах, вокны, дзьверы і вяршок. Знадворнае аздабленьне хаты. Унутранае аздабленьне хатніх сьцен. Устаўка акон і дзьвярэй. Гліняная бітая печ, прыпечны слуп, падпечак, ямка, пячуркі і качырэжнік. Падлога, пол, палаткі, лаўкі і паліцы. Хатняе абсталяваньне: стол з услонамі, дзед (лучнік), альбо сьветач. Падзел хаты на тры часткі: кухня перад печкай, сталовая і гасьціная сярод хаты на куце, спальня ў запечку. Прыхатнік альбо сенцы. Пабудова іх і абсталяваньне. Прызначэньне сянец. Каморка і яе абсталяваньне. Рэчы хатняга ўжытку, належачыя да кожнай часьці хаты і сенцаў. Прылады і розныя інструманты хатніх рамесьнікаў. Санітарны стан курнай хаты.

Хата новага тыпу. Пабудова яе і аздабленьне ў сярэдзіне і з надворнага боку. Устаноўка печы з дымаходам. Абсталяваньне новай хаты. Замена старых прадметаў ужытку ўнутры хаты: пасуда, прылады, інструмант і машыны хатняга ўжытку. Рознастайнасьць відаў новай хаты па розных раёнах Беларусі, пабудова дамоў рабочага местачковага тыпу, з падзелам іх на 3-4 пакоі. Архітэктурны стыль гэтых дамоў, знадворнае і ўнутранае аздабленьне і абсталяваньне. Апісаньне другіх будынкаў сялібы: істопка, клець з прыклетнікам і сьвіран; павець і траскоўнік; хлявы і пуні; сяньніца, клуня і шопа ці вазоўня; гумнішча і розныя тыпы гумна; пагрэбнішча, лазьня, і іншыя будынкі, напрыклад, розныя майстэрні. Спосаб іх пабудовы, абсталяваньне і іх гаспадарчае пpзначэньне. Пабудова калодзежаў, вадапояў і сажалак.

Гарод і пладовы сад, пчольнік, ворнае поле і сенажаці, выганы, выпасы і дарогі. Прыстасаваньне іх для гаспадарчых ці культурных патрэб. Тыповыя прадметы інвэнтару па розных галінах гаспадаркі, заняткаў і прамысловасьці. Розныя прадметы і матар'ялы вырабаў для хатняга ўжытку і на продаж. Тыповая адзежа, абутак, рукавіцы, галаўныя ўборы, прадметы ўбраньняў і аздобы. Матар'ялы, з якіх вырабляюцца гэтыя прадметы. Майстры і прылады для вырабу матар'ялаў і самых прадметаў (адзежы, абутку, рукавіц, галаўных убораў, убраньняў і аздоб). Падзел гэтых прадметаў на ніжнія, верхнія, летнія, будзённыя, зімнія, сьвяточныя, абрадавыя і профэсіянальныя. Спэцыяльная адзежа па розных прадпрыемствах.

Яда і піцьцё. Продукты для яды і піцьця. Загатоўка продуктаў. Прыгатаваньне яды і піцьця. Майстэрні, прылады і пасуда.

Апісаньне ўсяго гэтага пад кутом погляду зьмен у сувязі з соц. будаўніцтвам. Этнографічная Сэкцыя Інстытуту гісторыі Беларускай Акадэміі Навук, як адну з актуальных задач — ставіць задачу вывучэньня матар'яльнай культуры. Прычым у першую чаргу пастаўлена тэма: „Лесарубы і плытагоны ў БССР" да Кастрычнікавай рэволюцыі і цяпер за савецкай уладай. Зьбіраць матар'ялы па гэтаму пытаньню трэба па наступнай програме:

## 1. Распрацоўка лясоў.

1. Загатоўка лясных матар'ялаў, прызначаных для сплаву. (Пажадана выявіць усе процэсы загатовак і паказаць сэзон загатовак), машыны і прылады для загатовак.

2. Організацыя працы па лесазагатоўках — арцелі, брыгады.

3. Новыя социялістычныя мэтоды працы на лесазагатоўках: соцспаборніцтва і ўдарніцтва.

4. Вываз лесаматар'яла ў на прыстані (таксама з адзначэньнем усіх процэсаў вывазу.)
5. Заработак лесарубаў і возчыкаў па дагаварох.
6. Ахова працы па лесазагатоўках — спэцвопратка і г. д.
7. Бытавыя ўмовы лесазагатоўшчыкаў на лесазагатоўках і домах.
8. Памяшканьне, вопратка і харчы лесазагатоўшчыкаў.

## 2. Кампанія падрыхтоўкі да сплаву.

1. Абсталяваньне прыстаней для сплаву лясных матар'ялаў.
2. Загатоўка гужбы і вязка плытоў на прыстанях;нарыхтоўка лодак і снасьцей з адзначэньнем іх формы і назвы.
3. Організацыя працы рабочых на прыстанях па дагавору — арцелі, брыгады.
4. Ударніцтва і соцспаборніцтва пры вязаньні плытоў.
5. Заработак падзённых, сэзонных і кваліфікаваных рабочых.
6. Ахова працы па прыстанях — спэцвопратка і г. д.
7. Бытавыя ўмовы працы рабочых па прыстанях — памяшканьне, вопратка і харчы.
8. Культработа сярод рабочых па прыстанях.

## 3. Кампанія па сплаву лясных матар'ялаў.

1. Гонка лясных матар'ялаў па малых сплаўных рэчках.
2. Сплаў лясных матар'ялаў па вялікіх і суднаходных рэках.
3. Організацыя працы рабочых - плытагонаў. Арцелі, брыгады.
4. Соцспаборніцтва і ўдарніцтва пры гонцы плытоў.
5. Заработак плытагонаў розных катэгорый па дагавору.
6. Ахова працы на плытох — спэцвопратка і г. д.
7. Бытавыя ўмовы рабочых-плытагонаў — на плытох, у дарозе, на прывалах і дома. Памяшканьне, вопратка і харчы.
8. Культработа сярод рабочых-плытагонаў.

**Для найлейшай распрацоўкі паданай програмы патрэбны матар'ялы.**

1. Архіўныя матар'ялы за доўгія гады: кнігі, дагаворы і разрахункі.
2. Успаміны старых людзей, асабліва былых удзельнікаў лесазагатовак і сплаваў.
3. Монографічныя апісаньні былых і сучасных лесараспрацовак і сплаву ў асобных раёнах.
4. Докумэнты савецкіх установ па лесараспрацоўках і сплаву.
5. Корэспондэнцыі дапісчыкаў і краяведаў.

Распрацаваныя матар'ялы і асобныя даныя па гэтым пытаньні трэба дасылаць для надрукаваньня ў рэдакцыю часопісу „Савецкая Краіна" і ў Сэкцыю этнографіі Інстытуту гісторыі Беларускай Акадэміі Навук.

*Сэкцыя этнографіі.*

С.

# Народніцтвуючы буржуа.

Проф. М. В. Довнар-Запольский. *Западный район.* (Белорусская ССР и западная область РСФСР). Госуд. издат. Москва, 1928, Ленинград. У сэрыі выданьняў: Экономическая география СССР. Под редакцией М. Б. Вольфа и Г. А. Мебуса.

---

Адны ўжо імёны аўтара і рэдагуючых наводзяць на думку аб буржуазнасьці ўстановак гэтае працы. Зьмест працы цалкам сьцьвярджае гэтае падазрэньне.

На сорам экономістаў-географаў гэтая буржуазная пашляціна, насычаная дзейнымі контррэволюцыйнымі ідэямі беларускага нацыянал-дэмократызму, зьяўляецца да апошняга часу адзіным эконом-географічным выданьнем аб БССР на расійскай мове, — па ёй працоўныя масы СССР вымушаны знаёміцца з экономічнай географіяй БССР.

Гвозд нацдэмаўскае мудрасьці — мана аб адзінстве нацыі знаходзіць поўны адбітак у працы Доўнара-Запольскага. „Царскі ўрад, — піша Д.-З., — заўжды хістаўся паміж прыемным яму, але каталіцкім і опозіцыйным настроем дваранствам, і *праваслаўным сялянствам.* І звычайна станавіўся на бок дваранства, *папірая нацыянальныя інтарэсы Беларусі*". ( ст. 6, падкрэсьл. намі — С.).

Нацыянальныя інтарэсы, як бачым, падаюцца Д.-З. як галоўныя, самадаўлеючыя і агульныя інтарэсы ўсяго беларускага народу. Апошні-ж складаецца, па Д.-З., з адзінага „праваслаўнага сялянства"; соцыяльная дыфэрэнцыяцыя адсутнічае ў беларускім народзе, а каталік — таксама ўжо не беларус. Адсюль выводзяцца і інтарэсы беларускага народу, як адзіныя нацыянальныя інтарэсы.

За догмай нацыянальнага адзінства, і як лёгічнае яе разьвіцьцё, Д.-З. пропагандуе капіталістычны шлях разьвіцьця сельскае гаспадаркі. „*Неабходна адцяніць,* — піша ён, — што рэволюцыя дадала зямлі працоўнаму насельніцтву і значна ўраўняла землекарыстаньне. Аднак (!?), яна не магла давесьці сялянскую гаспадарку да поўнага забесьпячэньня зямлёю пры даных формах тэхнікі. Разьвіцьцё тэхнікі сельскае гаспадаркі зьяўляецца актуальнейшай задачай, таму што прырэзкі зямлі нарастаючаму пакаленьню ня могуць быць значнымі" (ст. 31, падкр. намі — С.).

Ахарактарызаваўшы рэволюцыю, як ураўнілаўскае павялічэньне зямлі ў руках „працоўнага насельніцтва“, Д.-З., як бачым, паставіў яе ў супярэчнасьць з разьвіцьцём тэхнікі. Апошняя-ж, даючы пэрспэктывы „нарастаючаму пакаленьню“, у сваім разьвіцьці ставіцца ў залежнасьць ад эволюцыйнага капіталістычнага разьвіцьця сельскае гаспадаркі, пачынаючы ад такога памыснага штуршка, як сталыпінская рэформа.

„Як толькі, — піша Д.-З., — пачаліся так званыя сталыпінскія рэформы, беларускія сяляне асабліва энэргічна пачалі зьнішчаць праспалосіцу і пераходзіць на хутары. Па даных на 1 сьнежня 1925 году па ўсёй БССР 21 проц. гаспадарак разьмешчаны хутарамі, 1,0 проц. маюць зямлю ў адрубах, а праспалоснасьць яшчэ складае сур'ёзны тормаз, бо яна ахапляе 69 проц. гаспадарак“ (ст. 30). Словам, тое, што разьвіцьцё сельскае гаспадаркі БССР ішло сталыпінскім шляхам ніколькі няпужае, а, наадварот, радуе буржуа Д.-З. Проблема ўздыму сельскае гаспадаркі вырашаецца, па яго думцы, сталыпінскімі хутарамі ды адрубамі — формамі, якія нарадзіў капіталізм і якія яго васпраізводзяць, а ня соцыялістычнымі формамі, якія нарадзіла рэволюцыя.

Падобны напрамак разьціцьця сельскае гаспадаркі Беларусі ўгрунтоўваецца Д.-З. на тым, што „на працягу некалькіх дзесяткаў год передваеннага пэрыоду беларуская сельская гаспадарка нашчупвала той напрамак, які мог-бы даваць задавальненьне (?) запатрабаваньняў нарастаючых пакаленьняў (!)“ (ст. 36). Гэта значыць: усё, што паміма капіталістычнае эвалюцыі — зьяўляецца чужым для сельскае гаспадаркі Беларусі. Гэта значыць: прыстасоўвай політыку да эволюцыі сельскае гаспадаркі і не надавай новых шляхоў рэконструкцыі земляробства. Гэта ёсьць тая-ж рэакцыйная політыка беларускае кандрацьеўшчыны, якая накіроўвала разьвіцьцё сельскае гаспадаркі Беларусі па капіталістычнаму шляху.

Пропаганду капіталістычнага шляху разьвіцьця сельскае гаспадаркі Д.-З. праводзіць у форме дапатопнае народніцкае ідэалізацыі дробнага земляробства. Ён усялякім спосабам імкнецца давесьці перавагу малазасеўных груп сялянства над многазасеўнымі, пераважнае „імкненьне малазасеўных груп да інтэнсыфікацыі сельскае гаспадаркі“ і г. д. Пры гэтым, даводзіць падобныя сьцьвярджэньні праз такія аргумэнты, як тое, што „малазасеўныя групы нясуць адносна большыя затраты на прадметы сельска-гаспадарчага інвэнтару, што, — па яго думцы, — паказвае на гаспадарчае ўмацаваньне гэтых груп“ (ст. 83). Тое, што „адносна большыя затраты на прадметы сельска-гаспадарчага інвэнтару“ ў малазасеўных групах ёсьць ні больш, ні менш як марнатраўства сіл і сродкаў з-за нерацыянальнага іх выкарыстаньня выдаецца Д.-З. як перавага гэтых гаспадарак, — якая паказвае іх умацаваньне. Гэта ўжо сапраўды парадокс, які сьведчыць толькі аб нялоўкасьці рук гэтага вучонага буржуа ў выбары ім аргумэнтаў.

Для змазваньня соцыяльнай розьні і клясавае барацьбы на вёсцы Д.-З. ужывае такія тэрміны, як „сялянская кляса насельніцтва“, „працоўныя землі“ і г. д. Увесь матар'ял падаецца Д.-З. у сярэдніх велічынях; да рэволюцыі для ўсіх відаў землеўладаньня, а пасьля рэволюцыі для ўсяго сялянства. Разам з гэтым спэцыяльна падкрэсьліваецца, што „пры беднасьці беларускіх(?) глеб і пры вялікіх сем'ях, забясьпечаньне звыш 6 дзесяцін засеву *далёка* ня можа служыць паказаньнем на эксплёататарскі характар сялянскае гаспадаркі“ (ст. 28, падкр. мною — С.). Словам, беларускія „ўмовы“ не дапушчаюць магчымасьці існаваньня кулакоў.

Наогул „беларускія асаблівасьці“ займаюць шмат месца ў працы Д.-З. і ўгрунтоўваюць шмат таго, што інакш, як спаслаўшыся на гэтую догму, нельга ўгрунтаваць. „Асаблівасьці“, якія так шырока ўжывалі наогул беларускія нацдэмы, разумеюцца імі не як асаблівасьці, якія вынікаюць з прыроднага і грамадзкага асяродзьдзя Беларусі, а як нейкі нязьменны нацыянальны фэномэн-фэтыш нацыянальнага паходжаньня, які, як забабонны чараўнік, абумоўлівае магчымасьць такіх зьявішч на БССР, якія немагчымы ў іншых рэспубліках і г. д.

Цэнтральным пунктам такіх „асаблівасьцяй“ Беларусі Д.-З. і ўсімі нацдэмамі лічыцца так званая аграрная перанаселенасьць. Д.-З. піша па гэтаму пытаньню наступнае: „перанаселенасьць даўно складае характэрную рысу Беларусі“... „значны натуральны прырост пры беднасьці глебы і вялікіх прасторах, няўдобных для земляробства, утварае моцную перанаселенасьць БССР“ (ст. ст. 18-19). Аграрная перанаселенасьць, у сваю чаргу, па Д.-З., абумоўлівае ўсе соцыяльныя няўзгоды беларускага народу і зьяўляецца самадаўлеючай проблемай, над паслабленьнем (а не ліквідацыяй, бо гэта, бачыце, натуральнае зьявішча) вастраты якой павінна концэнтравацца ўся ўвага ўлады і г. д. Шляхамі-ж гэтага паслабленьня, па Д.-З., зьяўляюцца, як мы ўжо бачылі, інтэнсыфікацыя земляробства праз хутары, адрубы і г. д., гэта значыць праз капіталістычнае разьвіцьцё вёскі з народніцкай афарбоўкай гэтага разьвіцьця ў „працоўнае“ землекарыстаньне дробнага тыпу.

Такім чынам, аграрнае перанасяленьне буржуа Д.-З. трактуецца не соцыяльным зьявішчам, а зьявішчам натуральным, самадаўлеючым і нязьменным, уласьцівым Беларусі. Адыгрывае-ж аграрнае перанасяленьне ў руках буржуа такую-ж рэакцыйную ролю, як і закон убываючае ўрадлівасьці глебы, — ролю перанясеньня прычын грамадзкае няроўні і няўрадзіц з прычын грамадзкага, клясавага паходжаньня на прычыны натуральныя. У выніку такой лёгікі буржуа клясавая барацьба ўступае месца агульна-нацыянальнай барацьбе з такою „асаблівасьцю“, як проблема аграрнага перанасяленьня. На апошнюю перакладваюцца адмоўныя бакі соцыяльнага жыцьця пры капіталістычным ладзе, гэты лад увекавечваецца, а барацьба з аграрнаю перанаселенасьцю толькі паслабляе соцыяльную няроўню.

Контррэволюцыйная палітыка беларускае кандрацьеўшчыны, якая ажыцьцяўлялася прышчэпаўшчынай, цалкам задавальняе Д.-З. Ён ахвотна популярызуе і ўмацоўвае асноўныя палажэньні прышчэпаўскага пэрспэкцыйнага пляну разьвіцьця сельскае гаспадаркі з яго мінімальнымі ды максымальнымі нормамі, хутарамі, адрубамі, разьвязваньнем прыватных унешніх і ўнутраных рыначных сувязяй і г. д. Неабходнасьць разьвязваньня ўнешніх рыначных сувязяй з падрывам дзяржаўнае монополіі гандлю, сувязяй праз якія буржуа ўсіх колераў імкнуліся зрабіць СССР колёніяй міжнароднае буржуазіі, падмацоўваецца Д.-З. прэславутай тэорыяй зьніжэньня інтэнсыфікацыі сельскае гаспадаркі з Захаду на Ўсход. У напрамку капіталістычнага разьвіцьця сельскае гаспадаркі і сувязі яе з унешнім рынкам (разглядваючы апошні як дапамогу ў капіталістычнай рэстаўрацыі) ён бачыць адзіны шлях уздыму земляробства, як асноўнае і вядучае, — па яго думцы, — галіны народнае гаспадаркі БССР. Яго генэральная лінія — лінія беларускае кандрацьеўшчыны на капіталістычную, аграрна-колёніяльную Беларусь.

Такава ў асноўных рысах шкодніцкая, контррэволюцыйная сыстэма ідэй, на якіх пабудавана разгледжаная праца Доўнара-Запольскага.

---

# ОФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ.

## Усім гарадзкім і раённым інспэктаром народнай асьветы, дырэктаром ВНУ, тэхнікумаў і загадчыкам ФЗС, КС ШТМ.

Магутныя тэмпы разгорнутага соцыялістычнага будаўніцтва, індустрыялізацыя краіны на аснове соцыялістычнай рэконструкцыі і колектывізацыі сельскай гаспадаркі, будаўніцтва спэцыялізаваных саўгасаў патрабуе неадкладнага ўсебаковага вывучэньня мясцовых прыродных вытворчых сіл, найбольш спрыяючых фактараў культурнае рэволюцыі, клясавай барацьбы і г. д. для паскарэньня тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва.

Гэтая вялізарная праца можа быць выкавана толькі пры ўмове, калі ў ёй прымуць удзел самыя шырокія працоўныя масы, рабочыя, колгасьнікі, у першую чаргу ўдарнікі. Формай такога ўдзелу працоўных мас у соцыялістычным будаўніцтве краіны, праз вывучэньне сіламі саміх працоўных сваёй фабрыкі, заводу, саўгасу і колгасу данага раёну, зьяўляецца савецкае краязнаўства пад пяўхільным кіраўніцтвам компартыі. Разам з гэтым краязнаўства зьяўляецца адным з магутных сродкаў політэхнічнага выхаваньня працоўных мас і падрастаючага пакаленьня і падрыхтоўкі новых кадраў будаўнікоў соцыялізму.

Аднак, ня гледзячы на такое вялізнае значэньне савецкага краязнаўства для будаўніцтва соцыялістычнай гаспадаркі і культуры, яно яшчэ ня стала сапраўдным масавым рухам у БССР. Прычынамі гэтаму зьяўляліся:

а) варожая для пролетарыяту дзейнасьць у краязнаўстве контр-рэволюцыйных нацыянал-дэмократаў, якая была накіравана на зрыў соцыялістычнага будаўніцтва і рэстаўрацыю капіталізму;

б) зусім недастатковае ўступленьне ў краязнаўчыя організацыі рабочых, колгасьнікаў, батрацкіх і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі;

в) поўная адарванасьць да апошняга часу краязнаўчых організацый ад савецкіх, гаспадарчых, плянуючых культурна-асьветных і грамадзкіх організацый;

г) недастатковая ўвага з боку савецкіх і гаспадарчых установ, органаў народнай асьветы і профсаюзных організацый да пытаньня разгортваньня краязнаўчага руху;

д) недастатковая ўвага з боку ЦБК і органаў Наркамасьветы да справы падрыхтоўкі краязнаўчых кадраў;

е) адсутнасьць матар'яльнай базы для забесьпячэньня разгортваньня краязнаўчай працы на мясцох.

У мэтах далейшага разгортваньня краязнаўчай працы, якая павінна быць цалкам падпарадкавана інтарэсам дыктатуры пролетарыяту і зьяўляцца формай актыўнага ўдзелу шырокіх працоўных мас у соцыялістычным будаўніцтве і магутным сродкам політэхнічнага выхаваньня працоўных мас, Народны Камісарыят Асьветы БССР па лініі народнай асьветы прапануе правесьці ніжэйнаступнае:

I. Усім політ-асьветным установам у горадзе і вёсцы:

а) зьвярнуць сямую сур'ёзную ўвагу на дапамогу краязнаўчым організацыям у справе популярызацыі савецкага краязнаўства сярод шырокіх працоўных мас, на ўцягненьне рабочых, колгасьнікаў, батракоў і бядняцка-серадняцкіх мас і працоўнай моладзі ў краязнаўчыя організацыі і на організацыю краязнаўчых ячэек на фабрычна-заводзкіх прадпрыемствах, саўгасах, колгасах, МТС, пры школах, нардамох і хатах-чытальнях;

б) забясьпечыць усе бібліотэкі, клюбы, хаты-чытальні і чырвоныя куткі адпаведнай краязнаўчай літаратурай;

в) пытаньні краязнаўчага руху ўключыць у пляны свае працы, увесьці ў сыстэму плянавае правядзеньне краязнаўчых вытворчых экскурсій і экспэдыцый для шырокіх працоўных мас і разгортваньня пролетарскага турызму;

г) на конфэрэнцыях і курсах па падвышэньні кваліфікацыі політ-асьветных працаўнікоў і настаўнікаў адводзіць месца пытаньням краязнаўства як мэтодычна-тэорэтычнага, так і практычнага характару.

II. Раённыя і гарадзкія інспэктары народнай асьветы і загадчыкі ўсіх навучальных установ, падпарадкаваных НКА, павінны

рашуча ўзяцца за організацыю краязнаўчае працы пры ўсіх навучальных установах і аказваць адпаведную організацыйную, мэтодычную і фінансавую дапамогу студэнцкім і вучнёўскім краязнаўчым ячэйкам.

У вышэйшых навучальных пэдагогічных установах і тэхнікумах увесьці адпаведныя курсы краязнаўства.

III. Пры ўсіх музэях БССР разгарнуць шырокую навукова-дасьледчую працу, уцягнуўшы ў гэтую працу рабочых, колгасьнікаў, батракоў, бядняцка-серадняцкія масы, студэнтства і працоўную моладзь, што забясьпечыць падрыхтоўку краязнаўчых кадраў.

IV. Органам народнай асьветы прыняць усе меры да матар'яльнай дапамогі краязнаўчым організацыям і дабіцца каштарысных асыгнаваньняў для гэтых організацый на 1932 год.

V. Усім інспэктаром народнай асьветы пры аглядах працы культурна-асьветных установ зьвяртаць належную ўвагу на пастаноўку ў іх краязнаўчае працы.

Нам. Народнага Камісара
Асьветы БССР З. Ошараў.

Нам. Старшыні
ЦБК. Ф. П. Садоўскі.

25 жніўня 1931 г.
Менск.

# ХРОНІКА.

## Неадкладна прыступіць да складаньня плянаў працы ў краязнаўчых організацыях на 1932 г.

Савецкае краязнаўства рашуча пераходзіць на шлях плянавага і актыўнага ўдзелу ў соцыялістычным будаўніцтве. Органічнае ўключэньне краязнаўчага руху ў сыстэму соцыялістычнага будаўніцтва патрабуе плянавага разгортваньня сеткі краязнаўчых організацый, краязнаўчых кадраў, плянавага правядзеньня ўсёй навукова-опэрацыйнай работы, цесна ўвязанай з плянамі мясцовых савецкіх, гаспадарчых і соцыяльна-культурных устаноў і організацый, і падліку краязнаўчай працы. Ня гледзячы на ўсю важнасьць плянаваньня краязнаўчай працы, пераважная большасьць нашых краязнаўчых організацый (ячэйкі, бюро) ня маюць нават гадавых плянаў працы, не гаворачы ўжо аб пяцігадовым пляне. Гэты ганебны прарыў мы павінны ліквідаваць. Ужо зараз кожная краязнаўчая ячэйка, кожнае райбюро павінны распачаць падрыхтоўчую працу да складаньня плянаў, выходзячы з вытворчых плянаў прадпрыемстваў і ўстаноў, пры якіх краязнаўчыя ячэйкі існуюць. Плян працы раённага краязнаўчага бюро павінен быць пабудаваны на аснове плянаў працы краязнаўчых ячэек і павінен быць цесна ўвязаны з плянамі соцыялістычнага будаўніцтва раённых устаноў і організацый. Пляны ячэек і райбюро павінны ўваходзіць і складаць неад'емную частку агульных плянаў соцыялістычнага будаўніцтва адпаведных прадпрыемстваў, устаноў і організацый. Складаньне плянаў краязнаўчае, як масавае навукова-дасьледчае працы павінна быць справай саміх мас, якія будуюць соцыялізм, рабочых, колгасьнікаў, навукова-тэхнічнага пэрсоналу, агрономаў, настаўнікаў, коопэрацыйных работнікаў і г. д.

Пры складаньні плянаў працы на 1932 г. краязнаўчыя організацыі павінны выходзіць з ніжэйнаступных установак:

1. Сетка краязнаўчых організацый па кожнаму раёну павінна складацца ня менш як з 10 краязнаўчых ячэек (на прамысловых прадпрыемствах, у колгасах і саўгасах, пры хатах-чытальнях і г. д.) з 100 членамі, з якіх ня менш 50% павінны быць рабочыя і колгасьнікі.

Партыйна-комсамольскае ядро павінна складаць ня менш 20% у організацыях і ня менш 50% у кіраўнічых органах (бюро, рэвкамісіі).

Пры ўсіх ВНУ, пэдагогічных, с.-г., коопэрацыйных, будаўнічых і інш. тэхнікумах і школах павышанага тыпу (сямігодках і адпаведных ім) і ня менш як пры 30% масавых школ павінны быць організаваны краязнаўчыя ячэйкі з максымальным ахопам комсамольскай моладзі і піонэраў.

2. У кожным раёне організаваць краязнаўчы музэй (дзе такога яшчэ няма) альбо пастаянную краязнаўчую выстаўку, якая-б выяўляла рост соцыялістычнага будаўніцтва ў даным раёне. Пры $1/_3$ краязнаўчых ячэек у раёне організаваць краязнаўчыя куткі, музэі, пастаянныя выстаўкі.

Рост краяведных ячэек і музэяў павінен ісьці, галоўным чынам, па лініі фабрык, колгасаў і саўгасаў.

3. Правесьці па раённаму каштарысу сродкі на аплату аднаго адказнага працаўніка раённага бюро краязнаўства і на правядзеньне опэрацыйнай навукова-дасьледчай працы ня менш 500 руб.

У галіне навукова-дасьледчае працы ў кожным раёне павінна ў плянавым парадку быць праведзена:

### I. У справе вывучэньня вытворчых сіл раёну:

а) папярэдняе вывучэньне і падлік усіх карысных выкапняў і энэргетычных рэсурсаў раёну на падставе непасрэдных досьледаў краязнаўчых організацый раёну, матар'ялаў цэнтральных навукова-дасьледчых устаноў і друкаваных прац і вывучэньня электразабясьпечанасьці раёнаў, устанаўленьне пунктаў электраўстановак, складаньне сустрэчных плянаў электрыфікацыі. Злажыць карту карысных выкапняў раёну;

б) наладзіць сталую сетку фэнпунктаў (ня менш 5 пунктаў) і сыстыматычныя фэнолёгічныя нагляданьні;

в) папярэдняе вывучэньне глеб раёну (на падставе ўласных досьледаў, досьледаў Глебазнаўчага Інстытуту БАН і г. д.);

г) правесьці вывучэньне прамысловай фаўны ў раёне і лекавых расьлін;

д) арганізаваць вывучэньне чалавека, як вытворчай сілы.

**II. У справе пашпартызацыі раёну:**

Арганізаваць і правесьці папярэдняе комплекснае вывучэньне раёну паводле выданых праграм.

**III. У галіне індустрыялізацыі раёну:**

а) Вывучыць прыродныя багацьці (выкапні, тэхнічныя культуры, лясныя масывы) і соцыяльна-экономічныя ўмовы, якія вызначаюць характар разьвіцьця прамысловасьці ў даным раёне;

б) вызначэньне пунктаў прамысловага будаўніцтва;

в) вывучэньне соцыялістычнай рэконструкцыі ў кустарнай прамысловасьці і яе сувязі з буйнай прамысловасьцю.

г) монографічнае вывучэньне прамысловых прадпрыемстваў у раёне (ня менш 20% об'ектаў) і асобных галін прамысловасьці (найбольш характэрных з экономічнага боку).

**IV. У галіне сельскай гаспадаркі:**

а) Вывучыць с-г. спэцыялізацыю раёну і яго гаспадарчае значэньне ў гаспадарцы БССР;

б) будаўніцтва саўгасаў і разьвіцьцё колектывізацыі ў раёне; месца і роля аграмаджанага сэктару ў сельскай гаспадарцы раёну;

в) монографічнае апісаньне ня менш 25% саўгасаў, колгасаў МТС і фэрм у раёне;

г) вывучыць формы і мэтоды клясавай барацьбы ў раёне; правядзеньне ліквідацыі кулацтва як клясы на аснове суцэльнай колектывізацыі;

д) вывучыць разьвіцьцё жывёлагадоўлі і тэхнічных культур (лён, каноплі) у выкананьні програмы і заданьняў партыі і ўраду, а таксама і разьвіцьцё такіх галін с-г., як птушніцтва, трусагадоўля, пчалярства, садоўніцтва;

е) вывучыць найбольш высокаякасныя гатункі с-г. культур, магчымасьці выкарыстаньня мясцовага ўгнаеньня, шкоднікаў с-г. культур і мер барацьбы з імі.

**V. У галіне коопэрацыі і контрактацыі:**

Вывучыць: рост коопэрацыйнай сеткі і ахопу коопэрацыяй працоўнага насельніцтва (рабочых, колгасьнікаў, аднаасобнікаў); мобілізацыю сродкаў насельніцтва цераз паенакапленьні; работу коопэрацыі па пашырэньню колектывізацыі і павілічэньню вытворчасьці; рост контрактацыі разных продуктаў с-г. вытворчасьці; выкананьне плянаў.

**VI. У галіне транспорту:**

Прыняць актыўны ўдзел у плянаваньні разьвіцьця будаўніцтва шляхоў зносіп, у правільным выбары напрамку дарог і чарговасьці іх правядзеньня; вывучэньня запасаў будаўнічых матар'ялаў (камень, клінкерныя гліны).

**VII. У галіне разьвіцьця комунальнай гаспадаркі:**

Актыўны ўдзел краязнаўчых арганізацый у плянаваньні комунальнага будаўніцтва ў раёне, у распрацоўцы проектаў пабудовы новых паселішч соцыялістычнага тыпу і перабудовы існуючых. Вывучэньне і апісаньне новастроек (фабрычна-заводзкага тыпу, колгасаў і саўгасаў).

**VIII. У галіне культурна-соцыяльнага будаўніцтва:**

Вывучыць становішча і прыняць актыўны ўдзел у складаньні плянаў і ў правядзеньні ўсеагульнага навучаньня, ліквідацыі няпісьменнасьці працоўнага насельніцтва раёну; становішча і пляны разьвіцьця профтэхнічнае, політычнае і партыйнае асьветы ў раёне; разьвіцьцё дашкольнага выхаваньня. Антырэлігійнае і інтэрнацыянальнае выхаваньне працоўных мас. Кінофікацыя і радыёфікацыя на службе соцбудаўніцтва ў раёне.

Разьвіцьцё сеткі і мерапрыемствы па ахове здароўя працоўных мас: амбуляторыі, больніцы, дамы адпачынку, санаторыі і г. д.

Барацьба за новы быт, распрыгоненьне жанчыны і ўцягненьне яе ў соцбудаўніцтва.

**IX. Па ўзмацненьню абароназдольнасьці краіны:**

Прыняць актыўны ўдзел сумесна з таварыствам Асоавіяхэму ў складаньні плянаў і пабудовы вайсковых тыраў для працоўнага насельніцтва раёну, газаўбежышч, арганізацыі выставак, куткоў і музэяў грамадзкай вайны і г. д.

**X. У галіне падрыхтоўкі кадраў:**

Выявіць патрэбнасьць у кадрах у галіне прамысловасьці; с-гаспадаркі (у розных галінах), комунальнай гаспадаркі, народнае асьветы, дасьледчае працы і інш. Вывучыць магчымасьці падрыхтоўкі кадраў у раёне і найлепшыя спосабы падрыхтоўкі.

У кожным раёне падрыхтаваць ня менш 5 інструктароў-краяведаў праз завочныя курсы пры ЦБК РСФСР.

Зусім зразумела, што тут даецца арыентовачная схэма тых работ, якія павінны быць праведзены ў кожным раёне ў галіне краязнаўства.

У паасобных раёнах гэта схэма можа быць пашырана, звужана і зьменена ў залежнасьці ад асаблівасьцяй раёну і наяўнась-

ці сіл. Краязнаўчая масавая навукова-дасьледчая праца зьяўляецца часткай працы па социялістычнаму будаўніцтву і ў гэту працу павінны быць уцягнуты масы рабочых, колгасьнікаў, розных спэцыялістаў і працоўнай інтэлігенцыі.

В. Самцэвіч.

**Заўвага рэдакцыі:** Гэты плян працы раённых краязнаўчых бюро рэдакцыя друкуе як прыкладны. Пажадана, каб мясцовыя краязнаўчыя організацыі абмеркавалі гэты плян і ўнеслі ў яго пажаданыя зьмены, папраўкі, дадаткі і г. д., якія ЦБК павінна будзе ўлічыць пры качатковым складаньні пляну працы на 1932 г.

## Рэзолюцыя Прэзыдыуму БАН аб становішчы краязнаўчай працы ў БССР.

Заслухаўшы даклад т. Серафімава аб становішчы краязнаучай працы, Прэзыдыум БАН зазначае: ня гледзячы на пэўны зрух па разгортваньню краязнаўчай работы (выяўленьне нацыянал-дэмократычных концэпцый у краязнаўстве, популярызацыя савецкага краязнаўства, сыстэматычнае выданьне часопісу „Савецкая Краіна“, выданьне мэтодычнай літаратуры) становішча краязнаўчай працы на мясцох на сёньня застаецца нездавальняючым: 1) да гэтага часу ня зжыты існуючыя сярод паасобных работнікаў шкодныя ліквідатарскія настроі да краязнаўчай работы; 2) краязнаўчыя організацыі ў абсолютнай сваёй большасьці не перабудавалі сваёй работы, выходзячы з конкрэтных задач социялістычнага будаўніцтва; 3) з боку ЦБК адсутнічала жывое кіраўніцтва нізавымі ячэйкамі; 4) слабы ўдзел у краязнаўчай рабоце наглядаўся і з боку савецкіх, профсаюзных і грамадзкіх організацыйі.

Выходзячы з таго, што нізавыя краязнаўчыя організацыі павінны быць першпачатковымі масавымі ячэйкамі навукова-дасьледчай работы, у якую неабходна ўцягнуць рабочых, колгасьнікаў і савецкую інтэлігенцыю, Прэзыдыум БАН пастанаўляе:

1. Уся работа краязнаўчых організацый у першую чаргу павінна быць накіравана на вывучэньне вытворчых сіл і природных багацьцяў краіны, вышуканьне дадатковых мясцовых рэсурсаў, якія могуць быць выкарыстаны ў інтарэсах разгортваньня социялістычнага будаўніцтва і хутчэйшага культурнага росту краіны, вывучэньне пытаньняў падняцьця ўраджайнасьці, укараненьне новых культур, садзейнасьць спэцыялізацыі раёнаў, колгасаў, саўгасаў і г. д.

2. Неадкладнай задачай, на якую павінны быць мобілізаваны ўсе краязнаўчыя організацыі, зьяўляецца ўдзел апошніх у дапамозе плянуючым органам на мясцох у складаньні генпляну і 2-й пяцігодкі.

3. Аднак, гэта ні ў якай меры не выключае неабходнасьці вывучэньня гісторыі (асабліва рэволюцыйнага руху, бытавых, санітарных і іншых проблем краю).

Краязнаўчыя організацыі павінны стаць важнейшымі рычагамі ўцягненьня працоўных мас у навуку і тэхніку.

5. У мэтах сапраўднага ажыцьцяўленьня ўвязкі ўсёй краязнаўчай работы з конкрэтным плянам социялістычнага будаўніцтва кожнага раёну, прадпрыемства, саўгасу, колгасу і шчыльнай сувязі з работай профсаюзных і грамадзкіх організацый устанавіць наступную сыстэму пабудовы краязнаўчых організацый:

а) Краязнаўчыя ячэйкі на прадпрыемствах, саўгасах, колгасах, школах і ўстановах; работа гэтых ячэек аб'ядняецца і накіроўваецца шляхам скліканьня мясцовых конфэрэнцый. Для плянаваньня работы ў раёне краязнаўчыя конфэрэнцыі абіраюць раённае бюро.

Для плянаваньня краязнаўчай працы ў БССР і ўвязкі яе з плянуючымі, гаспадарчымі, савецкімі профсаюзнымі і грамадзкімі організацыямі пры БАН організуецца ЦБК.

в) Прэзыдыум БАН ажыцьцяўляе кіраўніцтва ЦБК і ўсёй краязнаўчай працай праз організуемы для масавай і навукова-популярызатарскай работы сваіх інстытутаў масавы сэктар.

6. У сьнежні гэтага году склікаць конфэрэнцыю па краязнаўчай і масавай рабоце, абавязаць ЦБК правесьці падрыхтоўчую работу па скліканьню конфэрэнцыі. Не пазьней 1-га верасьня зацьвердзіць парадак дня конфэрэнцыі і склад яе.

7. Пры складаньні каштарысу БАН прадугледзець забесьпячэньне масавага сэктару і ЦБК патрэбнай колькасьцю інструктароў і матар'яльнае забесьпячэньне адпаведных курсаў і конфэрэнцый.

8. Даручыць тав. Серафімаву падрыхтаваць проект пастановы СНК аб разгортваньні краязнаўчай працы ў БССР.

## Па прыкладу Асіпавіцкага раённага бюро краязнаўства разгорнем соцспаборніцтва і ўдарніцтва ў краязнаўчай працы.

Соцспаборніцтва і ўдарніцтва — асноўныя социялістычныя мэтоды працы на фабрыках і заводах, у саўгасах, колгасах, у савецкіх, гаспадарчых і культасьветных установах — у краязнаўчых організацыях БССР амаль зусім не разгорнуты. У выніку гэтага слаба разгортваецца і дасьледчая праца краязнаўчых організацый, якая павінна быць цесна і неразрыўна зьвязана з нашым социялістычным будаўніцтвам

На заклік ЦБК аб пераключэньні ўсёй краязнаўчай працы на мэтоды соцспаборніцтва і ўдарніцтва адгукнулася пакуль што толькі Асіпавіцкае раённае бюро края-

знаўства, якое ў парадку соцспаборніцтва і ўдарніцтва абавязалася на працягу году (да 15. VI-1932 г.) выканаць ніжэйнаступнае:

1) усю краязнаўчую працу ў раёне падпарадкаваць задачам змаганьня за генэральную лінію партыі і выкананьня чарговых задач соцыялістычнага будаўніцтва, цесна ўвязаўшы краязнаўчую працу з працай гаспадарчых і плянуючых устаноў раёну;

2) уцягнуць у краязнаўчыя організацыі па кожнаму сельсавету ня меніш 30 чал., з якіх ня менш 30% рабочых і колгасьнікаў;

3) організаваць краязнаўчы музэй у раёне для абслугоўваньня і дапамогі ў вырашэньні задач соцыялістычнай рэконструкцыі гаспадаркі і культуры;

4) прыняць актыўны ўдзел у правядзеньні асноўных гаспадарча-політычных кампаній;

5) уцягнуць у краязнаўчую працу да 30% вучняў старэйшых груп сямігадовых школ раёну;

6) поўнасьцю выканаць свой гадавы плян працы;

7) дабіцца выпіскі „Савецкай краіны" усімі краязнаўчымі ячэйкамі і ня менш 30 экз. па раёну;

8) уключыцца і правесьці конкурс на лепшае монографічнае апісаньне колгасу, дасьледваць і скласьці апісаньне 2-х колгасаў;

9) дасьледваць глебу 2-х сельсаветаў (у мэтах вапнаваньня);

10) вывучыць шкоднікаў азімых і яравых культур у мэтах барацьбы з імі;

11) весьці сыстэматычныя фэнолёгічныя наглядаваньні ў раёне.

Асіпавіцкае раённае бюро кр-ва выклікала на соцспаборніцтва Стара-Дарожскае бюро краязнаўства.

Неабходна, каб па прыкладу Асіпавіцкага бюро кр-ва і іншыя краязнаўчыя організацыі БССР (бюро, ячэйкі) узялі на сябе пэўныя конкрэтныя абавязкі і сталі на шлях соцспаборніцтва і ўдарніцтва ў сваёй працы.

В. С—іч.

## Праца ЦБК за май-чэрвень 1931 г.

ЦБК працягвалася праца па пераводу краязнаўчых організацый на новыя організацыйныя формы (ячэйкі на вытворчых прадпрыемствах, пры школах, раённыя бюро) шляхам асабовага і пісьмовага інструктаваньня. Працягвалася праца па паверцы краязнаўчых выданьняў (мясцовых) і выяўленьню нацыянал-дэмократычных і наогул шкодных для соцыялістычнага буданіцтва ўстановак. Распрацаваны і разасланы на месцы ці апублікаваны ў „Савецкай краіне" матар'ялы: 1) аб падрыхтоўцы і ўдзеле краязнаўчых організацый у месячніку друку („Сав. Краіна" №5); 2) аб уключэньні ў працу аб падрытоўцы і правядзеньні ўборачнай кампаніі; 3) аб удзеле краязнаўчых організацый у падрыхтоўцы і правядзеньні сьвяткаваньня 11-годзьдзя вызваленьня БССР ад белапольскай окупацыі, зьбіраньні матар'ялаў, запісі ўспамінаў былых партызан і г. д.; 4) надрукавана і разаслана на месцы падлікавая ведамасьць у мэтах падліку краязнаўчых організацый БССР, іх складу і праведзенай працы. Наладжана сувязь з нядаўна з'організаваным Таварыствам пролетарскага турызму і экскурсій, часткова з СВБ.

ЦБК сабраны весткі аб усіх экспэдыцыях, якія былі намечаны рознымі навукова-дасьледчымі ўстановамі ў раёне і давесены да ведама раённых бюро краязнаўства. Праведзена падрыхтоўчая праца да організацыі комплексных экспэдыцый розных інстытутаў БАН і ЦБК (у Койданаўскі і Дубровенскі раёны).

З прычыны надзвычайна вялікай важнасьці вывучэньня залежаў торфу для прамысловасьці, вырашэньня проблемы апалу і інш. ЦБК распрацавана адозва да ўсіх краязнаўчых організацый аб вывучэньні тарфяных рэсурсаў у раёнах. Апрацаваны інструкцыі і програмы па вывучэньню і збору лекавых расьлін у БССР, па вывучэньню глеб, пераапрацаваны програмы фэнолёгічных наглядаваньняў і па вывучэньні карысных выкапняў (А. Крукоўскі). Прыступлена да складаньня програм і інструкцый па монографічнаму вывучэньню раёну і разьвіцьцю соцыялістычнай жывёлагадоўлі ў БССР.

Выданы №№ 5 і 6 часопісу „Савецкая Краіна".

Старшыня ЦБК т. Серафімаў каля $1^1/_2$ мес. працаваў у Хойніцкім раёне па пасеўнай кампаніі і аднначасова працаваў па краязнаўству (у справе популярызацыі краязнаўства, вывучэньня клясавай барацьбы на вёсцы і інш.).

Вялікім недахопам у працы ЦБК зьяўляецца амаль поўная адсутнасьць за гэты час непасрэднага жывога кіраўніцтва працай на мясцох з прычыны незапоўненасьці штату інструктароў. Гэты прарыў трэба ліквідаваць у самым хуткім часе.

## Аб завочных краязнаўчых курсах пры ЦБК РСФСР.

У сучасны момант, калі ў краязнаўчай працы пачынаюць прымаць удзел шырокія пласты рабочых і колгасьнікаў, пытаньне аб іх падрыхтоўцы да навукова-дасьледчай працы набывае асабліва вялікае значэньне. Магчымасьць атрымаць краязнаўчую падрыхтоўку, не адрываючыся ад сваёй вытворчасьці паляпшае далучэньне шырокіх працоўных мас да навуковага руху, накіраванага на вывучэньне свайго прадпрыемства, свайго колгасу і саўгасу і свайго раёну ў мэтах вырашэньня тых навуковых задач, якія высоўваюцца разгорнутым соцыялістычным будаўніцтвам.

Выходзячы з гэтага, Цэнтральнае бюро краязнаўства організуе завочныя краязнаўчыя курсы.

Праходжаньне поўнага курсу краязнаўства разьлічана на адзін год, альбо 24 заданьні.

Плян курсаў устанаўліваецца наступны:

1. Асновы савецкага краязнаўства—6 заданьняў.

2. Дыялектычны матар'ялізм і краязнаўства—6 заданьняў.

3. Прапрацаваўшы два асноўныя курсы, завочнік выбірае адзін з спэцыяльных курсаў, (12 заданьняў), задачы якога — прапрацоўка організацыі і тэхнікі навукова-дасьледчай працы. У сучасны момант намячаецца наступны пералік спэцыяльных курсаў: а) вывучэньне карысных выкапняў; б) гідролёгія (вывучэньне вод раёну); в) фэнолёгія (вывучэньне зьяў у жывёльным і расьлінным сьвеце ў сувязі з зьменай пораў году і пагодай); г) вывучэньне прамысловых жывёл; д) геоботанічныя дасьледваньні і сельская гаспадарка (вывучэньне расьліннага акрыцьця ў сувязі з глебай і горнымі пародамі, якія ўваходзяць у яе склад); е) вывучэньне насельніцтва раёну, як вытворчай сілы; ж) вывучэньне прамысловага прадпрыемства; з) вывучэньне колгасу і саўгасу; і) вывучэньне мясцовых шляхоў зносін.

Курсы праводзяцца шляхам пасылкі завочнікам заданьняў, якія апошнія павінны прапрацаваць, прыслаўшы сваю пісьмовую працу ў навучальную часьць курсаў для прагляду. Кожнае заданьне выконваецца на працягу двух тыдняў. Выключэньне робіцца толькі для далёкіх мясцовасьцяй.

Пасьля прапрацоўкі ўсяго курсу, прызнанай здавальняючай, і здачы асобнай заключнай працы завочнік атрымоўвае кваліфікацыю інструктара па краязнаўству.

Навучаньне на курсах бясплатнае для колгасьнікаў, бядняцка-серадняцкай групы сялянства, чырвонаармейцаў і вучняў. Рабочыя і служачыя ўносяць уступны ўзнос у разьмеры 1 рубля і за кожную лекцыю 25 кап. маркамі (прысылаюцца ўперад за кожнае заданьне).

Адміністрацыі завочных курсаў даецца права вызваляць курсантаў як ад уступных, так і чарговых узносаў пры прадстаўленьні падсьведчаньняў, завераных профсаюзнымі організацыямі альбо райвыканкомамі, аб нездавальняючым матар'яльным становішчы завочніка.

Прыём завочнікаў праводзіцца курсамі ў тэрміны: 15 кастрычніка, 15 сьнежня і 15 сакавіка і г. д. па трымэстрах. Пачатак заняткаў для першага прыёму—1 лістапада, для наступнага—1 студзеня і г. д.

На курсы прымаюцца ўсе працоўныя з 14-га гадовага ўзросту. Прыём робіцца на падставе пісьмовай заявы ,у якой паказваецца абраная падаўшым заяву спэцыяльнасьць (паводле пераліку спэцыяльных курсаў), а таксама заверанае пасьведчаньне аб узросьце, даведка аб соцыяльным становішчы і занятках, даведка аб прыналежнасьці да профсаюзу, даведка аб партыйнасьці; асобы, якія не знаходзяцца ў профсаюзе, прадстаўляюць даведку аб сваіх выбарчых правох.

Прыём заяў аб жаданьні паступіць на завочныя курсы адкрываецца 1-га ліпня па адрасу: Масква, Сафійская набережная, д. № 38, Цэнтральнае бюро краязнаўства, Завочныя краязнаўчыя курсы.

Уступны ўзнос высылаецца пры атрыманьні паведамленьня аб прыёме на курсы.

## Да краязнаўчых організацый і краяведаў-фэнолёгаў.

Гідро-мэтэоролёгічным Інстытутам Б.С.С.Р пры Аддзеле мэтэоролёгіі з 15/III-1931 г. організавана Фэнолёгічная Сэкцыя, якая апіраецца на 20 фэнпунктаў пры мэтэоролёгічных станцыях. Для больш дэталёвага вывучэньня біо-клімату БССР у 1931 г. мяркуецца пашырыць сетку фэнпунктаў з тым, каб ў 1932 г. давесьці іх да 100. На падставе матар'ялаў, якія будуць атрымлівацца з пунктаў сталай сеткі, краязнаўчых ячэек і аматараў фэнолёгіі,—магчыма будзе ўжоў бліжэйшы час атрымаць вельмі каштоўныя вынікі і прыступіць да вырашэньня шэрагу пытаньняў, якія маюць навукова-практычнае значэньне, як, напрыклад: фэнолёгічныя адзнакі зьмены пораў году і сувязь іх з мэтэоролёгічнымі адзнакамі, устанаўленьне больш дакладных паказчыкаў тэрмінаў пасеву розных с-г. культур БССР па фэнолёгічных адзнаках і г. д.

Выканаць гэтыя і шэраг іншых навукова-дасьледчых работ, намечаных Фэнолёгічнай Сэкцыяй, у сучасны момант досыць цяжка з прычыны нязначнай колькасьці сталых нагляданьняў у адных і тых-жа пунктах на працягу шэрагу гадоў.

З організацыяй у Гідра-Мэтінстытуце Фэнолёгічнай Сэкцыі, якая ў сваёй працы будзе апірацца на сталую сетку фэнопунктаў пры мэтстанцыях і краязнаўчых ячэек справа з фэннагляданьнямі, апрацоўкай іх і вырашэньнем шэрагу навуковых пытаньняў павінна стаць на сталыя рэйкі.

ЦБК і Фэнолёгічная Сэкцыя Гідра-Мэтэоролёгічнага Інстытуту зварочваюцца да ўсіх краязнаўчых ячэек прыняць актыўны ўдзел у організацыі сталай фэнолёгічнай службы ў БССР шляхам організацыі сыстэматычных фэнолёгічных нагляданьняў і адшуканьня фэнолёгічных нагляданьняў за мінулыя гады (у архівах, летапісах, дзеньніках і г. д.) і сваечасовай дасылкі ўсіх матар'ялаў у ЦБК і Гідра-Мэтінстытут. Нагляданьні краязнаўчых гурткоў і паасобных фэнолёгаў трэба лічыць вельмі каштоўнымі, бо для дакладнага вывучэньня біо-клімату патрэбна вельмі густая сетка пунктаў.

Фэнолёгічная Сэкцыя Гідро-Мэтэоролёгічнага Інстытуту просіць уважліва аднесьціся да організацыі новай фэнолёгічнай службы і паведаміць свае дакладныя паштовыя адрасы і прозьвішчы паасобных наглядальнікаў,

для наладжаньня неабходнай сувязі, дасылкі розных матар'ялаў, інструкцый, блянкаў і г. д.

Адрас: Менск, Шырокая, 28, Гідро-Мэтэоролёгічны Інстытут, Фэнолёгічная Сэкцыя.

Лісты з навуковымі матар'ялямі і наглядаваньнямі перасылаюцца бясплатна на падставе пастановы СНК СССР ад 28/VIII-1929 г. распараджэньня НКП і Т ад 18/III-1930 г.

Краязнаўчыя організацыі матар'ялы дасылаюць у ЦБК.

Гідро-Мэтэоролёгічны Інстытут.
Цэнтральнае бюро краязнаўства.

## Краязнаўчыя організацыі ўзмацняюць абароназдольнасьць СССР.

У адказ на шалёную падрыхтоўку вайны супроць С.С.С.Р. з боку капіталістычных дзяржаў, краязнаўчыя організацыі БССР прыступілі да збору сродкаў на пабудову самалёту „Краявед".

Сродкі ўжо паступілі ад наступных краязнаўчых організацый:

1. Нараўлянскага райбюро краязнаўства . . . . 131 р. —
2. Стара-Дароскага райбюро краязнаўства . . . 53 р. —
3. Смалявіцкага райбюро краязнаўства . . . 35 р. 50 к.
4. Ц. Б. К. . . . . . 46 р. 75 к.
5. Горацкага райбюро краязнаўства . . . 21 р. 30 к.
6. Асіпавіцкага райбюро краязнаўства . . . 16 р. 55 к.

Усяго паступіла 304 р. 10 к.

Збор сродкаў працягваецца.

Т. К.

## ПАПРАЎКА.

У № 6 часопісу „Савецкая краіна" за чэрвень 1931 году дапушчана буйная памылка друку, якая адну з адказьнейшых формулёвак даводзіць да поўнай бяссэнсіцы.

У артыкуле Ф. Садоўскага: „Аб недаацэнцы краязнаўства" на 3 старонцы часопісу ў 1 і 2 радкох надрукавана: „СССР у трэці рашаючы завяршае пабудову фундаманту і прыступае да пабудовы соцыялістычнай экономікі". Трэба-ж было надрукаваць: „СССР у трэці рашаючы завяршае пабудову фундаманту соцыялістычнай экономікі і прыступае да пабудовы соцыялістычнай экономікі".

**Рэдакцыя.**

Выдавец—**Беларуская Акадэмія Навук.**

# Зьмест



## ОФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ



## ХРОНІКА

---

Цана 50 кап.